


# Genius loci

КОНКУРС МАЛАДЫХ ЛІТАРАТАРАЎ
ДА СТАГОДДЗЯ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Мінск
І.П. Логвінаў
2012

**Geniush loci** : творы пераможцаў літаратурнага конкурса да стагоддзя Ларысы Геніюш / Укладальнік А. Хадановіч. – Мінск: І.П. Логвінаў, 2012. – 180 с.

ISBN 978-985-6991-77-9.

Гэты зборнік – творчая справаздача пераможцаў конкурса маладых літаратараў да стагоддзя Ларысы Геніюш. Конкурс ладзіўся ў 2010 годзе Беларускім ПЭН-Цэнтрам. Яго вынікам сталі майстар-класы ў чэшскай Празе – горадзе, у якім прайшлі маладыя гады легендарнай беларускай паэткі.

**УДК 821.161**
**ББК 84Беи**

**ISBN 978-985-6991-77-9**

# Марыя Паўлоўская

## Маналог Ларысы Геніюш

Вы памятаеце дзень,
калі вы зрабілі свой першы грэх?

Калі абліць душу кіслатою,
што стане з сэрцам?

*Ойча наш, які ёсць у нябёсах…*
у нябёсах мая вера…

Тут на руцэ пульсуе кроў —
яна жадае на волю…
Толькі
гільятына
стане выратаваннем яе.

*…няхай будзе воля Твая...*

У той старой, вунь, каля
помніка Леніну,
дзве
касы.
А на руках бранзалеты,
яна смяецца бяззубым ротам.

*...і прабач нам грахі нашы...*

З рукі вецер вырваў
шарык,
ён паляцеў.
Паляцеў спытацца ў маці-зямлі:
што такое Бацькаўшчына?
Мне казалі, што яна — жанчына,
на скронях у якой
сівыя валасы.

Божа! Навошта мне кайданы,
калі рукі трымаюць вандалы?
*...бо Тваё ёсць Царства і сіла і слава…*
Тваё, Радзіма…

# Андрэй Адамовіч

## Воўк

брат рэма воўк
залізваў ягоныя раны аж пакуль
цела не стала зямлёю
пайшоў на поўнач

устаў над шырокаю ракою
воўк-іншаходзец

доўга расціў горад

і калі гусі казалі яму пра га-га
воўк не слухаў
і калі сабакі спалі ў гэты час
воўк не слухаў

ён глядзеў як залатая стужка
ляціць між дамамі за дзяўчынкаю
як хтосьці ідзе карнізам між вокнаў
як сястра забівае брата
як людзі робяць свой выбар і памыляюцца

як жонка падманвае мужа а муж прабачае
як горад скараецца і як горад не скараецца

воўк не стаміўся глядзець
воўк не стаміўся плакаць

влтава цячэ ніжняй халоднай плынню
хвост б’е па хвалях

невялічкі нязграбны воўк
воўк-іншаходзец

## Дзень Паэзіі Смерці Дзень

Будзе горача і вільготна вакол тваёй дамавіны.
А мы будзем уздымаць кубкі і піць салодкі воцат
І горкую праўду тваёй смерці
У ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ Ў СМЕРЦІ ДЗЕНЬ.
І мы будзем апускаць пальцы ў твае пухліны.

У тваё сэрца, чорнае, як думкі кацапа,
У твае лёгкія, чорныя, як Чорнае мора.

Вось так, Сяргею, вось так, Сяргею,
Жыццё выявілася карацейшым за цыркуль.

І не паспеў ты сказаць «*ВОХ*»,
І не паспеў ты напісаць мадрыгал
У нябесную пракуратуру,
Як яно выйшла з цябе.

Жыццё выйшла з цябе, як цыркуль з порнаакторкі.

І калі яно з цябе выходзіла,
На апошніх яго міліметрах
Нарадзіўся гук.
Гэты гук быў адзін у адзін гук выхаду цыркуля з порнаакторкі.

А мы стаялі ў цябе ў галовах, нахіленыя, і пачулі:

*О, маё Паазер'е!*
*Маё Палессе!*

*О, маё Паазер'е*, — спяваў ты, — *твае азёры ляжаць*
*Шнарамі аспянымі на твары маёй краіны. О, маё Паазер'е,*
*Твае паазеры.*
*Твае паасобныя зеры.*
*І паазеры.*

Нарэшце ты захрыпеў, і мы ўздыхнулі з палёгкаю, але

*О, маё Палессе,* — працягнуў ты, — *твае лясы —*
*Гэта штосьці з чымсьці. Гэта як цыркуль у роце*
*порнаакторкі.*
*Гэта нібы літр гарэлкі пасля працоўнае змены,*
*Гэта як дынастыя сталявараў*
*У культвандроўцы. Гэта як тры латышы на стрэме.*
*Гэта…* — ты нарэшце збіўся з думкі.

*О, маё Паазер'е!*
*Маё Палессе!*

Зацягнуў ты сваю нудотную песню.
І яна цягнулася, нібы гук віргана над голым стэпам.

*О, маё Палессе, твае палясоўшчыкі жаруць жывых вожыкаў*
*І думкамі працінаюць сцены. Твае рэкі такія марудныя,*
*Што вада ў іх ператвараецца ў рыбу, пакуль дацячэ да мора.*
*А рыбы гэтыя такія пляскатыя, што на адным іх баку*
*Жыве Ян Гус, а на другім — Караль Густаў Ян.*

— Хто жыве? — не зразумелі мы.
— Ну жыве там сабе хтосьці. Вам якая розніца? — адказала твая дамавіна.
Ты працягваў.

*О, маё Паазер'е!*
*Маё Палессе!*

*О, маё Менскае ўзвышша!*
*Твае пагоркі нагадваюць мне сельскагаспадарчую акадэмію*
*З яе шасціногімі прафесарамі і рагатымі дацэнтамі.*

*О, мая Старая Літва!*
*Явары з тваіх легендаў — слупы дэмакратыі майго краю.*
*Паляўнічыя з тваіх вершаў — адзіная абарона беспрытульным.*

*О, мой чацвёрты энергаблок!*
*Я і цяпер бачу, як выходзяць з тваіх вачнічаў сінія касачы,*
*Як лезе адтуль чабор. Як раз'язджаюцца з тваіх вантробаў*
*Машыны, поўныя каханнем да Бараўлянаў.*

*О, мае Бараўляны!*

— Ну, усё, усё!.. — занепакоіўся адзін з нас. —
Гэта што, СМЕРЦІ ДЗЕНЬ, або яму жарты?
— Але гэта і ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ таксама, — адказала дамавіна.

*О, маё Паазер'е!*
*Маё Палессе!*

*Між вамі ляжаць мае Бараўляны,* — усё спяваў ты нудотную песню, —
*Там паветра такое шчыльнае, што цыгарэтаю я рабіў у ім дзіркі.*
*Там дактары такія барадатыя, што кожны з іх напісаў па «Капітале».*
*Там пухлінаў так шмат, што можна выкласці дарогу ад*
*Палесся да Паазер'я.*

*О, мае Навінкі!*

— *Але дзе тваё сумленне?!* — запытаў адзін з нас.

*О, мая Берасцейская крэпасць!*
*Твае сутарэнні дагэтуль хаваюць герояў мінулага часу,*
*Твае сутарэнні цяпер нараджаюць герояў загаднага ладу,*
*Твае сутарэнні як мамы ўлонне паэту…*

на гэтым

*О, маё Паазер’е!*
*Маё Палессе.*

гук выхаду цыркуля з порнаакторкі абарваўся
знянацку.
Што характэрна,
пры гэтым на твары
нам паляцелі
дробныя кроплі.

І мы апусцілі цікаўныя пальцы
У твае пухліны, у сэрца тваё, у твае лёгкія.

І кожны адчуў, што цела тваё льецца.
— Што гэта льецца? — адзін запытаў.
— Гэта льецца ПАЭЗІЯ, — сказаў другі.
— Гэта льецца СМЕРЦЬ, — сказаў трэці.

З ПАЭТА ЛІЎСЯ ДЗЕНЬ.

## Хвалі

Я сядзеў уначы пры лецішчы,
Калі знічка сарвалася з неба
І схавалася за вершалінамі елак.

— Цікава, — падумаў я, —
Ці застаюцца ад іх кругі на небе,
Як ад карасіных вуснаў,
Што з’яўляюцца над люстрам стаўка,
Або ад каменьчыка, які
У ім знікае?

А калі хвалі ўсё ж разбягаюцца
Па начным небе,
Дык якую форму яны маюць?
Ці гэтыя засмучэнні прасторы
Між зорамі і каметамі
Маюць промні, як znічкі,
Іх спарадзіўшыя? Ці ўсё ж не маюць?

Цікава, а калі згасае чалавек,
Дык якую форму мае хваля,
Калі праходзіць па газетах і ў эфіры?
Ці залежыць гэта ад формы
І колеру чалавека?
Ці толькі яе даўжыня вызначаецца
Вагою асобы?

На стале ў садзе гарэла лямпа,
І хто ведае, да чаго б я дадумаўся,
Але тут на ганак выйшаў мой сівы дзед:
— Пайшлі, Андрэю, — сказаў ён. —
Пазнаёмім карасёў
З хвалямі ад дынаміту.

# Доктар шаптальнік

я нічога не магу сцвярджаць — гэта проста гіпотэза

у маскве ўзарвалі станцыю метро
у крамцы ў пераходзе мясцовая урката
пакрыўдзіла нейкага аўтарытэта што быў аднекуль заехаў
і ён адпомсціў

а нікалаеўка пацярпела нібы ад фашыстаў у вялікую айчынную
тады сто чалавек што прыехалі з сургута захапілі вёску ўсе са свастыкамі
як у фільме «ідзі і глядзі»

стралялі з сапраўдных калашнікавых
хто ведаў што халастымі
баб білі прыкладамі і па зямлі цягалі
замкнулі ўсіх у дзвюх адрынах а не падпалілі

а восем год таму загінула дзяўчынка якую ён кахаў
мянты збілі яе гумовымі кіямі на вуліцы
і ён вырашыў што будзе як чэ гевара
але не прайшоў па конкурсе ў мед пайшоў на хімічны

на другім курсе зразумеў што рабіць выбухоўкі тут не вучаць
у войску з яго шмат здзекаваліся а пасля здзекаваўся ён
і нават здаў экзамен «гонар і майстэрства»

калі ў краме набываў балты
прадавачка глядзела на яго і думала што лепш бы ён болт укруціў ёй
а яму ўсе жанчыны былі похер

ён прыехаў ужо дадому і глядзеў тэлевізар
там акурат ішла святочная імпрэза
яе не перарвалі ён зразумеў што ўсё прайшло як і мела

запарыў гарбаты думаў трэба
падоўжыць абанемент у бібліятэцы
напісаць рэцэнзію на кнігу вершаў аднаго фармаліста

## Беларуская мова Ш.

Калі я думаю пра беларускую мову,
У галаву найчасцей прыходзяць згадкі пра снарады і міны,
Што ляжаць у нашай зямлі, дагэтуль не разарваныя.

Гэты вобраз не тое што ўдалы, але ў ім скандэнсавана
Шмат метафараў, якія просяцца ў радок разгарнуцца.

Па-першае, можна развесці пра найлепшых
Сівых алкаголікаў з баскскіх бараў, якія толькі і чакаюць
Чарговага выбуху, зладжанага Бен Ладэнам і Бен Міраю.
Пра дым, які ўздымаецца над іхнімі люлькамі,
Які абвівае іх берэты, іх нацыянальныя берэты,
Палатном на нацыянальную мару.

І як яны глядзяць адзін на аднаго праз шклянкі, поўныя півам,
І з іх старэчых вачэй цякуць слёзы.

Вы ж бачылі неаднойчы, што старыя заўсёды плачуць,
Гэта таму, што яны ведаюць: міны мусяць разарвацца.

Міны мусяць разарвацца,
Але ніколі не разарвуцца.

Па-другое, можна зацерці пра чорных капачоў.
Пра баскетбольную каманду на пенсіі,
Якой не хапае грошай на тое, каб карміць з далоняў катоў і сабакаў.

Таму, узваліўшы на плечы рыдлёўкі, яны,
Панурыя, ідуць у лес, каб збіраць снарады, нібы бутэлькі.
І чым далей яны заглыбляюцца ў лес,
Тым цяжэй іх убачыць на фоне чорнае вільготнае кары
Нашых лясоў. І вось яны прыходзяць на месца і па старой звычцы
Кідаюць трохачковыя рыдлёўкі туды, дзе ляжаць неразарваныя
снарады.

І ніводзін яшчэ не патрапіў,
Бо ў іх моцна калоцяцца рукі.

Па-трэцяе, зноў жа можна развесці пра чорных капачоў.
Вось памірае лаўрэат дзяржаўнай прэміі па літаратуры,
Ці прафесар факультэта беларускае філалогіі і культуры,
І дванаццаць студэнтаў-няўдахаў нясуць яго дамавіну,
Бо іначай заліку ім не ўбачыць. А за дамавінаю ідуць
Няўдахі-дацэнты і маладыя пісьменнікі, каб на халяву
Нажэрціся.

Яны падыходзяць да ямы і бачаць,
Што ў зямлі шаворкаюцца тры нігеры ў майках з нумарамі
Чатыры, восем, дванаццаць.
І гэта, сябры мае, яны самыя — чорныя капачы.
Адзін з іх раптам хапае нешта і кідае ў дамавіну,
Пакуль гэтае нешта ляціць, усе няўдахі бачаць, што гэта —
Снарад. І яны кідаюць дамавіну і хаваюцца за мармуровымі помнікамі.

Тады чорныя капачы вылазяць з ямы.
Падыходзяць да дамавіны. Бяруць снарад
І разбіваюць яго аб галаву нябожчыка, як какосавы гарэх.
Высыпаюць з яго тры кілаграмы какаіну.
І нюхаюць, нюхаюць яго проста з ордэнскіх планак памерлага.

І пакуль чорныя капачы смяюцца і лупяць адзін аднаго па спіне,
І пакуль яны засыпаюць нябожчыку какаін у нос і абсыпаюць яго ўсяго
Чысцюткім какаінам — ажно так, што ён пачынае нагадваць
Торт пад какосавым пілавіннем,

Няўдахі, што сядзяць за мармуровымі плітамі і крыжамі,
Плачуць, бо што гэта за халера,
Што гэта за халера?!

Адкуль гэтыя чорныя капачы,
Адкуль гэты сраны какаін,
Што наогул адбываецца?!

І яны бягуць з цвінтара і раптам бачаць вялікі
БІГБОРД
І на ім — тры нігеры з мінамі ў руках і надпіс
«ЗА ЧОРНЫЯ КАПАЧЫ!»

Няўдахі вар’яцеюць канчаткова.

Па-чацвёртае, нельга не сказаць пра грыбнікоў,
Якія пра беларускую мову ведаюць толькі з дзённікаў унукаў.
Як раптам БАБАХ — і нага ляціць, нібы
Вялікі, цяжкі пугач, збіваючы з галінаў беларускае золата.
І нельга сказаць, што грыбнікі нешта страчваюць,
Бо нага і так ужо амаль не працавала,
Затое да іх прыходзіць канчатковы, нясцерпны адчай,
Бо трэба ехаць у Нямеччыну па пратэз,
А беларуская мова — нацыянальная спадчына,
З якою праз мяжу не пускаюць.

Па-пятае, абавязкова трэба ўславіць
Жаўнераў нашых інжынерных частак,
Якія гадамі не вылазяць з лясоў,
Сядзяць там, смярдзючыя, як сто кітайцаў, кожны
І шукаюць снарады і міны па ціхуткіх сігналах,

Напружваюцца, слухаюць — і вось *«піііііііііііііііі»*
— Здзец і гэтаму, — кажа сяржант і б’е рыдлёўкаю зямлю.
А пасля выцягвае міну або снарад з-пад глебы
І асцярожна, нібы дзіця, нясе яго да купы.

І калі б хто з гэтых жаўнераў
Падышоў да купы і пачаў слухаць,
Ён бы адразу зразумеў вельмі важную рэч,
Завыў не раўнуючы падбіты «Месер»,
Разматаў сваю анучу і напісаў бы на ёй крывёю:
«СПРАВАЗДАЧА» і «ЗЛЕВА — РЭШТА»…

## Хрыстова пупавіна

Калі птушкі, звяры і магі спявалі Ісусу песні, а Ён:

— хапаў сябе за ногі, ногі засоўваў у рот,
— даваў кіруючыя парады сінедрыёну,
— сцаў і сраў у далоні рымскім легіянерам,

рымскія легіянеры, прасветленыя, кідалі службу,

а Язэп, які да гэтага свята меў сваё асабістае стаўленне,
адрэзаўшы малому пупавіну, абкруціў яе вакол шыі
і павёў сям’ю ў Егіпет.

І так ён пасля і хадзіў з гэтаю пупавінаю,
якая нагадвала яму хвост віфлеемскае зоркі
і яго чорнае і ссохлае жыццё.

А перад габрэйскім Вялікаднем, пакуль Язэп спаў,
пупавіну нехта скраў.
Язэп плакаў, бо ведаў, што на добрае ўжо не павернецца,
і ягоныя рукі не падняліся ўскрыць ягняці горла.

А на пупавіне пасля павесіўся Юда,
ён і скраў яе, пупавіну, бо не было тады
горшага чалавека ва ўсёй Юдэі, а можа, нават
і ва ўсім свеце.

А пупавіну пасля знайшлі нейкія жыдкі
і прадалі яе першым хрысціянам за трыццаць срэбных рублёў.

Пупавіну доўга хавалі і перадавалі адзін аднаму
розныя манахі і сябры патаемных арганізацыяў.

А яшчэ яе шукаў Дэн Браўн, але не знайшоў,
дзе яна цяпер, ніхто не ведае.
Хоць шмат хто верыць, што ў Дэна Браўна.

Хто ім забароніць верыць у гэта.
Я дык вось веру, што гэтая пупавіна на маёй шыі,
а раней была на шыі майго бацькі.

Бо што так цісне мне горла?
Што так цісне?
Што так замінае дыхаць,
калі я гляджу на цябе і на нашага сына?

Шмат хто называе гэта каханнем, любоўю або мілосцю.
А я называю гэта Хрыстоваю пупавінаю.
Бо часам яна цісне мне так балюча,
што цяжка паверыць, нібы гэта каханне, любоў або мілосць.

Хоць, напэўна, такое яно і ёсць, каханне да самае смерці,
любоў, пра якую гаварыў нам Ісус.

# Хайдэгер лох

Метрапалітэн у гэтым горадзе пабудавалі на выпадак тэрмаядзернай вайны.
Ёсць таксама апокрыф, што збіраліся здымаць тут фільмы жахаў.
У любым разе, абедзве гіпотэзы падаюцца слушнымі.

Але ён сабе пасляхова функцыянуе:
з помпаю адкрываюць новыя станцыіі, штрэйкбрэхеры кіруюць цягнікамі,
і штосьці там пра ўсё гэта пішуць у газеце «Чырвоны каляінец».

І вось аднаго разу машыніст спыняе цягнік на цэнтральнай станцыі.
І пачынае пераапранацца ва ўсё белае.

Людзі сабе выходзяць, ідуць кудысьці. Людзі заходзяць,
маленькія атамы, якія ў прынцыпе гатовыя да атамнай вайны,
але неяк пра яе не думаюць. Машыніст зачыняе дзверы.

І нечага чакае, увесь у белым. Атамы пачынаюць броўнаўскі рух,
знаходзяцца сляпыя і саслеплыя, якім тэрмінова патрэбна сесці,
хтосьці кажа ў перагаворнае прыстасаванне: «Хайдэгер — лох», —
і яшчэ не ведае, наколькі гэта нагадвае праўду.
Але збольшага ўсе піздзяць па мабільных і наогул нічога не заўважаюць.

Міліцыянт падыходзіць да кабіны машыніста і грукае кійком у шыбу.
Машыніст спускае порткі і паказвае яму хуй.

І рэзка націскае на газ, або на што там трэба націскаць.
Сляпыя лятуць долу, саслеплыя пысамі б'юцца аб парэнчы.
Але збольшага ўсе працягваюць піздзець па мабільных.

Праз некалькі перагонаў у вагонах пачынаецца паніка.
Адзін апазіцыянерчыг крычыць: «Аааа, на бабровых перагонах, Аааа і зялёны папугай…»
Але ніхто на яго не звяртае ўвагі.

І вось у той момант, калі ён і сам перастае звяртаць на сябе ўвагу,
Цягнік уябошваецца ў другі цягнік, які ягоны машыніст вядзе насустрач.

Тыя дзяды, якія засталіся жывыя, як адзін першае што сказалі:
«Ніхуясе!..»
А бабкі сказалі: «Ногімнеўрот!..»
Умомант, карацей, забыліся пра разбэшчаную моладзь, неадукаваную штопіздзец.

А вось маладыя ўпалі ў роспач.
Ляжалі ў бальніцах на белых з чырвонымі плямамі ложках, у палатах і калідорах,
малады чарнявы хлопец з адарванаю нагою і ягоная дзяўчынка, што амаль і не пацярпела,
з тварам белым, нібыта старонка, прызначаная для заўвагаў чытачоў «Быцця і часу»,
кнігі Хайдэгера, на якой ніколі нічога і не пішуць,

ляжалі і маўчалі. Да іх прыходзілі журналісты і культурыспрэм'ер-міністр і шмат яшчэ хто прыходзіў,
а яны ўсё маўчалі, нібы была ў іх нейкая страшная таямніца.

Бо калі іх кідала аб каменныя сцены вагонаў,
калі яны былі на мяжы, якую адчувалі неяк скураю,
як рыбы адчуваюць пагойдванне вады,

яны і сапраўды займелі адну на ўсіх страшную таямніцу.

І вось яны ляжалі, раскіданыя па ўсіх гарадскіх бальніцах,
і не ведалі, што рабіць з гэтай страшнай таямніцай.

Яны бо зразумелі, чаму машыніст апрануўся ва ўсё белае.
Белае штопіздзец. Такое белае, што нават гедрапірыт у параўнанні абламаецца.

А я дык вось не ведаю, што яны там зразумелі.
Бо мяне не было ў тым цягніку, і не было ніколі наогул такога рэйсу ў тым горадзе,
бо ў тым горадзе і метро ніколі не было.

Бо той горад зруйнавалі яшчэ ў вайну.
І хто толькі ні думаў яго адбудаваць, але не даваў рады.

Можа, гэта яны і зразумелі, маленькія атамныя рыбкі,
якія неяк скураю адчувалі сваю прывіднасць.

Яе кожны можа адчуць скураю.
Прывіднасць у вадзе часу.
Прывіднасць у вадзе быцця.
Прывіднасць у вадзе Хайдэгера.

***

выходзіш на двор з разбітымі кулакамі
святкавалі ўчора твае дваццаць чатыры
спачатку з мэблі выпілоўвалі арыгамі
на салодкае — сэкс у зассаным сартыры

выходзіш на двор з разбітымі кулакамі
бегаў па піва забыўшыся на кастэт —
ён табе паставіў каленам паміж нагамі
твае пальцы сустрэліся з яго зубамі

— масавы тэт-а-тэт

зранку ўсё гэта як леташнія навіны
толькі згадаеш — глядзелі надвор’е і спорт
добра дажджы на дарогах пакінулі каляіны
добра ў фінале Макс Мірны выйшаў на корт

здаецца і свята але з прадказальным фіналам
чагось не хапае каб быць у сапраўднай журбе
нібыта ў школу ідзеш з поўным жуйкі пеналам
дый нагавіцы па самыя яйцы ў лайне

гэта не ты ўсіх учора паставіў ракам
гэта святыя маліліся за цябе

# Юлія Аляксеенка

## Смерць Аўтара

*Зачын*

Чаму, пытае ён маці,
чаму
вас з татам не садзяць
у турму
?
вы ж кожны дзень
чытаеце
забіваеце
Аўтара

*1*.

рос быццам
прыстойным хлопцам.
дрэнныя гены —
бацькі-інтэліген-
ты.
вырас чытачом.

*2.*

Ён не хацеў забіваць
Яго змусілі

Ён нават быў за
Альтэрнатыўную службу
Не, не хацеў забіваць
Ён быў рэдактарам
Хто вінаваты
Такое здараецца
Опа — і ты рэдактар,
Ну, заўжды рос чытачом,
Такіх трэба шкадаваць
Я вам кажу, яго змусілі
Даслалі рукапіс
Цікавы
Досыць сарказму
Досыць горычы
Досыць болю
Сёння такое любяць
Як любяць — купляюць
Не хацеў забіваць, кажу
Проста аналіз тэксту
Тэлефануе Аўтару
а там нейкая кабета ну проста захлынаецца, зараз разарвецца:
— Аўтара няма. Ён памёр.

*3.*

Чытач забіў Аўтара.
Бегае цяпер як дурань,
усё яму забаўкі:
гуляецца:
у хованкі:
з сэнсам:
то ён знойдзе сэнс,
то сэнс знойдзе яго,
хутчэй бы хто мянтоў выклікаў.

*4*.

Так адзін раз
збочыш не туды
ўсё жыццё будзеш
дэканструктывістам

*4/2*.

мы — адмысловая паліцыя.
мы — адмысленчая паліцыя.
мы — ад мы слова і палітыка.
Аўтар уваскрос.
сапраўды ўваскрос.
фарбуйце яйкі.

*5*.

бяздарная смерць
напаткала
таленавітага чытача
так будзе з кожным

*6*.

— што вы скажаце ў сваё апраўданне
?
мы будзем судзіць вас
паводле законаў ваеннага часу
ў каменданцкую гадзіну
пры 451 градусе паводле фарэнгейта
па вас не будзе званіць звон
чорнага замка альшанскага

вы нам злачынства — мы вам пакаранне
вы нам крэслы — вы нам грошы
ніякіх лістоў рымскаму сябру на развітанне
ніякіх лістоў з-пад коўдры
дасланых на ферму
харэ ламаць камедыю яна не боская
я вам не дама з сабачкам я следчы
разумееце следчы
што вы скажаце ў сваё апраўданне?

*7.*

просіць асадку і аркуш.
пайшоў пошапт па шапках:
— во паскудзіна гэты Аўтар.
памёр, уваскрос, забіў — а ўсё адно піша.

*8.*

вока за вока.
гэта
Аўтарава крэда.

*Фінальная*

Слухай, баюшкі-баю,
песню Барта і маю:
    Гэта Аўтар з аўтаматам
    забівае маму з татам.

# Пераклады

## Рычард Бротыган (з ангельскай)

### Паэма пра каханне

Як файна
ранкам прачынацца
ў адзіноце
калі не трэба казаць камусьці
што ты іх кахаеш,
калі ты іх не кахаеш
ужо.

### Мой нос старэе

Авохці мне.
Даўгі лянотны верасень глядзіць
з люстэрка
пацвярджае, што гэта праўда.

Мне 31,
і мой нос
старэе.

Гэта пачынаецца недзе на палову
цалі
ніжэй за пераноссе
і па-старэчаму
спускаецца
на наступную цалю ці каля гэтага
і там спыняецца.

На шчасце, рэшта
носа пара́ўнальна
маладая.

Я спадзяюся, дзяўчаты
будуць мяне хацець і
са старым носам.

Нібы чую іх цяпер,
бязлітасных сучак!

«Ён, канечне, міленькі,
але нос у яго
стары».

**Закаханая лямпачка**

У маёй прыбіральні ёсць лямпачка «Гармонія Хаўз»
на 75 ват, не яркая, працяглага выкарыстання.
Я жыву ў адной кватэры
ўжо больш за два гады,
і лямпачка
ўсё яшчэ выпраменьвае.
Я веру, што яна мяне кахае.

**Чаканне**

Падалося,
гады прайшлі,
пакуль
я сабраў
букет
пацалункаў
з ейных вуснаў

і змясціў яго
ў вазу колера світанку
ў
маё
сэрца.

Але
чаканне
было таго вартым.

Бо
я
кахаў
быў.

**30 цэнтаў, два квіткі, каханне**

Засяроджаны на думках пра цябе,
я сеў у аўтобус
і аддаў 30 цэнтаў — кошт праезду —
і папрасіў у кіроўцы два квіточкі,
пакуль паспеў зразумець,
што я быў
у адзіноце.

**Рэстарацыя**

Крохкія, амаль згаслыя 37,
яна ўваходзіць у свой заручальны пярсцёнак, бы ў транс,
і ўперваецца ў пусты кубак ад кавы,
як быццам глядзіць у рот памерлай птушкі.
Вячэра скончылася. Ейны муж сышоў у
прыбіральню.

Ён хутка вернецца, і надыдзе
ейная чарга
ісці ў прыбіральню.

**Апошняя прагулянка**

Працэс памірання
падобны да хованак
у дзіўным горадзе
позна ўвечары
калі халодна
і дождж,
і вось ты адзін
ізноў.

## Іржы Жачак (з чэшскай)

**Блюз пра начны трамвай**

Начны трамвай для гультаёў, гулякаў,
для чорных лебедзяў,
ды дзевак, што ледзь збеглі ад матулі,
ды ўсіх без выключэння начных птахаў,
а паспалітыя ўжо даўно паснулі.

А паспалітыя ў вісоне целы песцяць,
наўрад ці іх да белі штось распаліць,
не будуць ад кахання
на сценку голую ў шаленстве лезці,
анёла ўпоцемках ніколі не спаткаюць.

Анёла, што ўсё навокал лае,
што спыніць свой трамвай дзе ты захочаш,
вязе нястрымны смех
вагон адчаю,
ты ж чарку за яго кульні — уночы ж.

На мосце — космас лямпаў палахлівых.
Самота — шлёндра,
характар ейны сучы прыгадай,
а нас, як слова божае, цнатлівых
вязе начны трамвай
наўпрост у рай.

# Аляксей Арцёмаў

* * *

Паслязаўтра адбудзецца жнівень, як цуд нечаканы,
І аздобіць на золку празрыстай расою траву,
Захавае зямлю ад прадвосеньскіх пасмаў туману
І напоўніць зярнятамі чорнымі спелы кавун.

Ліпень доўга смяяўся — то ветрам нагоніць залеву,
То спякотаю з глебы апошнія кроплі збярэ…
Толькі веру: цяпер гэта пройдзе, мая каралева,
Будзе жнівень, з табою сустрэцца змагу ў рэшце рэшт.

«Будзе жнівень», — я зноў паўтараю. Ён прыйдзе, паўстане,
Месяц жоўтых світанкаў, пяшчотнай азёрнай вады.
Хай жа ён падаруе адвечную радасць кахання,
Каб яна заставалася з намі заўжды. Назаўжды!

## Каралеўства водараў

Ты падарыла каралеўства водараў,
Мянеператварыла ўміг у волата,
Я ўбачыў нечакана ў мутных водах Ра,
А ў вогнішчы заходу — россып золата.

Да зорак падымаліся — не бачылі,
Што вокамгненна ўвесь сусвет руйнуецца.
Мы верылі: не будзе больш няўдачаў і
Зноў свята зазірне на нашу вуліцу.

Але жыццё надзеі гоніць марныя,
Мы ў каралеўстве водараў не першыя…
Муз, пэўна, не завабіць мемуарамі.
Што застаецца? Толькі крэмзаць вершыкі.

* * *

За кожнай недамоўленасцю — слова,
Яно жыве дый будзе жыць, пакуль
Нястомны, жорсткі кіраўнік — аловак —
Шукае ноччу прагную руку.

Ад літар аркуш хутка пацямнее,
Бо ты бяжыш за рыфмай наўздагон…
А зранку боль, у галаве завея,
І усё звычайна: кава, цытрамон…

* * *

Калі ад спякоты сыходзяць у смерць караваны
І сонца падскварвае жвір на вялікай патэльні,
Я бачу раскосыя сківіцы аэрапланаў,
Пад імі ляжыць акіян, як агромністы келіх.

Цудоўныя сны, хоць наяве было тут заўсёды
Сухотна і суха, зусім як бывае ў шпіталі.
Няма ні прагрэсу, ні элементарнай свабоды,
Хаця яе людзі, як страву ў кафэ, замаўлялі.

Але ж немагчыма так жыць! Будзьма разам змагацца
І верыць у літасць свяціла і ў моц нашай зброі!
Тады пераможам, і аэрапланы-пасланцы
Нас зноў забяруць у Вялікае княства спакою…

## Развітанне

Апошні позірк вокамгненны,
Вакзал, цягнік, узмах рукой,
Крывёй напоўненыя вены,
Твой пульс і страчаны спакой…

Пакута развітання — гэта
Маўчанне, жэстаў мітусня.
Змяніць бы разам сродкі, мэты…
Няма ўжо часу, каб мяняць.

Гудок разносіцца ў паветры…
Мо мы спаткаемся яшчэ,
Але пакуль скрозь кіламетры
Чыгунка, быццам Стыкс, цячэ.

## * * *

Ружавеюць ядвабныя цені,
Лёгкай стужкаю сцелецца дым…
Толькі сны ды ланцуг летуценняў —
Вось што будзе са мной назаўжды.

Як шалёная птушка свабоды,
Ты ляціш, за аблокі бялей,
Хоць крывавы адбітак заходу
На тваім застаецца крыле.

Так, нічога цяпер не паправіць:
Паляцела ты, знікла, сышла.
А ў нябёсах — на доўгую памяць
Незгасальны прameньчык святла…

* * *

Чаго няма? Маліцца ўсім багам
Не сорамна — я маю ўсё, што трэба,
Хоць мітусні дарэмная вага
Не дазваляе падымацца ў неба.

Што далячынь, калі сярод людзей
Багата слёзаў і журбы, і стратаў.
А шчасця скарб ляжыць, ды толькі дзе?
Жыццё без змен, як клятва Гіпакрата.

Штодзёншчыны і вэрхалу саюз…
Усё далей ад прывіднага раю.
Нібы пад спіну палажылі друз,
І скура кожны камень адчувае.

## Пераклады

## Мікола Зэраў

### Пад Новы год

Ішоў дадому, цукар нёс пайковы,
Аб працы думаў — горкі мой прысуд…
Свяціў агнёвай стужкай Галівуд
У чарах навагодняе абновы.

Скрозь шамацела. Рады святам новым,
Насустрач невядомаму йшоў люд;
Мароз прыбраў учорашні ўвесь бруд,
Што сэрца ціснуў, накладаўшы ковы.

Мінала зайздрасць, суцішаўся шал…
Што ж! Хай вяршыцца бедны рытуал
Звычайнае сустрэчы пілігрыма.

Няхай юнак у мроях давідна
Схіляецца бяздумнымі вачыма
Над шклянкаю ружовага віна.

## Пэё Явараў

* * *

Смугой пакрыліся нябёсы,
Дождж столькі дзён няспынна цёк.
Так без святла мярцвее ўвосень
Зямля, загорнутая ў змрок.

Не страціць сонца хай запалу.
Ці хочаш лета ўбачыць строй?
Ох, позна… Бо падрыхтавала
Зіма бялюткі саван свой.

# Таццяна Цуканава

## Дзіна Буцаці

### Сем паверхаў

Сакавіцкай раніцай, пасля паездкі ў цягніку, што цягнулася ўвесь дзень, Джузэпэ Кортэ прыехаў у горад, дзе мясцілася знакамітая лякарня. Яго злёгку ліхаманіла, але ён усё роўна вырашыў прайсці пешкі ад вакзала да лякарні са сваёй валізай у руках. У Джузэпэ была лёгкая ранняя стадыя адной незвычайнай хваробы, таму яму параілі звярнуцца ў знакаміты санаторый, дзе займаліся лекаваннем выключна гэтага ўнікальнага захворвання. Лекаванне тут забяспечвала выключную кампетэнтнасць медыцынскага персаналу і найбольш рацыянальнае ды эфектыўнае выкарыстанне абсталявання.

Джузэпэ Кортэ здалёк заўважыў лякарню і адразу ж пазнаў яе, бо бачыў фотаздымак у газеце. Лякарня неймаверна яго ўразіла. Белы сяміпавярховы будынак быў увесь збараздзёны нішамі, што надавала яму важкі выгляд гатэля. Наваколле атачалі высокія дрэвы.

Пасля агульнага медыцынскага агляду Джузэпэ Кортэ размясцілі ў светлым пакоі на апошнім, сёмым, паверсе, дзе ён мусіў чакаць больш руплівага абследавання. Мэбля тут была светлая і чыстая, як і шпалеры. Фатэлі былі драўляныя, падушкі — абшытыя каляровай тканінай. З акна адкрываўся від на адзін з найпрыгажэйшых раёнаў горада. Усё было спакойным, гасцінным і абнадзейвальным.

Джузэпэ Кортэ адразу ж лёг у ложак і, уключыўшы лямпу ва ўзгалоўі, узяўся чытаць кнігу, што прывёз з сабой. Праз некаторы час увайшла медсястра і запыталася, ці патрэбна пацыенту

штосьці. Джузэпэ нічога не было патрэбна, але ён з ахвотай пабалбатаў з маладой дзяўчынай пра лякарню. Так ён даведаўся дзіўную рысу гэтага месца. Хворых размяшчалі на паверхах у залежнасці ад цяжкасці стану. Сёмы і апошні паверх быў для найбольш лёгкіх формаў захворвання. Шосты — для хворых не ў надта цяжкім стане, але і не ў такім, каб ім грэбаваць. На пятым лекавалі ўжо сур'ёзна хворых, і гэтак далей, паверх за паверхам. На другім былі пацыенты ў найцяжэйшым стане. На першым — тыя, каму не выпадала спадзявацца на тое, каб ачуняць. Такая сістэма, акрамя таго што значна спрашчала працу персаналу, яшчэ і выключала магчымасць, што пацыент з лёгкай формай хваробы будзе ўсхваляваны назіраннем смяротнай агоніі свайго суседа. Усё гэта забяспечвала аднастайную атмасферу на кожным паверсе. З іншага боку, такая сістэма дазваляла выдатна дазаваць лекі. Атрымлівалася, што хворыя падзяляліся на сем кастаў. Кожны паверх быў нібы маленечкі свет-у-сабе, са сваімі асобнымі правіламі і традыцыямі. І нягледзячы на тое, што генеральны дырэктар даў установе адзіны кірунак, метады лекавання розніліся, бо кожным аддзяленнем апекаваўся свой лекар.

Калі медсястра сышла, Джузэпэ Кортэ падалося, што яго ліхаманка прайшла, і ён падыйшоў да акна. Зусім не з мэтай палюбавацца панарамай горада, якога ён ніколі не бачыў раней, але ў надзеі разгледзець у вокнах пацыентаў з ніжэйшых паверхаў. Структура будынка з вялікімі нішамі дазваляла гэта. Больш за ўсё Джузэпэ Кортэ спрабаваў разгледзець вокны першага паверху, што падаваліся вельмі далёкімі. Іх можна было бачыць толькі наўскасяк. Але нічога цікавага ён там не ўбачыў. Большая частка вокнаў была завешаная шэрым жалюзі.

Кортэ заўважыў, што ля акна збоку ад ягонага стаіць мужчына. Яны глядзелі адзін на аднаго з усё большай сімпатыяй, але не ведалі, як пачаць размову. Нарэшце Джузэпэ Кортэ адважыўся запытаць:

— Вы таксама тут нядаўна?

— Не-не, — адказаў той, — я тут ужо два месяцы.

Ён трошкі памаўчаў і, не ведаючы, як працягнуць размову, сказаў:

— Я глядзеў уніз на свайго брата.

— На вашага брата?

— Так, — патлумачыў невядомы. — Мы трапілі сюды разам. Насамрэч дзіўны выпадак. Але яго стан пачаў пагаршацца. Думаю, цяпер ён ужо на чацвёртым.

— Дзе?

— На чацвёртым паверсе, — растлумачыў суразмоўца, вымавіўшы апошнія два словы з такім выразам жалю і жудасці, што Джузэпэ Кортэ стала жахліва.

— А што, на чацвёртым паверсе — вельмі сур'ёзна хворыя?

— Божухна! — чалавек злёгку кіўнуў галавой, — я яшчэ не ведаю, ці сапраўды невылечна хворыя, але ў любым выпадку радавацца няма чаму.

— Але калі ўжо на чацвёртым — так цяжка хворыя, каго ж яны размяшчаюць на першым? — запытаў Джузэпэ з недарэчнай жартаўлівасцю чалавека, што намякае на трагічныя рэчы, якія яго не датычаць.

— О, на першым паверсе — паміраючыя. Там, унізе, медыкам няма чаго рабіць. Працуе там хіба што святар. І, безумоўна…

— Але на першым паверсе людзей няшмат, — перабіў суразмоўцу Джузэпэ Кортэ і дадаў у пацверджанне: — Там усе пакоі зачыненыя.

— Цяпер іх мала, але сёння з раніцы было даволі шмат, — адказаў незнаёмец, злёгку ўсміхнуўшыся. — Там, дзе жалюзі апушчанае, нехта нядаўна памёр. Вы хіба не заўважаеце, што на іншых паверхах жалюзі паднятае? Але выбачайце, — дадаў ён, паціху адхіляючыся, — мне здаецца, што пачынае рабіцца халодна. Я вяртаюся ў ложак. Да пабачэння.

Чалавек знік, і акно рэзка зачынілася, затым стала бачна, што ўнутры запалілі святло. Джузэпэ Кортэ нерухома стаяў ля акна, гледзячы на зачыненае жалюзі першага паверху. Ён разглядаў яго з нездаровай напружанасцю, намагаючыся ўявіць пахавальныя сакрэты гэтага жудаснага першага паверху, дзе пацыенты былі асуджаныя на смерць. Ён адчуваў палёгку, што быў так далёка ад таго месца. У той час на горад насоўваўся вячэрні цень. Адно за адным запальваліся вокны санаторыя,

здалёк можна было падумаць, што ў палацы свята. І толькі ў самым нізе, на першым паверсе, дзясяткі і дзясяткі вокнаў заставаліся цёмнымі і пустымі.

Вынікі медыцынскага абследавання супакоілі Джузэпэ Кортэ. Здольны чакаць найгоршага, ён у сэрцы сваім ужо быў гатовы да суворага вердыкту і не здзівіўся б, калі б лекар абвясціў яму, што трэба спускацца на ніжэйшы паверх. Ліхаманка не праходзіла, нягледзячы на тое, што агульны стан заставаўся неблагім. Замест гэтага медыцынскі працаўнік звярнуўся да Джузэпэ з абнадзейвальнымі словамі. Падстава хвалявацца была, але мінімальная, праз два-тры тыдні, імаверна, усё пройдзе.

— І гэта значыць, што я застаюся на сёмым паверсе? — з хваляваннем запытаў у гэты момант Джузэпэ Кортэ.

— Безумоўна! — адказаў лекар, па-сяброўску ляскаючы яму па спіне, — а куды вы збіраліся ісці? Мабыць, на чацвёрты! — ён засмяяўся так, быццам выказаў найбольш абсурдную здагадку.

— Тым лепей, тым лепей, — вымавіў Кортэ. — Ведаеце, калі хварэеш, заўсёды думаецца пра найгоршае.

Такім чынам, Джузэпэ Кортэ застаўся ў палаце, якую яму адвялі першапачаткова. Ён пачаў знаёміцца з некаторымі суседзямі па лякарні. Гэта здаралася ў рэдкія гадзіны днём, калі яму дазвалялі падымацца з ложка. Ён неадступна прытрымліваўся прадпісанага лекавання, прыкладаў усе намаганні, каб хутчэй ачуняць, але нягледзячы ні на што, здавалася, ягоны стан заставаўся ўсё тым жа.

Прайшло дзесяць дзён, і да Джузэпэ Кортэ завітаў галоўны санітар сёмага паверху. Ён папрасіў пра адну сяброўскую ласку. У наступны дзень у лякарню павінна была паступіць жанчына з двума дзецьмі. Дзве палаты былі вольныя, менавіта каля ягонай, але адной не хапала. Ці не цяжка было б спадару Кортэ перайсці ў іншую палату?

Для Джузэпэ Кортэ гэта не ўяўляла ніякай складанасці. Гэтая палата ці іншая, якая, па сутнасці, розніца. Наадварот, магчыма, там яго будзе даглядаць новая і больш прывабная медсястра.

— Я шчыра вам удзячны, — галоўны санітар лёгка кіўнуў галавою, — ад такога ласкавага высакароднага чалавека, як

вы, я і не чакаў нічога іншага, акрамя велікадушнага жэсту. Праз гадзіну, калі вы не перадумаеце, мы пачнем перамяшчэнне. Вы ж разумееце, што трэба перабрацца на ніжэйшы паверх, — дадаў ён прыглушаным голасам, быццам гаворка ішла аб чымсьці не надта важным. — На жаль, на гэтым паверсе больш няма вольных палат. Але, відавочна, што гэта часовы расклад. Як толькі вызваліцца палата, а я думаю, што гэта адбудзецца праз два-тры дні, вы зможаце вярнуцца наверх.

— Прызнаюся вам, — вымавіў Джузэпэ Кортэ з усмешкай, каб паказаць, што ён не проста па-дзіцячы ўпарціцца, — прызнаюся, што мне не зусім даспадобы такое перамяшчэнне.

— Але ж гэтае перамяшчэнне не мае ніякай медыцынскай падставы, я добра разумею, што вы маеце на ўвазе, але гаворка выключна аб ветласці ў дачыненні да гэтай спадарыні, якая не хацела б расставацца з дзецьмі, — і, адкрыта смеючыся, ён дадаў: — Прашу, няхай вам нават не прыходзяць у галаву думкі, што ёсць нейкая іншая падстава.

— Магчыма, — сказаў Джузэпэ Кортэ, — але мне гэта падаецца кепскім знакам.

Гэтак Кортэ перайшоў на шосты паверх. І нягледзячы на яго ўпэўненасць, што гэтаму перамяшчэнню не садзейнічала пагаршэнне стану здароўя, ён пачуваўся няўтульна ад таго, што цяпер паміж ім і нармальным светам здаровых людзей паўстала такая відавочная перашкода. На сёмым паверсе, у месцы прыбыцця, ён быў у некаторым сэнсе яшчэ звязаны з чалавечым грамадствам, можна было нават лічыць гэтае месца працягам звычайнага свету. Але на шостым пацыент ужо трапляў непасрэдна ў атмасферу шпіталя, і стаўленне лекараў, медперсаналу і саміх хворых адно да аднаго было трохі іншым. Тут ужо было прызнана, што на гэтым паверсе хворыя людзі, нават калі і не ў надта цяжкім стане. З першых размоваў з суседзямі па палаце, з персаналам і санітарамі Джузэпэ Кортэ зразумеў, што тут успрымалі сёмы паверх іранічна, як месца, адведзенае для хворых па-дылетанцку, што пакутуюць хіба на ўласныя капрызы, і толькі з шостага пачыналася ўсё насамрэч. Як бы там ні было, Джузэпэ Кортэ зразумеў, што яму, безумоўна,

давядзецца сутыкнуцца з шэрагам цяжкасцяў, каб вярнуцца на сёмы паверх, туды, дзе ён мусіў знаходзіцца згодна са станам здароўя. Але каб зрабіць гэта, яму трэба было паварушыцца, няхай гэта будзе невялічкае намаганне, але без сумневу, калі ён не здолее, ніхто нават і не падумае зноўку перавезці яго на вышэйшы паверх для тых, хто «амаль здаровы».

Джузэпэ Кортэ паабяцаў сабе не ісці на кампрамісы наконт уласных правоў і не паддавацца звыклым падманлівым спадзяванням. Суседзям па аддзяленні ён увесь час нагадваў, што з імі яму выпала быць толькі некалькі дзён, што гэта было ягоным уласным жаданнем з мэтай дапамагчы адной спадарыні, і як толькі палата вызваліцца, ён адразу ж вернецца наверх. Астатнія слухалі яго без цікавасці і на мігах выказвалі сваю слабую згоду. Упэўненасць Джузэпэ Кортэ цалкам пацвердзілася вынікамі новага медагляду, што правёў лекар. Нават ён згаджаўся з тым, што Джузэпэ Кортэ мог бы знаходзіцца на сёмым паверсе, бо форма ягонай хваробы аб-са-лют-на лёг-ка-я, ён па складах вымавіў гэта, каб дадаць яму важкасці, але насамрэч ён лічыў, што на шостым Джузэпэ Кортэ, хутчэй за усё, будуць лепей даглядаць, і там ён атрымае лепшае лекаванне.

— Толькі не трэба гэтых казак! — з рашучасцю ўмешваўся ў гэты момант хворы, — Вы мне казалі, што маё месца на сёмым паверсе, і я хачу вярнуцца туды.

— Ніхто вам не пярэчыць, — паўтараў лекар, — з майго боку гэта не проста парада док-та-ра, але са-праў-дна-га ся-бра! Форма вашай хваробы, як я ўжо казаў, найлягчэйшая, але, з майго гледзішча, ад падобных выпадкаў хваробы яна адрозніваецца найбольшым дыяпазонам. Я растлумачу: інтэнсіўнасць хваробы мінімальная, але яе размах даволі вялікі. Працэс рабурэння клетак (гэта быў першы раз, калі Джузэпэ Кортэ слухаў гэты злавесны выраз у межах шпіталя), працэс разбурэння клетак яшчэ ў самым пачатку, магчыма, ён яшчэ нават не пачаўся, але схільны, кажу вам, толькі схільны ўплываць на шырокія ўчасткі арганізму. Толькі дзеля гэтага, на маю думку, вашае лекаванне было б больш эфектыўным тут, на шостым паверсе, дзе тэрапія больш тыповая ды інтэнсіўная.

Аднойчы яму расказалі, што дырэктар лякарні пасля доўгага абмеркавання гэтага пытання са сваімі супрацоўнікамі вырашыў унесці змены ў сістэму размяшчэння пацыентаў. Іх стан, так бы мовіць, паніжаўся на палову бала. Улічваючы, што на кожным паверсе хворых падзялялі на дзве катэгорыі (гэты падзел рабіўся кваліфікаванымі медыкамі, але меў сэнс выключна ў межах паверху), катэгорыю хворых з горшым станам здароўя пераводзілі на ніжэйшы паверх. Напрыклад, палова пацыентаў з шостага паверху, тыя, чыя хвароба развілася трошкі больш, павінныя былі перайсці на пяты, а найбольш хворыя з сёмага — на шосты. Гэтая навіна ўзрадавала Джузэпэ Кортэ, бо на агульным фоне суцэльных перасяленняў яму будзе значна прасцей вярнуцца на сёмы паверх. Калі ён намякнуў на гэтае спадзяванне медсястры, то пачуў у адказ тое, што стала для яго прыкрай неспадзяванкай. Пацыент даведаўся, што яго насамрэч перавядуць, але не на сёмы, а на пяты паверх. З прычынаў, якія медсястра не магла яму растлумачыць, Джузэпэ Кортэ аднеслі да тых, хто перабываў у больш цяжкім стане сярод пацыентаў на шостым паверсе і таму мусіў спусціцца ніжэй. Калі здзіўленне прайшло, Джузэпэ Кортэ ахапіла лютасць: ён крычаў, што яго падманулі, што ён не хоча чуць пра нейкія іншыя перамяшчэнні на ніжэйшыя паверхі, што яму даўно варта вярнуцца дадому, што правілы ёсць правілы, і адміністрацыя лякарні не можа бессаромна грэбаваць дыягназам, што ставяць медыкі.

Пакуль ён гарлаў, падышоў лекар і параіў супакоіцца, калі пацыент не хоча, каб зноў паднялася тэмпература. Лекар растлумачыў, што адбылося непаразуменне. Прынамсі, часткова. Ён пацвердзіў, што месца Джузэпэ Кортэ было на сёмым паверсе, але дадаў, што наконт ягонага выпадку ў лекара было асаблівае, нават калі гэта было яго ўласнае, меркаванне. Па сутнасці, ягоная хвароба ў некаторым сэнсе магла ацэньвацца нават на шэсць па шкале паверхаў, улічваючы сімптомы. Але сам ён не мог растлумачыць, якім чынам Кортэ аднеслі да той групы пацыентаў, што знаходзяцца ў горшым стане. Магчыма, сакратар, што тэлефанаваў яму літаральна сёння з раніцы, каб даведацца дакладны дыягназ Джузэпэ Кортэ, памыліўся, робячы

перапіс. А мачыма, дырэкцыя сама злёгку «ўскладніла» дыягназ, бо яго лічылі кваліфікаваным лекарам, але надта паблажлівым. Урэшце лекар параіў Кортэ не хвалявацца, а пераязджаць без пярэчанняў, бо тое, што насамрэч важна, — гэта хвароба, а не месца, дзе знаходзіцца хворы.

— Што ж да лекавання, — працягваў лекар, — Джузэпэ Кортэ не варта пераймацца, бо медык з ніжэйшага паверху значна больш дасведчаны, бо ўсім вядомы той факт, што чым ніжэйшы паверх, тым больш кваліфікаваныя медыкі там працуюць і тым меншае ўздзеянне дырэкцыі. Палаты там такія ж акуратныя і зручныя. З акна бачная тая ж панарама, бо толькі пачынаючы з трэцяга паверху яе закрываюць дрэвы, што ствараюць агароджу.

Джузэпэ Кортэ быў пад уладаю вячэрняй ліхаманкі і працягваў слухаць педантычныя меркаванні з усё большай стомай. Урэшце ён зразумеў, што не мае ні моцы, ні тым больш жадання надалей рэагаваць на несправядлівае перамяшчэнне. І ён без супраціву дазволіў перанесці сябе на ніжэйшы паверх.

Адзінае, хоць і невялікае, суцяшэнне для Джузэпэ Кортэ было ў тым, што па аднагалоснай згодзе медыкаў, медыцынскага персаналу і пацыентаў у гэтым адзяленні ён быў самым здаровым з усіх. У атмасферы, што панавала на тым паверсе, можна было лічыць, што яму непараўнальна пашанцавала. З іншага боку, яго бянтэжыла думка, што паміж ім і светам здаровых людзей ужо паўсталі дзве перашкоды.

Па меры таго як надыходзіла вясна, паветра рабілася ўсё больш цёплым, але Джузэпэ Кортэ больш не падабалася, як у першыя дні, вызіраць у акно. Нягледзячы на тое, што такі жах быў папросту дурасцю, пры назіранні вокнаў першага паверху, што былі, як заўсёды, амаль усе зачыненыя, ён адчуваў, як па скуры прабягаюць дрыжыкі. Тым больш што гэтыя вокны значна наблізіліся.

Ягоны боль рабіўся пастаянным. Праз тры дні на пятым паверсе на правай назе з’явілася экзэма, і прыкметаў таго, што найбліжэйшым часам яна знікне, не было. Медык растлумачыў Джузэпэ Кортэ, што гэта была новая хвароба, цалкам незалежная ад першапачатковай. Такое магло здарыцца з найздаравейшым чалавекам на свеце.

Каб хутчэй спыніць хваробу, была неабходная інтэнсіўная тэрапія дыгама-промнямі.

— А хіба немагчыма прайсці курс дыгама-апраменьвання тут? — запытаў Джузэпэ Кортэ.

— Безумоўна, — з гонарам адказаў лекар, — у нашым шпіталі ёсць усё неабходнае. Але існуе адна цяжкасць.

— Якая? — запытаў Кортэ з цьмяным прадчуваннем.

— Так бы мовіць, «цяжкасць», — паправіўся лекар, — я хацеў сказаць, што абсталяванне для апраменьвання знаходзіцца толькі на чацвёртым паверсе, і я б не раіў вам увесь час хадзіць туды тры разы на дзень.

— Тады не будзем яго праводзіць.

— Не, было б лепей, каб да таго часу, пакуль запаленне не пройдзе, вы б згадзіліся спусціцца на чацвёрты.

— Хопіць! — загарлаў разлютаваны Джузэпэ Кортэ. — Хопіць з мяне спускацца! Нават калі б я паміраў, на чацвёрты б не пайшоў.

— Як пажадаеце, — саступіў медык, каб не раздражняць пацыента, — але як ваш лекар я забараняю вам спускацца на працэдуры тры разы на дзень.

Бяда ў тым, што экзэма, замест таго каб праходзіць, пачала патрошку разрастацца. Джузэпэ Кортэ не мог супакоіцца і працягваў круціцца ў ложку. У такім вар'яцкім стане ён правёў тры дні і быў вымушаны здацца. Ён благаў медыкаў, каб тыя дазволілі яму прайсці лекаванне і перамясціцца на ніжэйшы паверх.

Тут, унізе, Кортэ з задавальненнем, у якім было сорамна самому сабе прызнацца, заўважыў, што ўяўляў сабою выключны выпадак. Астатнія хворыя былі, безумоўна, у значна горшым стане і не маглі нават на хвіліну пакінуць ложак. Ён жа мог дазволіць сабе такую раскошу, як дайсці на ўласных нагах да працэдурнага кабінета, дзе праводзілася тэрапія промнямі, пад кампліменты і ўхваленне медсёстраў.

Новаму лекару Джузэпэ Кортэ настойліва растлумачыў асаблівасць свайго становішча. Хворы, які, па сутнасці, меў права знаходзіцца на сёмым паверсе, цяпер быў размешчаны

на чацвёртым. Ён збіраўся вярнуцца наверх, як толькі пройдзе экзема. І ні у якім разе ён не паддасца акалічнасцям. Ён, хто мог бы законна знаходзіцца яшчэ на сёмым!

— На сёмым! На сёмым! — выклікнуў з усмешкаю лекар — Вы, хворыя, заўсёды перабольшваеце. Напачатку мне варта сказаць, што вы можаце быць задаволены станам свайго здароўя, бо, наколькі можна ацэньваць па медыцынскай карце, значшых пагаршэнняў не адбылося. Але каб казаць пра сёмы паверх… Выбачайце за жорсткую рэчаіснасць, але гэта зусім іншая справа! Вы ўяўляеце сабой адзін з найменей трывожных выпадкаў, з гэтым згаджуся, але вы ўсё роўна хворы!

— Добра, добра, — натхніўся Джузэпэ Кортэ, — на які паверх размеркавалі б мяне вы?

— Божухна! Гэта не так проста сказаць, бо я правёў толькі адзін агляд. Каб вырашыць гэта, я павінен вас назіраць як мінімум тыдзень.

— Згода, — сказаў Джузэпэ Кортэ, — але ж тое-сёе ўяўленне вы маеце.

Каб супакоіць яго, лекар зрабіў выгляд, быццам задумаўся на хвіліну, а затым, ківаючы сам сабе, павольна вымавіў: — Менавіта каб вас усцешыць, скажу — у прынцыпе, мы маглі б вас размеркаваць на шосты.

— Так, так, — дадаў ён, быццам спрабаваў упэўніць самога сябе, — На шостым было б якраз.

Лекар думаў, што ён усцешыць пацыента. Але на твары Джузэпэ Кортэ адбіўся жах: хворы зразумеў, што медыкі вышэйшых паверхаў яго падманулі, і вось перад ім новы лекар, відавочна больш кампетэнтны і больш сумленны, які ў думках, гэта было зразумела, прызначыў яму не сёмы, а пяты, а можа, нават і чацвёрты паверх. Нечаканае расчараванне авалодала Кортэ. Тым вечарам у яго значна паднялася тэмпература.

Перабыванне на чацвёртым паверсе Джузэпэ Кортэ вызначыў як найбольш спакойны перыяд за той час, што ён правёў у шпіталі. Лекар быў вельмі прыемны, клапатлівы і сардэчны. Часам ён затрымліваўся пасля працы на цэлыя гадзіны, каб пагутарыць на самыя розныя тэмы. Джузэпэ Кортэ

таксама ахвотна ўдзельнічаў у дыскусіях, падымаючы пытанні, што тычыліся ягонага звычайнага жыцця як адваката і проста як чалавека. Ён спрабаваў упэўніць самога сябе, што ён яшчэ далучаны да супольнасці здаровых людзей, яшчэ звязаны са светам справаў, што яго яшчэ турбуюць падзеі ў грамадстве.

Ён спрабаваў, але марна. Размова нязменна заканчвалася абмеркаваннем хваробы.

Прага якога-колечы паляпшэння ператварылася для Джузэпэ Кортэ ў апантанасць. На жаль, хоць дыгама-промні і спынілі заражэнне скуры, але гэтага не хапала, каб цалкам пазбавіцца экзэмы. Штодзень Джузэпэ Кортэ падоўгу размаўляў пра хваробу з лекарам, і падчас гэтых размоваў ён спрабаваў падацца моцным, нават іранічным, але ў яго гэта ніколі не атрымлівалася.

— Доктар, — запытаў ён аднойчы, — скажыце, як праходзіць працэс разбурэння маіх клетак?

— О, што за недарэчныя словы! — папракнуў яго лекар, жартуючы. — Дзе вы гэтаму навучыліся? Не варта так, не варта так казаць. Асабліва хвораму чалавеку! Больш не хачу чуць ад вас такога.

— Згода. Але вы мне так і не адказалі.

— Зараз адкажу, — ветліва вымавіў лекар — Працэс разбурэння клетак, паўтараючы вашае жудаснае выказванне, у вашым выпадку мінімальны, абсалютна мінімальны. Але я б назваў яго бесперапынным.

— Бесперапынны — значыць хранічны?

— Не прымушайце мяне казаць тое, чаго я не маю на ўвазе. Я хачу сказаць усяго толькі «бесперапынны». Гэта ўласціва большасці выпадкаў хваробы. Часта нават лёгкую хваробу даводзіцца лячыць настойліва і доўга.

— Скажыце мне, доктар, калі я магу спадзявацца на паляпшэнне?

— Калі? У такіх выпадках вельмі цяжка штосьці прадбачыць… Але паслухайце, — дадаў ён пасля хвіліннага задумення, — я бачу, што ў вас з’явілася сапраўдная манія акрыяць… Калі б я не баяўся вас пакрыўдзіць, ведаеце, што б я вам прапанаваў?

— Скажыце, доктар, прашу вас…

— Добра, я выкажуся ясна. Калі б на мяне напала гэтая хвароба, нават у найлягчэйшай форме, і калі б я трапіў у гэты санаторый, найлепшы з тых, што існуе, я б адразу, з першага ж, разумееце, з першага дня папрасіў размеркаваць мяне на адзін з найніжэйшых паверхаў. Я б папрасіў размясціць сябе адразу на…

— На першым? — выказаў здагадку Кортэ з вымушанай усмешкай.

— Не, на першы —не, — іранічна адказаў медык, — зусім не! Але на трэці ці нават на другі — абавязкова. На ніжэйшых паверхах лекуюць лепей, гэта я вам гарантую, бо абсталяванне там дасканалае і сучаснае, персанал больш кваліфікаваны. Ці ведаеце вы, хто з’яўляецца душой гэтага шпіталя?

— Хіба не прафессар Даці?

— Так, прафессар Даці. Гэта ён вынайшаў метад лекавання, што тут практыкуецца, ён спраектаваў усю сістэму. І нягледзячы на гэта, ён, выдатны спецыяліст, знаходзіцца, так бы мовіць, паміж першым і другім паверхамі. Ён выкарыстоўвае там свае дырэктарскія здольнасці. Але я вас упэўніваю, што вышэй за трэці паверх ягоная моц не распаўсюджваецца. Я б сказаў, што чым вышэй, тым больш вузка ўспрымаюць ягоныя наказы, а самі наказы губляюць сэнс, адхіляюцца ад сутнасці. Сэрца шпіталя — у самым нізе, і варта знаходзіцца ўнізе, каб атрымліваць найлепшае лекаванне.

— Такім чынам, — пачаў Джузэпэ Кортэ, і голас ягоны дрыжаў, — вы раіце мне…

— Я б хацеў дадаць, — абыякава працягваў медык, — што ў вашым выпадку варта клапаціцца яшчэ і пра экзэму. Няхай я і згодны, што гэта не важкая, а хутчэй надакучлівая акалічнасць, але ж калі й надалей пойдзе так, яна можа пагоршыць ваш маральны стан, а вы ж ведаеце, наколькі важны спакой духу для акрыяння. Апраменьванне, што я з вамі праводзіў, прынесла карысці толькі напалову. Прычына? Магчыма, гэта простая выпадковасць, але імаверна, што промні былі недастатковай інтэнсіўнасці. На трэцім паверсе абсталяванне для тэрапіі такога кшталту нашмат больш магутнае. Магчымасць вылечыць вашую экзэму была б значна вышэйшая. А потым, ведаеце, найцяжэйшае — гэта зрабіць пер-

шы крок, пакласці пачатак акрыянню. Калі пачынаеш падымацца, вярнуцца назад складана. Калі вы насамрэч адчуеце сябе лепей, ніхто не будзе перашкаджаць вашаму вяртанню да нас ці нават вышэй, у залежнасці ад вашых «заслуг», магчыма, нават на пяты, шосты, нават на сёмы паверх, як я адважуся меркаваць.

— Думаеце, гэта наблізіць акрыянне?

— Не можа быць ніякіх сумненняў. Я ужо сказаў вам, што б я рабіў на вашым месцы.

Такога кшталту дыскусіі лекар праводзіў з Джузэпэ Кортэ штодня. Нарэшце надышоў момант, калі пацыент, стомлены ад пакутаў, што яму чыніла экзэма, насуперак інстынктыўнаму нежаданню спускацца, вырашыў дзейнічаць згодна з парадай медыка і перамясціцца на ніжэйшы паверх.

На трэцім паверсе ён адразу заўважыў, што ў адзяленні пануе асаблівы радасны настрой, як сярод лекараў, так і сярод медперсаналу, нягледзячы на тое, што тут, унізе, знаходзіліся хворыя ў вельмі цяжкім стане. Джузэпэ Кортэ заўважыў: радасць узрастала з кожным днём. Гэта яго зацікавіла, і, трохі бліжэй пазнаёміўшыся з медсястрой, пацыент запытаў, чаму ўсе тут такія радасныя.

— Хіба вы не ведаеце? Праз тры дні ў нас вакацыі.

— Як вакацыі?

— Так. На пятнаццаць дзён. Трэці паверх зачыняецца, а персанал разыходзіцца. Кожны паверх адпачывае па чарзе.

— А хворыя? Што зробіце з імі?

— Пацыентаў на нашым паверсе няшмат, таму два паверхі аб'яднаюць у адзін.

— Як! Аб'яднаеце хворых з трэцяга і чацвёртага?

— Не, не, — паправіла медсястра, — з трэцяга і другога. Тыя, што знаходзяцца тут, мусяць спусціцца ніжэй.

— Спусціцца на другі?! — вымавіў Джузэпэ Кортэ, смяротна бледны — Такім чынам, я мушу спусціцца на другі?

— Безумоўна. А што тут дзіўнага? Калі мы выйдзем з адпачынку, праз пятнаццаць дзён, вы вернецеся ў гэтую палату. Мне здаецца, тут няма чаго пужацца.

Але Джузэпэ Кортэ быў ахоплены шалёным страхам. Нейкі таямнічы інстынкт папярэджваў яго. У той жа час ён разумеў, што

не можа забараніць медперсаналу ісці на вакацыі, і быў упэўнены, што новае лекаванне ідзе яму на карысць (экзэма амаль цалкам знікла), а таму не адважыўся супрацьстаяць новаму перасяленню. Затое ён, не зважаючы на заўвагі і насмешкі медсёстраў, запатрабаваў, каб на дзвярах ягонай новай палаты была таблічка з надпісам «Джузэпэ Кортэ з трэцяга паверху, мімаходам».

У гісторыі санаторыя не было такіх прэцэдэнтаў, але медыкі не пярэчылі, бо лічылі, што ў чалавека з такім нервовым тэмпераментам нават невялікае пярэчанне можа выклікаць сур’ёзнае ўзрушэнне.

Такім чынам, трэба было чакаць пятнаццаць дзён. Не больш і не менш. Джузэпэ Кортэ ўзяўся лічыць дні з упартай прагнасцю, пры гэтым увесь час заставаўся ў ложку, зафіксаваўшы позірк на мэблі, што не была тут такой сучаснай, як на вышэйшых паверхах, але мела большыя памеры і больш напышлівыя і суворыя рысы. Зрэдку ён услухоўваўся ў цішыню, пакуль не пачынала здавацца, быццам з ніжэйшага паверху, паверху «паміраючых», з аддзялення «асуджаных», ён чуе прыглушаныя хрыпы агоній.

Усё гэта, натуральна, спрыяла роспачы. Здавалася, мінорны спакой дапамагае хваробе, тэмпература падымалася, млявасць ахоплівала ўсё цела. З акна — а на вуліцы быў самы разгар лета, і вокны трымалі амаль увесь час адчыненымі — нельга было разгледзець ні дахаў, ні дамоў горада, хіба толькі зялёную сцяну дрэваў, што атачалі шпіталь.

Праз сем дзён у дзве гадзіны папоўдні ў палату ўвайшлі галоўны санітар і тры медсястры. Яны ўвозілі вялікі ложак на колах. «Вы падрыхтаваны для пераезду?» — тонам прастадушнага жарту пацікавіўся галоўны санітар.

— Да якога пераезду? — слабым голасам запытаў Джузэпэ Кортэ. — Гэта што яшчэ за жарты? А тыя, з трэцяга паверху, хіба не вяртаюцца праз сем дзён?

— Які трэці паверх? — галоўны санітар зрабіў выгляд, быццам нічога не разумее, — я атрымаў загад суправадзіць вас на першы паверх, вось, глядзіце, — і ён паказаў загад з пячаткай па перавядзенні пацыента на ніжэйшы паверх, падпісаны не кімсьці, а самім прафесарам Даці.

Жудасць і апантаная лютасць Джузэпэ Кортэ нарэшце вырвалася вонкі доўгім злым крыкам, ад якога скаланулася ўсё аддзяленне. «Супакойцеся. Супакойцеся, калі ласка, — благалі медсёстры, — вы турбуеце іншых хворых». Але каб яго супакоіць, гэтага было недастаткова.

Нарэшце падышоў медык, што кіраваў гэтым аддзяленнем, вельмі ветлівы і адукаваны. Ён дазнаўся, у чым рэч, прагледзеў загад і даў Кортэ растлумачыць сітуацыю. Затым медык звярнуўся да галоўнага санітара і, раззлаваны, абвясціў, што адбылася памылка, што ён не даваў ніякага загаду на гэты конт, што ўжо колькі часу адбываецца неверагодная блытаніна і што ад яго ўтойваюць інфармацыю. Пасля таго як ён выказаў усё, што хацеў, падначаленаму, лекар звярнуўся ветлівым тонам да пацыента. Ён глыбока выбачаўся.

— Але на жаль, — дадаў ён, — прафесар Даці якраз гадзіну таму з’ехаў у кароткатэрміновы адпачынак і вернецца не раней чым праз два дні. Я ў роспачы, але ягоныя загады нельга парушаць. Ён сам будзе шкадаваць, я вас упэўніваю… неверагодная памылка! Я не магу зразумець, як такое адбылося!

Джузэпэ Кортэ прабрала жаласная дрыготка. Ён больш не мог валодаць сабой. Жах адолеў яго, бы малога. Павольныя і несуцешныя ўсхліпы раздаліся ў пакоі.

Праз гэтую гнюсную памылку ён трапіў у канцавы пункт прызначэння, у аддзяленне паміраючых, ён, які, па сутнасці, калі ўлічваць сур’ёзнасць ягонай хваробы і меркаванні самых строгіх медыкаў, меў права быць пераведзены на шосты паверх, а можа, і на сёмы. Сітуацыя была настолькі недарэчнай, што ў нейкі момант Джузэпэ Кортэ захацелася зарагатаць.

У час, калі спякотны летні дзень павольна слізгаў над вялікім горадам, Джэузэпэ Кортэ ляжаў у ложку і глядзеў на зеляніну дрэваў праз акно, з адчуваннем, быццам ён знаходзіцца ў нерэальным свеце, зробленым з недарэчных сценаў са стэрылізаванай кафлі, з халодных пахавальных арак, з белых бяздушных фігураў. Яму нават падумалася, што дрэвы, якія ён мог разгледзець з акна, несапраўдныя. І ён нават упэўніўся ў гэтым, бо заўважыў, што лісце амаль не рухаецца.

Гэтая думка настолькі яго ўразіла, што Кортэ паклікаў званочкам медсястру і папрасіў прынесці акуляры для блізарукіх, якіх ён не ўжываў, пакуль ляжаў у ложку. Толькі пасля гэтага ён змог трохі супакоіцца, бо з дапамогай лінзаў Джузэпэ Кортэ ўпэўніўся, што тое былі сапраўдныя дрэвы і што лісце, няхай і марудна, але рухалася ад ветру. Пасля таго як сышла медсястра, ён правёў чвэрць гадзіны ў поўнай цішыні.

Сем паверхаў, сем жудасных перашкодаў, нават калі і праз фармальную памылку, навісалі цяпер над Джузэпэ Кортэ сваёй цяжкай вагой. Колькі гадоў (так, цяпер даводзілася думаць менавіта пра гады), так, колькі ж гадоў спатрэбіцца, каб выбрацца на паверхню з гэтай прорвы?

Але чаму ў палаце знянацку пачало цямнець? Дзень быў у самым разгары. Джузэпэ Кортэ адчуў сябе паралізаваным нейкім дзіўным здранцвеннем, і яму спатрэбілася шмат сілаў, каб паглядзець на гадзіннік на тумбачцы збоку ад ложка. Была палова чацвёртай дня. Ён павярнуў галаву ў іншы бок і ўбачыў, што перасоўнае жалюзі, падуладнае нейкаму таемнаму загаду, павольна спускаецца і хавае сонечнае святло.

## Сустрэча з Эйнштэйнам

Позним вечарам мінулага кастрычніка Альберт Эйнштэйн шпацыраваў па праспекце Прынстана пасля працоўнага дня. Ён быў адзін, калі з ім здарылася штосьці незвычайнае. Знянацку і без якой-колечы адмысловай нагоды думкі забегалі туды-сюды, як сабака, што сарваўся з ланцуга, і ён усвядоміў, што ўсё сваё жыццё спадзяваўся марна. Раптам Эйнштэйн убачыў вакол сябе так званую выгнутую прастору, якую ён мог аглядаць з асаблівага боку і з выварату, як вы можаце аглядаць гэтую кнігу.

Звычайна кажуць, што наш мозг ніколі не здолее ўсвядоміць гнуткасці прасторы, даўжыні, шырыні, таўшчыні і, у дадатак, таямнічага чацвёртага вымярэння, існасць якога відавочная, але недасяжная для чалавечай істоты і паўстае перад ім перашкодай, а чалавек, вечна незадаволенае мысленне якога быццам

конь, нясе напрамкі, на яе натыкаецца. Ні Піфагор, ні Платон, ні Дантэ, калі б тыя жылі сёння, не здолелі б пераадолець гэтай перашкоды, бо яна мацнейшая за нас.

Іншыя кажуць, што гэта магчыма пасля доўгіх гадоў намаганняў, з дапамогай гіганцкага высілку мозгу. Нейкі звычайны навуковец, у той час, калі ўвесь навакольны свет трызніў, пакуль дымілі цягнікі і іншыя печы, альбо мільёны людзей гінулі на вайне, альбо ў цені грамадскіх паркаў закаханыя цалаваліся ў вусны — нейкі навуковец з дапамогай неверагодных якасцяў мыслення, прынамсі так кажа легенда, дасягнуў таго, што адчуў (магчыма, толькі на некалькі імгненняў, як калі б апынуўся над безданню, а потым яго адразу пацягнулі назад), убачыў і ўсвядоміў гнуткасць прасторы, невымоўную дасканаласць стварэння.

Але гэты цуд адбываўся ў цішыні, і ў гонар навукоўца не зладзілася свята. Не было фанфараў, інтэрв'ю, медалёў за заслугі, бо гэта быў выключна асабісты трыюмф, і ён мог сказаць: я спасціг гнуткасць прасторы, але ў яго не было дакументаў ды фотаздымкаў, каб пацвердзіць, што гэта праўда. Затое калі здараюцца такія імгненні, думка бы з тонкай шчыліны, зрабіўшы вялізны разбег, пераскоквае туды, у забаронены для нас сусвет, і тое, што дагэтуль было нерухомай формай, што нарадзілася і вырасла без нашага ўдзелу, ператвараецца ў нашае ўласнае жыццё; ах, такім чынам знікаюць нашыя трохмерныя клопаты, і іх можна адчуць — чалавечая магутнасць! — яны пагрузіліся ды павіслі ў нечым вельмі падобным да вечнасці.

Усё гэта прафесар Альберт Эйнштэйн адчуў адным цудоўным кастрычніцкім вечарам, калі неба падавалася крыштальным, тут і там запальваліся электрычныя зоры ліхтароў, што спаборнічаюць з планетай Венерай, і сэрца, гэты дзіўны мускул, атрымлівала асалоду ад боскага спрыяння. Нягледзячы на тое, што ён быў мудрым чалавекам, якога не турбавала слава, у такія моманты Эйнштэйн адчуваў сябе выбітным. Быццам найбяднейшы з найбяднейшых, што намацаў у сваіх кішэнях залатыя злiткі. Ім авалодала пачуццё гонару.

Але якраз у гэты момант, быццам у пакаранне, з той жа хуткасцю, з якой яна з'явілася, гэтая містычная рэчаіснасць

знікла. Раптам Эйнштэйн апынуўся ў месцы, якога ніколі не бачыў дагэтуль. Ён шпацыраваў па доўгім праспекце, уздоўж якога цягнулася жывая агароджа, навокал не было ні дамоў, ні лецішчаў, ні шапікаў. Толькі слупок бензазапраўкі ў жоўтую і чорную паласу, на вяршыні якога міргацеў шкляны ліхтар. А побач на драўляным зэдліку сядзеў негр у чаканні кліентаў. На ім былі нагавіцы-фартух і чырвоная бейсбольная кепка.

Эйнштэйн якраз яго абмінуў, і тут негр падняўся, зрабіў колькі крокаў у ягоным кірунку і вымавіў: «Спадару!» Аказалася, што негр неймаверна высокі і хутчэй прыгожы, чым брыдкі, вялізны, афрыканскага целаскладу. У блакітнай прасторы вечара зіхацела ягоная белая ўсмешка.

— Спадару, у вас агеньчыку не знойдзецца? — запытаў негр і паказаў недапалак.

— Я не куру, — адказаў Эйнштэйн і спыніўся ад здзіўлення.

— Не купіце мне выпіць? — працягваў размову негр. Ён быў высокі, малады і грубы.

Эйнштэйн марна пакапаўся ў кішэнях. «Не ведаю… у мяне нічога няма пры сабе… не маю звычкі… насамрэч мне вельмі шкада». І ён ўжо збіраўся сыходзіць.

— Усё роўна дзякуй, — сказаў негр, — але прабачце…

— Чаго вам яшчэ? — запытаў Эйнштэйн.

— Вы мне патрэбны. Я тут адмыслова.

— Вам патрэбны я? Ды што Вы?..

Негр працягнуў: «Вы мне спатрэбіліся для сакрэтнай справы, пра якую магу вам апавесці хіба што на вуха». Яго зубы бялелі яшчэ больш ад таго, што ўжо зрабілася цёмна. Затым ён нахіліўся да вуха свайго суразмоўцы. «Я — дэман Ібліс, — прамармытаў ён, — пасланец Смерці, і я мушу забраць тваю душу». Эйнштэйн зрабіў крок назад: «Здаецца, ты ўжо надта шмат выпіў», — ягоны голас зрабіўся сур’ёзным.

— Я пасланец Смерці, — паўтарыў негр. — Глядзі.

Ён падышоў да жывой агароджы, адарваў ад яе галінку, і праз некалькі імгненняў лісты змянілі колер, загнуліся ў трубку, а затым зрабіліся шэрымі. Негр падзьмуў на іх — і ўсё: лісты, галінкі і сцябло — разляцелася ў пыл. Эйнштэйн схіліў галаву.

— Халера ясная! Вось і прыехалі… Але менавіта цяпер… на дарозе?

— Гэта місія, якую мне даручылі.

Эйнштэйн азірнуўся, але навокал не было ніводнай жывой душы. Праспект, запаленыя ліхтары і ўніз па дарозе, на скрыжаванні, святло машын. Ён паглядзеў на неба. Яно было ясным, з усімі зорачкамі на сваіх месцах. Менавіта ў гэты час узыходзіла Венера.

— Паслухай, — пачаў Эйнштэйн, — дай мне месяц часу. Ты з'явіўся якраз калі я мушу скончыць сваю працу. Я больш ні аб чым не прашу — толькі адзін месяц.

— Тое, што ты хочаш вынайсці, — адказаў негр, — ты знойдзеш Там, у той самы момант, калі рушыш следам за мной.

— Гэта не адно і тое. Чаго вартыя рэчы, калі мы даведваемся пра іх на тым свеце, не прыкладаючы ніякіх высілкаў. Тое, чым я займаюся, — даволі цікавая рэч. Гэта каштавала мне добрых трыццаці гадоў намаганняў. І засталося ўжо зусім няшмат…

Негр злацешна ўсміхнуўся.

— Ты сказаў адзін месяц? Тады не спрабуй ад мяне схавацца, калі пройдзе гэты час. Нават калі ты забярэшся ў самую глыбокую шахту, я ўмомант цябе адшукаю.

Эйнштэйн хацеў задаць яшчэ адно пытанне, але негр знік.

Месяц цягнецца доўга, калі чакаеш каханага чалавека, але калі павінны прыйсці пасланец смерці, ён робіцца вельмі кароткім, карацейшым за ўдых. Месяц прайшоў, і ўвечары, застаўшыся нарэшце адзін, Эйнштэйн скіраваўся да ўмоўленага месца. Там была бензакалонка і лава з неграм. Толькі цяпер паўзверх камбінезона на ім быў стары шынель. Насамрэч было даволі халодна.

— Я тут, — сказаў Эйнштэйн, кранаючы яго за плячо.

— А твая праца? Скончана?

— Не, не скончана, — адказаў навуковец матляючы галавою. — Дай мне яшчэ адзін месяц. Мне хопіць гэтага, клянуся табе! Гэтым разам я ўпэўнены, што ў мяне атрымаецца. Павер мне, я прысвяціў ёй увесь час, але не паспеў завершыць. Мне засталося зусім няшмат.

Не азірнуўшыся, негр паціснуў плячыма.

— Вы, людзі, усе аднолькавыя, ніколі не бываеце задаволеныя. Вы кленчыце, каб атрымаць адтэрміноўку. А потым знойдзецца любая добрая адгаворка…

— Але тое, над чым я працую, вельмі цяжкая справа. Ніхто ніколі…

— Ай, ведаю-ведаю, — сказаў Пасланец Смерці, — ты шукаеш ключ да таямніцаў сусвету, так?

Яны памаўчалі. Імжэла. Стаяла ўжо амаль зімовая ноч, што наганяе жаданне сядзець дома.

— І што? — спытаў Эйнштэйн.

— Ідзі… Але месяц хутка пройдзе.

Ён пранёсся імгненна. Ніколі раней час не зжыраў чатыры тыдні з такой прагнасцю. Тым снежаньскім вечарам падзьмуў сцюдзёны вецер, прымушаючы храбусцець на асфальце апошнія вандроўныя лісты. Паветра ўздымала ўверх сівую шавялюру мудраца. Бензакалонка была ўсё на тым жа месцы, побач з ёй — негр з падшлемнікам на галаве. Ён сядзеў на кукішках і, здавалася, спаў.

Эйнштэйн наблізіўся да яго і нясмела крануў за плячо.

— Вось і я.

Негр скукожыўся ў шынялі, стукаючы зубамі ад холаду.

— Гэта ты?

— Так, гэта я.

— Ну як, скончана?

— Так, дзякуй Богу, я завершыў сваю працу.

— Вялікі матч падышоў да канца. Ты знайшоў тое, чаго шукаў? Раскусіў сусвет?

Эйнштэйн адкашляўся.

— Так, — жартаўліва адказаў ён, — у нейкім сэнсе цяпер сусвет прыведзены ў парадак.

— Дык што, пойдзем? Ты добра падрыхтаваны для вандроўкі?

— Безумоўна. Як мы і дамаўляліся.

Негр умомант ускочыў на ногі і ўсміхнуўся тыповай усмешкай негра. Затым выцягнутым указальным пальцам ён ударыў Эйнштэйна ў жывот, ды так, што той ледзь не страціў раўнавагу.

— Давай адсюль, старычына! Вяртайся дадому, ды бягом, калі не хочаш падхапіць запаленне лёгкіх. Адгэтуль мне на цябе пляваць.

— Ты адпускаеш мяне?.. Але навошта было ладзіць усё гэта?

— Патрабавалася, каб ты скончыў сваю працу. І ўсё. І ў мяне атрымалася… Адзін Госпад ведае, колькі б часу ты яшчэ змарнаваў, калі б я не напусціў на цябе жаху.

— Мая праца? Якая табе да яе справа?

Негр засмяяўся.

— Мне — ніякай. Але там, унізе, ёсць начальнікі, галоўныя дэманы. Кажуць, што нават твае першыя адкрыцці былі для іх вельмі карыснымі… Ты не вінаваты, проста так адбылося. Падабаецца табе гэта ці не, дарагі прафесару, але Пекла вельмі ўсцешылася… І цяпер разлічвае на новыя адкрыцці…

— Лухта! — раздражнёна выпаліў Эйнштэйн, — паспрабуй знайсці на свеце штосьці больш нявіннае! Гэта ўсяго толькі невялічкія формулы, абстракцыя чыстай вады, бяскрыўдная, яна не мае ніякай каштоўнасці…

— Брава! — закрычаў Ібліс. — Брава! Мяне што, дарэмна паслалі? Ты лічыш, што яны памыліліся? Не, ты папрацаваў на славу. Маё кіраўніцтва з апраметнай будзе задаволенае… Калі б ты толькі ведаў!

— Калі б ведаў што?

Але суразмоўца ўжо знік. Не было навокал ні бензакалонкі, ні зэдліка. Толькі ноч і вецер удалечыні і, уніз па праспекце, — рух аўтамабіляў. У Прынстане, штат Нью Джэрсі.

*Пераклала з італьянскай Таццяна Цуканава*

# Дар’я Вашкевіч

## Лонданскі дзённік

**(урывак)**

* * *

«Чаму б і не?» — падумала я, закінула ў торбу некаторыя свае рэчы, паліла ўлюбёную фіялку, завязала шнуркі на ботах і з’ехала. Дакладней, «зляцела». У Лондан — той самы, які «the capital of Great Britain and Northern Ireland».

Я стамілася ад бясконцых дэжа вю: дэжа вю-словаў, дэжа вю-стасункаў, дэжа вю-пачуццяў, дэжа вю-недарэчнасцяў… Зашпільваючы самалётны рэмень бяспекі, я была ўпэўненая, што там, за кіламетрамі зямлі й мора, сярод незнаёмых людзей і будынкаў, я сустрэну сапраўдную сябе й завішчу на радасцях: «Ну нарэшце, нарэшце ты знайшлася!!!»

*2.07. Панядзелак*

Атрымаўшы ў аэрапорце «Хітроў» свой багаж, я напісала СМС бацькам. Яны засталіся незадаволена-здзіўленыя тым фактам, што дачка без папярэджання змяніла кантынент свайго знаходжання. На неакрэслены тэрмін.

Бос спакойна мяне выслухаў і пажадаў удачы ў скарэнні лонданскіх стрыптыз-бараў — мо хоць на гэта я здатная.

Мужчына, які на той момант афіцыйна і вельмі ўпарта мяне кахаў, доўга крычаў у слухаўку розныя непрыемныя і банальныя рэчы.

Я адключыла мабільны.

* * *

У аўтобусе, які вёз мяне ў хостэл на Лейстэр-стрыт, ніхто не таптаўся мне па нагах, не пхаў у жывот локцямі і не скрыгатаў

зубамі, калі аўтобус стаяў на адным з прыпынкаў каля трох хвілінаў, бо тоўстая мурынка з чатырма вялізнымі клункамі ў руках купляла ў кіроўцы білет.

Вакол мяне цурчэлі арабская, польская, літоўская і — зрэдку, ненавязліва — ангельская мовы.

Людзі ўсміхаліся й перыядычна казалі «Дзякуй» ды «Калі ласка», што не магло не насцярожваць.

Як толькі я выйшла з аўтобуса, з нябёсаў абрынулася зліва. Адкуль, адкуль там столькі вады?..

Парасона ў мяне не было. Я ўмомант змокла, у левым красоўку хлюпала вада — у падэшве нахабна красавалася дзюрка. Было халодна і хацелася есці. Вакол, як на злосць, не было відаць ніводнага «Хутка-смачна». Давялося купіць піцу ў нейкай афганскай піцэрыі.

Гаспадар моўчкі ўважліва назіраў, як я здымаю красоўкі і сушу ля радыятара ногі. Левая шкарпэтка пафарбавалася ад вусцілкі красоўка ў глыбокі сіні колер.

— Ты полька? — запытаўся нарэшце гаспадар.

— Не, я з Беларусі — гэта побач з Польшчай…

— Ды я ведаю, дзе Беларусь. Бойфрэнд?

— Прабачце?

— Бойфрэнд у цябе ёсць?

— Хутчэй за ўсё, ужо няма.

Калі я выйшла з піцэрыі, дождж працягваўся. Я купіла ў пакістанскай краме кітайскі парасон. На душы пацяплела.

*4.07.Серада*

Надакучыла жыць у хостэле, і я ўрэшце патэлефанавала па нумары, што мне дала мая былая каляжанка, якая жыла ў Лондане два гады таму.

— Алё! — сказала слухаўка па-расійску, нізкім басам.

— Дзень добры! Я тэлефаную наконт жытла — мне вас параіла адна мая знаёмая…

— Які раён цікавіць — усход, поўнач, поўдзень?..

— Э-э… А дзе танней?

— На ўсходзе.

— То хай будзе ўсход.

— Заўтра ў 15.00 ля выхаду са станцыі метро «Іст Хэм» — зялёная лінія. Да пабачэння.

— Да па…

У слухаўцы пачуліся кароткія гудкі.

*5.07.Чацвер*

13 лініяў. 13 лініяў метро, з разгалінаваннямі. З канца ў канец адной можна дабірацца паўтары, а то й дзве гадзіны. Гэта пазней я даведалася, што лонданскае метро — самае доўгае ў свеце: 400 кіламетраў агульнае даўжыні. А першы раз, сядаючы ў вагон, я й не падазравала, якой пакутлівай можа быць паездка без кнігі ў заплечніку.

Метро гуло. Было душна. Ангельскія канапатыя падлеткі віселі на парэнчах і голасна гутарылі. Валосікі ў іх былі густа намазаныя гелем, зубкі — крывыя.

* * *

Арцёма — асобу, з якой я дамовілася аб сустрэчы наконт жытла на Іст Хэме, — я пазнала амаль адразу: ён быў адзіным белым мужчынам сярод барадатых сікхаў у чалмах ды індускіх жынчынаў у рознакаляровых сары. Час ад часу побач мільгала паранджа. Пахла курыцай і нечым прыкра салодкім.

Я падышла да Арцёма. Мы павіталіся й адразу накіраваліся на агляд дома — майго тэарэтычнага лонданскага прытулку.

— Даўно тут? — запытаўся Арцём.

— Чацвёрты дзень.

— І як табе?

— Цяжка пакуль сказаць — я яшчэ не зусім асэнсавала.

Вуліцу наперадзе перабег ліс — шэры, з куртатым хвастом. Сеў на ходніку і пачасаў за вухам лапай — як сабака. Дзверы аднаго з шэрагу дамкоў адчыніліся, адтуль выйшла індуска ў аранжавым сары й паклала ля дарогі вялізны пакет са смеццем. Заўважыўшы ліса, зняла з нагі тапак і шпурнула ў яго, квохчучы нешта на сваёй мове. Ліс лянiва падняўся й патрусіў прэч. За «экшнам» з цікавасцю назіралі пяцёра індусятаў, высунуўшыся

з-за дзвярэй. Калі мы з Арцёмам мiналi iх дом, усе шэсць галоваў павярнулiся ў наш бок. Я адчувала на сваёй спiне ўважлiвы позiрк дванаццацi вачэй, пакуль мы з Арцёмам не збочылi ў нейкi дворык.

Арцём падышоў да дзвярэй i пагрукаў. Адказам была цiшыня. Арцём пагрукаў мацней — нiчога.

— Адаааааам?! — загарлаў ён. — Адам, адчынiiiiiiii!!!

Цiшыня.

Арцём нахiлiўся, падабраў з зямлi некалькi каменьчыкаў i пачаў кiдаць iх у шыбу другога паверху, працягваючы клiкаць нейкага мiфiчнага Адама. Я таксама адшукала пару каменьчыкаў i далучылася да рытуалу.

Хвiлiнаў праз 15 нашых агульных старанняў дзверы ачынiў заспаны хлопец у майтках. Пазяхнуўшы i буркнуўшы «Хэлоў», ён знiк у цемры хола.

* * *

Уявi сабе: ты сядзiш… i не дыхаеш. Крыху раней ты дыхаў ЛЕДЗЬ-ЛЕДЗЬ, а цяпер не дыхаеш ЗУСIМ. Ты скруцiўся ў мiзэрны камячок i не варушышся, хаваючыся за мiкрахвалёўкай. I хаця цябе не бачаць, цябе востра адчуваюць i пiльна сочаць за ўсiмi вiбрацыямi, якiя сыходзяць ад твайго цела…

А потым раптоўна з’яўляецца зручны момант (калi нешта адцягнула ўвагу таго, хто за табой сочыць), i ты стрымгалоў бяжыш!!! I сэрца тахкае ў самых вушах — гучна-гучна, хаця яно такое маленькае…

Ты не паспяваеш дабегчы, але перад тым як табе адкусяць галаву, у цябе ёсць яшчэ некалькi секундаў, каб — збольшага — абмеркаваць сваё жыццё. I ты падумаеш: «Далiбог, трэ было ўчора пад’есцi ЎСЮ грэчку з тае шафкi. Чаму я не…….»

Ты — мыш. I цябе зжэрлi. З хвастом i вачыма. Нават твой сямейны фотаальбом не пaглядзелi — анi ПЕРАД, анi ПАСЛЯ. Але гэта цябе ўжо не абыходзiць, як i тое, што за мiкрахвалёўкай ужо хаваецца нехта iншы. Дый з чаго б гэта цябе турбавала? Ты ж — Мёртвая Мыш.

Седзячы ў вялiкай кухнi iст-хэмаўскага дома ды чакаючы, пакуль Арцём пагутарыць аб нечым на другiм паверсе з Адамам,

я назірала, як кошка палюе на мыш. Уявіла сябе апошняй — і…... Як добра, што гэтым разам я — чалавек.

«Можаш засяляцца заўтра. Твой пакой — на першым паверсе. Ключ возьмеш у Адама», — мовіў Арцём, спусціўшыся з «пентхаўза» і накіроўваючыся да выхаду.

Старажытныя грэкі пазайздросцілі б такому лаканізму.

*8.07.Нядзеля*

Я засынала адна, а калі прачнулася — нас было ўжо чацвёра: Арцём падсяліў да мяне ў пакой яшчэ трох дзяўчатаў. Маё меркаванне на гэты конт яго, відавочна, мала цікавіла. Як і меркаванне дзяўчатаў. Нам чатыром не засталося ніякага выбару, акрамя як пачаць адна адну любіць.

А любоў бліжняга ў «Малым Пакістане» (усходнім раёне Лондана Іст Хэм) — вельмі дарэчы, скажу я вам.

Увогуле, дом, куды мы засяліліся — шматнацыянальны й паліткарэктны: на першым паверсе жывем мы ўчацвярох: лірычная Аля, якая любіць Чэхава, жвавая Даша, якая любіць прыгожых мужчынаў (асабліва французаў), бландынка Наташа, якая любіць свой ванільны спрэй для цела, і я — што любіць мець прыватную прастору, аднак хрэна я ў найбліжэйшы час яе атрымаю, бо нам нават спаць даводзіцца ссунуўшы матрацы. У суседнім пакоі жыве кабета з Краснадару, якая заўжды есць рыбу. Рыба страшна смярдзіць… але цётка яе ўсё адно есць. Другі паверх займаюць два ўкраінцы (Адам — той самы, якога мы з Арцёмам не маглі дабудзіцца ў першы дзень — ды Рома, пяцідзесяцігадовы чарнавусы лавелас) і літоўская сям’я… мінімум з трох чалавек — я яшчэ не разабралася, колькі іх там дакладна. З’яўляюцца ўсё новыя ды новыя.

Яшчэ сярод пастаянных жыхароў — прусакі («их тьмы, и тьмы, и…»), Мыша Фенька з сям’ёй, Генры-пыласос (такі чырвоненькі, на ім намаляваныя вочкі ды напісана: «HENRY») ды Эдыт Піяф-лядоўня (на ёй нічога не напісана, аднак мы з дзеўкамі падумалі: калі ў пыласоса ёсць афіцыйнае імя, чаму б не ахрысціць і лядоўню?..).

*11.07.Серада*

Мы з дзеўкамі захраслі ў пошуку працы: ходзім па барахкавярнях, раздаем свае рэзюмэ, тэлефануем па газетных абвестках, поўзаем у інтэрнэце, аббіваем парогі працоўных агенцыяў… Аднак пакуль нічога. Сядзелі ўвечары ў дворыку за домам, елі суп ды снікерсы й запівалі іх гарэлкай і сокам. У нейкім з суседніх дамоў напоўніцу грала «Зямля ў ілюмінатары». Было ціха-ціха, ані ветрыку. І яблынька ў садку побач — зусім такая, як… там. І, значыцца, сядзелі мы, смяяліся, гутарылі, нягледзячы на глыбокае беспрацоўе і НЕ грошы… І было падазрона добра. Неяк так… само сабой.

*15.07.Нядзеля*

Армагедзец!! Я жыву з трыма інтэлектуалкамі! Аля, Даша й Наташа, як сёння высветлілася, моляцца на Далі — таго самага, які Сальвадор, які аўтар дызайну абгорткі «Чупа-Чупс» і які кахаў нашмат старэйшую за сябе жанчыну. А! Яшчэ ў яго былі смешныя вусы. Дык вось, вяртаюся я з крамы, а мае «названыя сёстры» ляжаць на ложку бачок да бачку, гартаюць альбом з рэпрадукцыямі Далі й захоплена квохчуць. Не вытрымаўшы гэткага інтэлектуальнага прэсінгу, я капітулявала. Але з горда паднятай галавой і не куды-небудзь — а ў Гайд Парк.

Прыехаўшы, я расцягнулася ва ўтульным шэзлонгу (балазе, вольных шмат было), дастала кнігу ды яблык… Але толькі я хацела зрабіць сакавіта-салодкі «хрумсць!», як аднекуль з-за маёй спіны пачуўся мужчынскі голас: «Міс, два фунты, калі ласка!»

— Дык а на што хоць збіраеце? — цікаўлюся (ну, брытанцы — яны ж людзі сур’ёзныя… але добрыя: таму ледзь не на кожным кроку ў цэнтры горада стаяць нейкія валанцёры, збіраючы грошы то на дапамогу сіротам, то на будоўлю Нацыянальнай бібліятэкі — так, надзіва, Нацыянальнай у іх пакуль няма!)

— За карыстанне шэзлонгам два фунты заплаціце, калі ласка, — змрочна мовіў дзядзька.

Вось яно — пачварнае аблічча капіталізму.

Я паднялася, ветліва сказала «Thank you! Bye!» і пайшла прэч.

Неўзабаве ногі прывялі мяне ў Куток аратараў Гайд Парку. Там таўклася незлічоная колькасць людзей, я мігравала ад адной купкі да іншай, слухаючы ўрыўкі прамоваў нейкага паўднёвага амерыканца, які надзвычай упэўнена гарлаў, што Езус нас любіць, а ісламісты — не; сталага араба, які лямантаваў, што мас-медыя — «опіюм для народа», затое калі рэгулярна чытаць Каран — можна стацца больш-менш падобным да чалавека; хлопца, які палка заклікаў легалізаваць сэкс з жывёламі — асабліва з сабачкамі.

Я ўжо амаль падрыхтавалася крыкнуць штосьці кшталту «Генрых Восьмы — падлюка!», як з неба нечакана, як гэта заўжды здараецца ў Лондане, абрынулася зліва. Людзі хаваліся пад шатамі дрэваў, пад парасонамі — у каго была такая раскоша. Мне пашчасціла прасачыцца пад парасон нейкага дзядулі. Потым да нас нейкім чынам здолелі ўторкнуцца яшчэ тры мужыкі — так мы і стаялі ўпяцёх. Адзін з маіх імправізаваных суседзяў рагатнуў:

— Сапраўдны камуністычны парасон!

— Не камуністычны, а хрысціянскі, — удакладніў сівы гаспадар.

Пасля я шлёпала па лужыстым Лондане, мружылася на нованароджанае пасля дажджу сонца і спявала штосьці бязглуздае. У маім заплечніку ўсё яшчэ ляжаў сакавіты яблык.

# Сцюарт Маклін

## Муха

*(раздзел з кнігі «Вінілавы рай»)*

Адна з перавагаў таго, што ты маеш краму патрыманых кружэлак,— магчымасць схадзіць дадому падчас абеду. Таму што калі ты займаешся такім «ціхім» бізнэсам, то можаш дазволіць сабе лішнюю гадзінку адпачынку — ніхто і не прыкмеціць.

Некалькі разоў на тыдзень Дэйв зачыняе сваю краму ды сыходзіць дадому на абед. Гэты час для яго — адзіная магчымасць пабыць самому. І Дэйв як бацька дачкі-падлетка гэтай маленькай раскошаю дужа ўсцешаны. Болей за ўсё Дэйв рады, калі першым дабіраецца да пошты. Ён любіць разбіраць ды чытаць яе, пакуль есць сэндвіч ці суп.

На ўнутраным баку дзвярэй «Вінілавага раю» — крамы Дэйва — вісяць зашмальцаваныя шыльдачкі-кардонкі, якія ён вывешвае, калі з якіх-небудзь прычынаў зачыняецца ўдзень: «Буду праз 15 хвілінаў», «Я ў Кэні Вонга» (гэта крама шатландскіх мясных пірагоў Вонга, за пяць будынкаў ад «Вінілавага раю»— на той жа вуліцы), «Сышоў у банк». Дэйв карыстаўся гэтымі шыльдамі ўжо каторы год, і некаторыя былі так зацертыя, што прачытаць іх мог ён адзін. Тым не менш, Дэйв працягваў ляпіць іх скотчам на шкло, і наведнікі, якія натыкаліся на замкнутыя дзверы сярод дня — у той час, калі крама мусіць быць адчыненая — няўцямна дзівіліся на кавалачак бруднай паперы і перад тым як сысці на ўсялякі выпадак яшчэ торгалі некалькі разоў ручку дзвярэй.

У Дэйва была ўлюбёная шыльда, аднак яе ён зрабіў не сам. Гэтую шыльду яму падарыла Морлі, калі ён толькі адчыніў «Вінілавы рай». Яна была выразаная ў форме янота з берэтам на галаве й цыгарэтай у роце. Янот меў прыладжаныя рухомыя лапкі, якія выкарыстоўваліся ў якасці стрэлак гадзінніка: на

майцы янота значылася: «Вярнуся ў…», і заставалася толькі расставіць ягоныя лапкі так, каб пазначыць дакладны час. Менавіта шыльдачку ў форме янота заўжды выкарыстоўваў Дэйв, калі зачыняў краму на абед.

Неяк сярод тыдня Дэйв прышоў дадому абедаць і знайшоў у паштовай скрыні ліст, які заўжды марыў атрымаць; ліст, у чаканні якога варта штодня правяраць паштовую скрынку. Гэта быў гладкі, добрай якасці канверт крэмавага колеру. Аднак самым прыемным было тое, што ліст быў адрасаваны яму, Дэйву.

Калі Дэйв накіроўваўся ў кухню, ён пакінуў усю пошту, акрамя ліста, на століку для кавы. Прыватны ліст, напісаны ад рукі, — гэта не нешта там, ты не атрымліваеш такі кожны дзень. Таму Дэйву было прыемна нават проста трымаць яго ў руцэ. Каб працягнуць асалоду, Дэйв не стаў адразу адкрываць канверт, а, адклаўшы яго ўбок, узяўся запякаць сабе сэндвіч з сырам. Ён быў ужо ў тым узросце, калі ведаў, што чаканне нейкае падзеі часцяком хвалюе больш, чым сама падзея.

Гатуючы свой сэндвіч, Дэйв пазіраў на канверт. Почырк быў незнаёмы і зваротны адрас не пазначаны. Ён не ўяўляў сабе, ад каго мог быць ліст. Аднак хто б гэта ні быў, ён пісаў атрамантам, што сведчыла пра некаторую экстравагантнасць асобы ды яе даволі блізкія стасункі з адрасатам. Такі ліст магла б, да прыкладу, напісаць былая дзяўчына. Дэйв сеў за стол, з’еў палову сэндвіча, затым акуратна выцер рукі сурвэткай, узяў канверт і адкрыў.

Зварот *«Дарагі Дэйв!»* быў напісаны ад рукі тым жа атрамантам, што й адрас на канверце, але ўвесь астатні тэкст быў надрукаваны. То бок гэта была звычайная рассылка, друкаваны спам!

У свеце не існуе больш горкага расчаравання, чым тое, што прарастае з вялікіх чаканняў.

Ліст быў наступнага зместу:

*«Дарагі Дэйв!*

*Гэтае пасланне было створанае пяць гадоў таму ў маленькай турэцкай вёсачцы на беразе мора. Яго напісала жанчына, чые муж і дзеці загінулі ў страшэннай катастрофе. З*

*таго часу гэты ліст абляцеў вакол свету пяць разоў і прынёс удачу тым, хто яго атрымаў ды, не перапыніўшы ланцужок, пераслаў іншым. Адна спадарыня з Бразіліі, атрымаўшы гэты ліст у 1997 годзе, пераслала копіі сваім сябрам ды сваякам і акурат праз тыдзень выйграла ў латарэю ды жыве цяпер у агромністым доме на Маямі Біч. Брытанскі малочны фермер выкінуў гэты ліст — і Англію выключылі з Сусветнага Кубку.*

*Ты мусіш зрабіць пяць копіяў гэтага ліста і даслаць іх сваім сябрам ці суседзям на працягу сарака васьмі гадзінаў. Да ліста не трэба больш нічога далучаць.*

*Калі ты зробіш усё адпаведна інструкцыі, роўна праз тыдзень цябе напаткае неверагодная ўдача. Калі ж ты выкінеш гэты ліст ці забудзеш разаслаць яго копіі, толькі Богу ведома, якое страшэннае ліха абрынецца на цябе. Адна пажылая жанчына з Арызоны зрабіла пяць копіяў ліста, але, паклаўшы ў сумку, забылася іх адаслаць. Усе старыя з ейнага дому састарэлых раптоўна пачалі размаўляць на невядомай мове, якую ніхто, акрамя іх, не разумеў.*

*Не спакушай лёс. Працягні ланцужок».*

Ліст быў без подпісу. Дэйв яшчэ раз агледзеў канверт. Почырк быў нібыта знаёмы, але Дэйв так і не здолеў вызначыць, каму ён належыць. Падняўшыся з-за стала ды узяўшы канверт і ліст, Дэйв перакрочыў кухню ды шпульнуў іх у сметніцу. Затым вымыў посуд і накіраваўся назад на працу.

Аднак думка пра атрыманы ліст не давала Дэйву спакою цэлы вечар. Ён цудоўна ведаў, што рассылка сябрам пяці копіяў гэтага спаму не прынясе яму аніякай удачы, але яго хвалявала верагоднасць таго, што з ім здарыцца якая-небудзь непрыемнасць. Прынамсі, Англію сапраўды выключылі з Сусветнага Кубку. І Дэйву зусім не хацелася аднойчы прачнуцца, размаўляючы на нікому не знаёмай мове. Таму ў той жа вечар ён дастаў са сметніцы пакамечаны ліст, выпрастаў яго, акуратна склаў і засунуў у кішэню нагавіцаў.

Што паробіш — у нашым свеце ўсё няпроста, і лішняя асцярожнасць ніколі не зашкодзіць. Тым больш зрабіць пяць копіяў — не такая ўжо напружная справа, а кошт адной маркі — сорак шэсць

цэнтаў — ні ў якае параўнанне не йдзе з коштам душэўнага спакою. Разважаючы такім чынам, Дэйв паклаўся спаць, і на сэрцы яго зрабілася лягчэй. Лягчэй настолькі, што ён цалкам забыўся на ліст. Знайшоў яго Дэйв толькі праз тыдзень, калі палез у кішэню па гаманец.

*«Дарагі Дэйв!.. Не спакушай лёс. Працягні ланцужок»,*— пазнаў Дэйв да болю знаёмыя радкі. Аднак ягоныя сорак восем гадзінаў, за якія ён мусіў разаслаць копіі, даўно мінулі. Ён перапыніў ланцужок, і ніхто ад яго не атрымае лістоў…

Нясцерпнае жаданне ўсё ж такі пераслаць гэты ліст было нечым кшталту абароннага механізму, дарогай адступлення. Дэйв добра ведаў, што ніколі не выйграе ў латарэю і не будзе жыць на Маямі Біч. І ён не адчуваў абсалютна ніякага дыскамфорту ад усведамлення таго, што ён не хапае зорак з неба. Аднак быць поўным лузерам ён таксама не збіраўся.

Дэйв знайшоў ліст у кішэні па дарозе на працу. Выкідаючы яго ў сметніцу на рагу вуліцы, ля тэлефоннай будкі, ён адчуваў лёгкі неспакой. Дэйв уздыхнуў — гэта быў глыбокі ўздых, які нібыта азначаў: «Усё, я здаюся…» Менавіта ў той момант, наколькі пасля мог згадаць Дэйв, ён нешта ўдыхнуў. І гэтае «нешта» не было паветрам. Яно было большым за паветра — прычым настолькі, што прымусіла Дэйва забыцца на ўсё навокал і пачаць курчыцца ад прыступаў нясцерпнага кашлю, заліваючыся слязьмі ды адплёўваючыся. Мінакі таропіліся на яго так, нібыта ў чалавека быў сардэчны прыступ. «Калі ласка, толькі не цяпер! — праносілася ў галаве Дэйва. — «Мне ж нават няма пяцідзесяці!» І ў тыя некалькі хвілінаў (якія, аднак, падаліся яму вечнасцю), калі ён задыхаўся ды кашляў, пакуль зноў не стаў здольны дыхаць і з палёгкаю асэнсаваў, што з ім усё будзе нармалёва, Дэйв быў упэўнены, што зараз памрэ.

Яму ў горла нешта трапіла. Нешта агромністае, памерам з дыню. Хоць дыні гладкія, а тое, што ўдыхнуў Дэйв і што ледзь яго не забіла, было нейкім… шурпатым. Як какос. Толькі яўна большым за яго.

Пасля таго як Дэйв здолеў сабрацца з думкамі, супакоіць мінакоў, якія паспяшаліся яму на дапамогу, ды абцерці слёзы краем майкі, ён паспрабаваў прааналізаваць, што ж адбылося.

Ягоная памяць захавала наступную карціну: ён выкідае ліст у металічны смеццевы кантэйнер на рагу вуліцы — кантэйнер поўны даверху, і вакол яго віюцца мухі…

«Я толькі што праглынуў муху!» — падумаў Дэйв і несвядома пацягнуўся рукой да грудзей. Ён зрабіў некалькі няўпэўненых крокаў, адыходзячы ад смеццевага бака. Усё, здаецца, функцыянавала як трэба: ногі, прынамсі, слухаліся. Ён асцярожна кашлянуў і зрабіў яшчэ некалькі крокаў. Сцепануўшы плячыма, ён пачаў ціхенька спяваць сабе пад нос: *«Я ведаў прыгажуню, што праглынула муху…»*

Ён павесялеў, усміхнуўся ды пайшоў крыху шпарчэй — яшчэ не цалкам упэўнена, але да гэтае няўпэўненасці цяпер дадалася агромністая палёгка, якую зазвычай адчуваюць людзі, што выжылі ў самых страшных катастрофах. Дэйв амаль памёр — аднак выжыў! *«…Я ведаў прыгажуню, што праглынула муху…»*

Гэтая сутычка са смерцю адбылася непадалёк ад «Вінілавага раю», амаль насупраць рэстарана Кэні Вонга, і Дэйв падумаў, ці не зазірнуць яму туды, каб прапаласкаць рот. Уваходзячы ў рэстаран, Дэйв разважаў, ці варта расказваць Кэні, што здарылася, і ці ёсць нешта ганебнае ў тым, што ты праглынуў муху. Урэшце Дэйв вырашыў, што ён можа размаўляць пра тое, што адбылося, і падзяліўся перажытым з Кэні. Выходзячы з рэстарана, Дэйв пачуваўся нашмат лепей. Ён крочыў на працу, напяваючы:

*Я ведаў прыгажуню, што праглынула муху…*
*Яна магла б загінуць — якая была б скруха!*

Раптам Дэйв спыніўся, нібы працяты маланкаю. Там, на паўдарозе да крамы, яго абсалютна нечакана напаткала страшная думка: можа, ён не праглынуў муху, а ўдыхнуў яе?! Можа, яна цяпер не ў ягоным жываце, дзе хутка пераструвалася б пад уплывам розных кіслотаў і скончыла б сваё жыццё самым спрыяльным для мухі чынам — у кучы…? Раптам падступная муха апынулася ў ягоных, Дэйва, лёгкіх, поўных кіслароду, дзе яна — чыста тэарэтычна — магла б жыць і… АДКЛАДАЦЬ ЯЙКІ?!!

* * *

Аднойчы Дораці з крамы «Кнігі ад Вудсварта» прапанавала Дэйву, каб ён крыху змяніў фармулёўку сваёй шлюбнай клятвы з «у хваробе ды здароўі» на «ў хваробе ды рэмісіі». Што праўда, то праўда: на долю Дэйва выпала такая колькасць змаганняў з рознымі хворасцямі, што іншы не пазайздросціў бы.

Вайна Дэйва з хваробамі пачалася, калі ён быў сямігадовым дзіцёнкам: аднойчы летнім падвячоркам ён заўважыў, што ягоная накаленніца нейкая занадта рухомая. Гэта адбылося, калі падчас сходу школьнай каманды па плаванні Дэйв, які, паклаўшы рукі на калені, сядзеў у плаўках на трыбунах, прыўзняўся, каб зазірнуць за плячо Нэнсі Мілер. Менавіта тады ён заўважыў, што калі націснуць на нагу рукамі, накаленніца пачынае рухацца пад скураю сюды-туды. Дэйв агледзеўся, каб спраўдзіць, ці ўбачыў хто-небудзь. Затым ён пайшоў у распранальню ды зачыніўся ў адной з кабінак з намерам высветліць, *наколькі* рухомая была накаленніца. Экспертыза выявіла, што яна небяспечна рухомая. Дэйв вырашыў, што накаленніца падобная да зуба, які хістаецца і вось-вось гатовы выпасці, таму не варта да яе дакранацца, бо чым часцей гэта рабіць, тым болей яна будзе расхіствацца. А Дэйву вельмі не хацелася, каб яна зусім адвалілася. Але калі ты ведаеш пра нейкую балячку на сваім целе, дужа цяжка забыцца на яе й не дакранацца.

Праз шэсць месяцаў, калі Дэйв пайшоў рабіць сабе прышчэпку ад поліяміэліту, ён прадэманстраваў сваю рухомую накаленніцу доктару Арту Ормістану. Той уважліва яе агледзеў ды пацвердзіў, што яна рухаецца, аднак адразу цярпліва патлумачыў Дэйву, што яна наўрад ці можа зусім адваліцца, бо яе трымае на месцы скура. Вельмі недарэчы доктар паведаміў, што час ад часу накаленніцы людзей могуць змяшчацца. На аблічча Дэйва адбілася збянтэжанасць. «Ну, яны нібыта саслізгваюць са свайго звычайнага месца»,—удакладніў доктар Ормістан.

Што-што, а ўявіць сабе, як у бездань ляціць ягоная накаленніца, Дэйв мог лёгка. Ён бачыў працэс наступным чынам: яна, нібыта яйка, саслізгвае долу па ягонай назе і завісае недзе над лыткай, замінаючы Дэйву хадзіць… Усю тую вясну ён

прахадзіў з моцна забінтаваным каленам і здаўся толькі ўлетку, калі давялося надзяваць шорты.

Калі Дэйву было адзінаццаць, у ягоным роце з’явілася ранка, якая шчымела кожны раз, калі ён датыкаўся да яе языком — што Дэйв, канечне, рабіў безупынку. І хаця яму было сорамна за гэтую балячку, цікаўнасць урэшце ўзяла верх. Дэйв паказаў ранку бацьку, і той сказаў, што гэта проста дробязь і ўсё міне самае большае праз тыдзень. Дэйву ж падалося, што бацька вымавіў не «гэта проста дробязь», а «пнеўмаканіёз», і што тыдзень застаўся яму, Дэйву. Адно, чаго хлопец не мог уцяміць, — гэта чаму бацька так абыякава паставіўся да такой трагедыі.

Пазней, на ўроках медыцынскай падрыхтоўкі, Дэйв даведаўся пра бактэрыі. З таго часу ён пачаў затрымліваць дыханне кожны раз, калі мінаў каналізацыйныя люкі. Ён і дагэтуль не дыхае, калі выносіць смецце.

Большасць забабонаў ды дзівацтваў паходзяць з нашага дзяцінства, і за той час, пакуль Дэйв ператварыўся з хлопчыка ў самавітага мужчыну, ён назапасіў столькі звестак пра розныя небяспечныя вірусы ды бактэрыі, што дай Бог кожнаму (дакладней, НЕ дай). На думку Дэйва, тысячы бактэрыяў штохвілінна заціскалі яго ў сваё кола, нібыта клан арганізаваных злачынцаў, сочачы за ім ды рыхтуючыся да нападу. Дэйв уяўляў сябе кубкам Петры, які ў самы нечаканы момант мог быць атакаваны ды каланізаваны любым з навакольных варожых мікробаў. Дэйв жыў, ведаючы, што варта ўдыхнуць якую-небудзь не тую парушынку, і твар можа пачаць раздзьмувацца, як балонік; ці капіляры пачнуць крываточыць; ці што зусім непрыемна, якія-небудзь жыццёва важныя органы адамруць.

Дэйв навучыўся рабіць супраць магчымых хваробаў прэвентыўныя захады — такія, што не прыцягвалі б да яго зашмат чужой увагі. Напрыклад, калі ў яго баліць галава, Дэйв ніколі не прымае болеспатольнага, каб, барані Бог, не замаскаваць інсульт. Ён ведае сімптомы большасці сур’ёзных, часам дужа непрыемных хваробаў. Дэйв таксама даўно валодае сакрэтам, як пазбавіцца галодных сутаргаў глыточкам віскі, і лічыць гэта даволі важкай прычынай, каб паўсюль насіць з сабой пляшку гэтага арыстакратычнага напою.

Таму Дэйв не збіраўся так проста адмахнуцца ад думкі пра тое, што ў ягоных лёгкіх будзе жыць зграя мухаў. Больш за тое, гэтая думка выклікала ў яго нясцерпны жах… *«Яна магла б загінуць — якая была б скруха!»*

Дэйв зноў спыніўся сярод ходніка і, паклаўшы руку на грудзі, паспрабаваў згадаць, што ж зрабіла прыгажуня з тае песні, калі праглынула муху. Ага! Яна адразу ж праглынула павука:

*Паненка тады павука праглынула*
*(Яе, небараку, усю скаланула):*
*Усё для таго, каб той муху злавіў.*
*Куды там — ён нат павуціння не звіў!*

Не, Дэйв ні ў якім разе не збіраўся глытаць павука. Тым больш, калі верыць аўтару верша, павук мала дапамог кабеце. Але Дэйву зусім, ну зусім не хацелася паміраць. Асабліва такой трывіяльнай смерцю. Ён ужо бачыў загалоўкі газетаў: «Мужчына нечакана памёр па дарозе на працу пасля нядоўгай крывавай барацьбы са спамам».

Нейкая частка Дэйва разумела, што ён паводзіць сябе неадэкватна, нібы той параноік. Ён нават не мог з упэўненасцю сказаць, што ён праглынуў (ці ўдыхнуў) менавіта муху. І, наколькі Дэйв ведаў, у лёгкіх ёсць адмысловы клапан, які аўтаматычна захлопваецца, калі ты нешта ўдыхнуў. Таму Дэйв усё ж схіляўся да таго, што ён не мог удыхнуць муху. Так, ён мог яе праглынуць, але ніяк не ўдыхнуць. У той жа час Дэйв мог паклясціся, што адчувае, як муха б’ецца аб сценкі ягонага лёгкага, нібы паміж дзвюма шыбамі.

Адчыняючы сваю краму, Дэйв пакашліваў. Вакол нікога не было. Зайшоўшы ўсярэдзіну, ён замкнуў дзверы і, не зняўшы шыльды «Зачынена», маркотна абаперся на касавы апарат. Аглядаючы пустыя праходы паміж стэлажамі з кружэлкамі, Дэйв задумаўся, што яму рабіць. Наўрад ці б яго прынялі ў аддзеле хуткай дапамогі. Тады Дэйв узяў мятлу ды пачаў месці паміж скрынямі з кружэлкамі, спрабуючы рабіць гэта як мага бесклапотней і болей за ўсё намагаючыся не думаць пра свае лёгкія.

Але падмануць самога сябе Дэйв не здолеў: ён толькі й мог думаць пра свае лёгкія. І хутка ён канчаткова ўпэўніўся, што муха ўсё ж такі туды трапіла — ён ясна адчуваў яе ўсярэдзіне. Гэта было падобна да вібрацыі — не кашаль, а нешта накшталт лёгкага казытання… І тое было яўна ненармальна.

Да трэцяй гадзіны Дэйв неверагодна накруціў сябе: можа, гэтая муха трапіла ў краіну разам з партыяй экзатычнай садавіны і была носьбітам якой-небудзь невядомай хваробы, успрымальнымі да якой былі ўсяго некалькі рэдкіх генетычных тыпаў, сярод якіх і ягоны? І што калі дактары не змогуць нават дыягнаставаць гэтую хваробу?!

Пэўна, яго, Дэйва, хутка ахопіць жар, і будзе кома, а пасля доўгага ды адчайнага змагання дактароў за ягонае жыццё ліхаманка раптоўна скончыцца, Дэйв выйдзе з комы… Але будзе размаўляць на замежнай мове, якой ніхто не разумее. І ўсе падумаюць, што ён звар’яцеў. Пакуль аднойчы стары егіпцянін не вызначыць, што мова, на якой размаўляе Дэйв, — старажытнашумерская.

На гадзінніку было шэсць вечара — час зачыняць краму. Дэйв вагаўся: варта яму йсці дадому ці адразу накіравацца ў паліклініку. Урэшце ён рушыў дахаты. Там ён змерыў сабе тэмпературу: 37.2 — нядобры знак.

Трэба адзначыць, што кожны раз, калі Дэйв думае, што падчапіў нейкую невядомую хваробу, ён пачынае займацца тай чы. Ён ведае толькі некалькі асноўных рухаў, якія заўжды паўтарае, але яны дапамагаюць яму сканцэнтравацца. Перад вячэрай Дэйв выйшаў у садок за домам і пачаў свае тай чы-практыкаванні. Морлі пражыла з Дэйвам даволі доўга, каб адразу зразумець, што адбываецца. Убачыўшы, як Дэйв у садку круціцца, расцягваецца ды выгінаецца, яна крыкнула ў акно: «Дэйв, такой хваробы не існуе!»

Ды што ўвогуле ведае гэтая жанчына?! Сам Дэйв быў упэўнены, што хутка памрэ. Адзінае, на што ён мог спадзявацца, — гэта тое, што ягоны медычны выпадак зробіцца сусветна вядомым і прыцягне ўвагу якога-небудзь вядомага спецыяліста, які здолее яму дапамагчы. А можа, акрамя таго, што Дэйв пачне размаўляць на старажытнашумерскай, у яго выявіцца здоль-

насць рашаць складаныя матэматычныя ўраўненні, і з Нью-Ёрка прыбудзе сам доктар Олівер Сакс, каб даследаваць Дэйва. Доктар Сакс будзе назіраць за тым, як Дэйв рашае ўраўненні на вялікай дошцы ва ўніверсітэцкай аўдыторыі, а потым пра яго здымуць фільм, у якім галоўную ролю будзе граць Роберт Рэдфард. Дэйв уяўляў сабе, як ідзе на прэм’еру са сваім адзіным у свеце сябрам — старым егіпцянінам… Не, ён не дажыве да прэм’еры. Яму не дастанецца яркая эпізадычная роля, і толькі пры канцы фільма, у тытрах, будзе напісана: *«Прысвячаецца памяці Дэйва».*

Дэйв зразумеў, што яму трэба зрабіць — і зрабіць як найхутчэй: трэба забіць муху. Бо пакуль ён не здзейсніць гэтага, ён не здолее жыць як нармальны чалавек.

Адзіны спосаб забойства мухі, які прыходзіў да галавы Дэйву, — абмежаваць ёй доступ да кіслароду. На жаль, такім чынам Дэйв перакрываў кісларод і *самому сабе*.

Даваць рады такой сур’ёзнай медычнай праблеме (якая немінуча мусіла ўключаць у сябе хірургічнае ўмяшальніцтва з боку самога Дэйва) дома, перад вачыма сваіх родных, яму зусім не хацелася. Таму Дэйв сказаў Морлі, што ён не галодны й яму трэба зноўку заскочыць на працу.

Прыйшоўшы ў краму, Дэйв добрыя паўгадзіны праседзеў на кукішках за прылаўкам, спрабуючы затрымаць дыханне болей чым на хвіліну. Заклеіўшы рот скотчам ды заціскаючы адной рукой нос, Дэйв мог пратрымацца хвіліну і пятнаццаць секундаў — пры гэтым ён так дрыгаў нагамі, быццам яго нехта душыць.

Праблема была ў тым, што пасля кожнай спробы затрымаць дыханне Дэйв так моцна й глыбока ўдыхаў паветра, што, як яму падавалася, нават калі муха й жадала пакінуць свой прытулак, яе так глыбока зацягвала плынню паветра назад у лёгкія, што яна ніколі ўжо не здолела б адтуль выбрацца. Дэйв быў упэўнены, што адчувае, як муха бадзяецца па ягоных бронхах, нібы той п’яніца пасля разгульнай ночкі.

І тут Дэйв раптоўна ўсвядоміў, што муха, мабыць, і сама прагне апынуцца на волі — можа, не менш за яго самога.

Яны не былі ворагамі, яны былі адной камандай! Мэнэджары прафесійна называюць гэта «зменаю канцэпцыі»: Дэйв мусіць не весці з мухай вайну, а дапамагчы ёй, паказаўшы дарогу дамоў.

Дэйв зірнуў на лямпу, што стаяла побач з касавым апаратам на прылаўку. Зняўшы з яе абажур ды ўключыўшы святло, Дэйв раскрыў рот так шырока, як толькі мог, ды пачаў марудна нахіляцца да лямпы, набліжаючы да яе вусны так блізка, як магчыма.

Менавіта ў гэты момант ён заўважыў нейкі рух ля ўваходных дзвярэй. Паглядзеўшы ў тым кірунку, Дэйв убачыў Джыма Скофілда, які, разявіўшы рот больш за самога Дэйва, назіраў за ягонымі дзеяннямі.

Дэйв выпрастаўся ды адамкнуў дзверы.

— Я проста праходзіў побач і выпадкова зазірнуў усярэдзіну, — апраўдваючыся, мовіў Джым.

— Я праглынуў муху, — патлумачыў Дэйв. — Яна цяпер у маіх лёгкіх. Я падумаў, што яе прыцягне святло, і яна на яго вылеціць.

— Гэта мошкі.

— Што «мошкі»?

— Ну, гэта мошкі лятуць на святло.

Дэйв утаропіўся ў сябра.

— А на што лятуць мухі? — запытаўся ён.

Павісла няёмкая цішыня. Урэшце Джым запытаўся:

— А з чаго ты ўзяў, што ў цябе там муха?

— Я адчуваю яе: мае лёгкія нешта казыча, як пялёсткі кветак казычуць нос, калі іх зблізу нюхаеш.

— У цябе ёсць пыласос? — пацікавіўся Джым.

Дэйв зірнуў у бок падсобкі. Джым ажывіўся:

— Цудоўна, мы можам выкарыстаць тую насадку для цяжкадасягальных месцаў — розных шчылінаў…

— Ты з дуба ляснуўся ці што?! — абурыўся Дэйв.

— Ну, глядзі сам: муха ў *тваіх* лёгкіх.

— Але яна сапраўды там!!

Крыху падумаўшы, Дэйв прапанаваў:

— Слухай, зацісні мне рот і нос рукой і не адпускай, пакуль я не пачну страчваць прытомнасць.

— Добра, — не вельмі ўпэўнена мовіў Джым. Закатаўшы рукавы, ён пагайдаўся з боку ў бок, шукаючы зручную пазіцыю, і ўрэшце ўзяў Дэйва за плечы.

— Чакай! — раптам сказаў Джым і адпусціў Дэйва. — А што мне рабіць, калі ты сапраўды страціш прытомнасць?

Дэйв разражнёна абярнуўся: «Калі я страчу прытомнасць, ты сатрэш з ручкі дзвярэй адбіткі сваіх пальцаў і выйдзеш праз чорны ход, каб цябе ніхто не ўбачыў».

Джым з разуменнем хітнуў галавой. Дэйва гэткая рэакцыя канчаткова вывела з сябе: «Ну а *ты* як думаеш дзейнічаць?! Канечне ж, ты мусіш будзеш зрабіць мне дыханне рот у рот, каб я ачуняў!!!»

Джым задумаўся. Потым мовіў:

— Ёсць ідэя!

— Якая? — з недаверам запытаў Дэйв.

— Мы яе ўтопім! Пойдзем у басейн, і ты набярэш поўныя лёгкія вады.

— А як жа я? — насцярожана запытаў Дэйв, якому ідэя відавочна не спадабалася.

— Мы пойдзем у юнацкі спартовы цэнтр, там ёсць ратавальнікі — яны табе дапамогуць. Зрэшты, гэта іх праца. Ты разбярэшся з мухай, а ратавальнікі паклапоцяцца пра цябе, — грунтоўна патлумачыў Джым.

Аднак замест таго каб ісці ў басейн Дэйв з Джымам накіраваліся ў «Хогардз Х’юмідарз», дзе Дэйв набыў дванаццацідаляравую цыгару.

«Я спалю яе за раз!» — падзяліўся ён сваім планам з Джымам.

Дэйв выбраў цыгару маркі «Крус Рэаль», нумар 19 — цёмную, якая выглядала дужа злавесна ды была падобная да абгарэлай драбіны. Калі ён падышоў да касы, каб расплаціцца, прадавец паспрабаваў яго адгаварыць ад пакупкі:

— Гэтыя цыгары занадта моцныя, — далікатна патлумачыў ён.

— Цудоўна! — узрадаваўся Дэйв.

— Разумееце, гэтыя цыгары настолькі моцныя, што прытупляюць пачуцці: іх нават не рэкамендуюць курыць перад прыёмам ежы, бо яны нейтралізуюць смакавыя рэцэптары на некалькі гадзінаў.

— Вельмі добра! — адказаў Дэйв.

— Гэтыя цыгары зробленыя ў Мексіцы.

Дэйв усміхнуўся, падумаўшы, што гэта дакладна тое, што яму трэба, бо калі цыгара з Мексікі, яна можа ўтрымліваць рэшткі пестыцыдаў — а гэта яму толькі на руку.

— Штосьці яшчэ? — запытаў прадавец.

— Пачак запалак, калі ласка.

На вуліцы Дэйв запаліў цыгару і, набраўшы ў рот дыму ды крыху патрымаўшы яго там, глыбока зацягнуўся. Пасля чаго ледзь не страціў прытомнасць — дакладна як тады, калі ўдыхнуў муху (цяпер падавалася, што гэта адбылося ўжо тысячу гадоў таму). Дэйва скруціла так, нібыта нехта даў яму пад дых, ён заходзіўся кашлем хвіліны дзве.

Джым стаяў побач ды вельмі дапамагаў Дэйву такімі рэплікамі, як «З табой усё добра?» і «Мяркую, дарма ты так глыбока зацягнуўся».

Калі Дэйв выпрастаўся, ён так прагна глытаў паветра, нібыта толькі што вынырнуў з-пад вады.

— Мне падабаюцца гэтыя мексіканскія цыгары, — мовіў ён. — У іх своеасаблівы арэхавы прысмак.

— Слухай, а з гэтымі цыгарамі мусіць добра йсці віскі… — задуменна адзначыў Джым.

Дэйв вярнуўся дадому далёка за поўнач. Як быў — у вопратцы ды ботах — ён заваліўся ў ложак побач з Морлі, якая ўжо спала. Ён прыслухаўся да сваіх адчуванняў: галава страшэнна гула, страўнік стагнаў… Затое Дэйв не адчуваў аніякага казытання ў грудзях! Хоць, калі шчыра, Дэйв увогуле мала што адчуваў, акрамя неверагоднай млосці.

Калі ён заплюшчыў вочы, усё вакол пачало круціцца. Каб надаць сабе нейкае ўстойлівасці, Дэйв абаперся рукой аб падлогу. У такой паставе ён і прачнуўся наступным ранкам — аб адзінаццатай гадзіне, лежачы на баку, з раскрытым ротам. Вусны былі сухія ды патрэсканыя, а ў роце адчуваўся такі смак, быццам там кот нагадзіў. Галаву раздзіраў боль. Акрамя таго, кожныя некалькі секундаў па мазгах Дэйва біў нейкі няўцямны гук: «Бэмс! Бэмс!! Бэмс!!!» Гэта была сапраўдная пакута.

— Морлі… — прастагнаў Дэйв, не варушачыся й нават не паварочваючыся да жонкі.

— Я патэлефанавала Браяну — ён адчыніў краму, — пачуўся голас Морлі.

БЭМС!!!

Дэйв перакаціўся на іншы бок. Морлі стаяла ля акна, трымаючы ў выцягнутай руцэ скручаную газету. Па шыбе ўгору паўзла муха.

Морлі зноўку замахнулася газетай:

— Ніяк не магу трапіць, — патлумачыла яна.

— Чакай! — схамянуўся Дэйв.

Ён глыбока ўдыхнуў і пачаў кашляць. У грудзях пры гэтым пекла, лёгкія, здавалася, цалкам ссушыла дымам… Але не было ніякага казытання ды свярбення.

— Не забівай яе, — сказаў Дэйв. — Проста адчыні акно, і яна паляціць сама.

Морлі пацiснула плячыма ды расчыніла акно. Муха, крыху пакружляўшы пад столлю, урэшце вылецела на двор. Дэйв, прыпадняўшы над падушкай галаву, сачыў за ёй, пакуль яна не знікла ў марозным ранішнім паветры.

*Пераклала з ангельскай Дар’я Вашкевіч*

# Ася Волкава

* * *

Добры паэт мае намер
Прыехаць у Прагу па натхненне.
І вось ён ужо сядае за столік
У пражскай кавярні,
Замаўляе каву
І чынна дастае асадку
І свой парадны нататнік.

Кепскі паэт мае намер
Прыехаць у Прагу па натхненне.
І вось ён ужо замаўляе сабе
Піва, бехераўку,
слівовіцу і абсэнт…
Піва, бехераўку,
слівовіцу і абсэнт…
Піва, бехераўку,
слівовіцу і абсэнт…
А з раніцы прагна наталяе смагу
півам, бехераўкай,
слівовіцай і абсэнтам.

Добры паэт павязе дадому
Поўны нататнік
Ладненькіх вершаў,
Надрукуе іх у раёнцы
І доўга будзе расказваць усім
Пра genius loci
І «толькі ягоную Прагу».

Кепскі паэт будзе запісваць
Радкі на сурвэтках
І шматках паперы,
А потым скурыць іх дарэшты,
Пакуль яго муза будзе паміраць

Ад аргазмаў.

* * *

Упершыню я ўбачыла цябе праз кішэннае люстэрка.
Я тады фарбавала вусны чырвонай памадай.
А потым ты дэкламаваў свае вершы,
А я дэкадавала твой погляд.
У вачах я прачытала жаданне:
Заняцца са мной сэксам,
Пасля закурыць,
Потым,
Калі пашанцуе,
Яшчэ раз заняцца,
І яшчэ закурыць…
Пасля патушыць недапалак і закахацца ў мяне,
Ажаніцца са мной, пабудаваць дом і выгадаваць сына…
Далібог, я бачыла гэта ў тваім позірку…

Адзінаю белую ружу, якую трымаў у руках,
Ты падараваў нейкай малалетцы,
А я ў прыбіральні пакідала сваю чырвоную памаду
На плячы ў сяброўкі, не разумеючы:
А як жа сэкс, дом і сын?..

* * *

Адэль Гюго
Падкладала пад свайго каханка прастытутак,
Бо толькі да іх яна не раўнавала.

Сярод тых, што глядзяць табе ў рот,
Шмат гатовых легчы пад цябе,
Але мала ахвочых
Замовіць табе прастытутку.

Я лепш пачакаю ўбаку.

Але ты ведай:
Я гатовая аддаць табе ўсе свае словы,
Рыфмы і вобразы.

Праблема ў тым,
Што я хварэю на брыдкаслоўе
І банальнае вершаскладанне.
Таму я, як і Адэль Гюго,
Вымушаная зачыніць сябе ў дурцы.

* * *

Калі табе захочацца пацалаваць
Апошняга свайго ворага,

Калі шахідка будзе здзімаць пыл
З абразоў,

Калі замест «Толькі не гавары маёй маме»
Ты скажаш: «Я кахаю цябе»,

Калі хлопец у аўтобусе пусціць кулю ў лоб
Назойлівай старой,

А потым яго званітуе нечым жоўтым,
А нейкая бабуля будзе шкадаваць яго,

Калі вуліцы Прагі патонуць у крыві
Калядных карпаў,

Вакханкі супярэчнасцяў
Разарвуць нас з табой знутры.

* * *

Павіч верыў у тое,
Што людзі могуць
Сустракацца ў снах.

І што сапраўдныя
Лаўцы сноў
Пільнуюць адно аднаго ўночы.

Мая прапрабабуля
(кажуць, яна была чараўніцай)
Нашаптала мне неяк,
Што ты

Неабачліва пакінуў
Адчыненымі дзверы сваіх сноў.

З таго часу штоноч
Я выбіраюся на дыбачках
У падарожжа,

Каб прычыніць
Гэтыя дзверы.

А раптам нейкі
Іншы лавец
Падпільнуе цябе…

## Майстар і Маргарыта

Часам
Лепш не размаўляць пра літаратуру.

Аднойчы,
Калі мы ляжалі з табой у ложку,
Стомленыя, але задаволеныя,
Табе захацелася тэатральнасці.

Ты пацалаваў мяне ў скроню
І спытаў сваім самым мяккім
Грудным голасам:

«Скажы, я Майстар?»
«Які ты на фіг Майстар!!!!!»

«Ды і табе ніколі не цалавалі калена
Сто каралёў
На вясеннім балі ў сатаны…»

## Неараман

Давай адмовімся ад усяго:
Ад палітыкі і маралі,
Ад сюжэтаў і фабул,
Галоўных і другарадных герояў.

Давай напішам наш неараман.

Свет сканцэнтраваўся
На тваёй спіне,

Такой ладнай,
Што хочацца быць замураванай у яе,

Такой шырокай,
Што хочацца танцаваць на ёй стрыптыз.

Ёсць толькі ты, я, рэчаіснасць
І чыстае пазнанне.

## «Крыгаход»

З сярэдзіны сакавіка
Пачынаецца дзея…

На хвалях Свіслачы
Танцуюць эратычныя танцы,
Судакранаюцца,
Злучаюцца ў абдоймах,
Віруюць

Неўпарадкаванай чарадой
(Адзін за адным,
Па двое, па трое)
Плывуць недапалкі.

Гледзячы на іх урачыстае шэсце,
Мне хочацца адпусціць цябе
Плысці па Свіслачы,
Далучыўшы да такіх, як і ты,
Недапалкаў…

* * *

Мне падабаецца, калі нашыя целы
Дакранаюцца адно да аднаго.
Мне падабаецца, як твае рукі
Паволі спускаюцца ад плеч да сцёгнаў
І затрымліваюцца там.
Мне падабаецца абдымаць цябе
За такія шырокія плечы.
Мне падабаецца, калі нашыя целы
Пачынаюць пацець.
Мне падабаецца чуць
Нашае сінхроннае дыханне,
Калі ўдыхі-выдыхі
Робяцца ўсё часцейшымі і часцейшымі.
Мне падабаецца, што нам і падлогі мала.

Мне падабаецца, калі мы танцуем разам.

* * *

Танцуй, маленькая чараўніца,
І хай нават каралі паэтаў
Перад табою лягуць ніцма!

Танцуй, проставалосая бестыя,
А іхнія зайчыкі і заінькі
Хай сабе пабесяцца!

Трывож іх прарэхі,
Выгінаючы белую спіну.
Чуеш, у зале прабегла рэхам:

«Блудніца…»
А ты не зважай,
Ты танцуй, чырвоная чараўніца!

Сукенкай сваёй ядвабнай
Прываблівай.
Танцуй, пазіраючы зверху на іх:
Айседор Дункан павінна хапіць на ўсіх!

# Кірыла Дубоўскі

## Беларуская мова

Мы сядзелі з Пашам у кавярні, пілі гарбату і курылі. Ён расказваў мне пра свой сон.

— Снілася, быццам у мяне выйшла кніга і была яе прэзентацыя ў Маскве. На ёй прысутнічаў Бегбедэр і яшчэ нейкія вядомыя аўтары. Памятаю, што адчуваў сябе багатым і шчаслівым, а як прачнуўся — нічога. Ні грошай, ні кнігі. Вось так вось.

Паша пацікнуў плячыма. Нейкі час мы сядзелі моўчкі. Потым я насмеліўся расказаць.

— Я сёння бачыў жахлівы сон. Ты ж, напэўна, ведаеш, што ўчора я напісаў сваё першае беларускамоўнае апавяданне. Напісаў і паклаўся спаць. І снілася, быццам я нікуды не сыходзіў з-за стала. Сяджу перад маніторам, і тут да мяне ў пакой уваходзіць мужык. Велічэзны такі, з вусамі, ногі ў лапцях, у валасах каўтун. І кажа ён мне:

«Я Беларуская Мова! Няхай не будзе ў цябе іншых моваў, апроч мяне! Калі ты вырашыў прадаць мне душу, то ведай, што мусіш выканаць неабходныя ўмовы. З сённяшняга дня ты будзеш як мага больш пісаць пра наш край, наш шлях, зямельку гаротную беларускую, маскалёў клятых чужынцаў і пагоню бел-чырвона-белую. Калі ты гэтага не зробіш, я вярнуся і ўтаплю цябе ў трасянцы».

— І вось не ведаю, што рабіць, — уздыхнуў я. — Хачу пісаць пра дзяўчат, каханне, вясну.

Паша задумаўся.

— Трэба неяк круціцца. Будзеш пісаць, што і на нашу гаротную зямельку беларускую прыйшла вясна. Дзяўчаты ўпрыгожылі рукі бел-чырвона-белымі латэкснымі напульснікамі. І паўсюль запанавала каханне. Гэта адзіны твой шлях у гэтым краі.

# Трубачка

Аднойчы я ўбачыў паненку з трубачкай у галаве. Я запрасіў яе да сябе, набыў піва і наліў крыху праз трубачку. Ужо з першымі кроплямі дзеўчына пачала ўсміхацца ў адказ на мае жарты, прытуляцца да мяне, лашчыць пальцамі шчаку. Я заліў усю бутэльку, і яна мяне пацалавала. Пасля другой мы згасілі святло.

Праз некалькі дзён я ўбачыў яе зноў. Яна зрабіла выгляд, быццам мы незнаёмыя. Але ў маім заплечніку знайшлася бутэлька «Аліварыі», і я другі раз скарыстаўся трубачкай. Мы прачнуліся побач і разышліся хто куды. Я потым сустракаў яе, але трубачкі больш у галаве не было. Мы не ведалі, што казаць адно аднаму, і больш ніколі не бачыліся.

І тады я пачаў шукаць дзяўчат з трубачкамі, якія маглі падараваць мне пяшчоту і ласку. Я насіў у заплечніку піва, якое бурштынавымі струменьчыкамі ўліваў ім у галовы. Яны хутка п’янелі, і мне здавалася, быццам яны мяне кахаюць. Але надыходзіла раніца, і ўся іх пяшчота і ласка кудысьці выпараліся.

Адной дзеўчыне я заліў праз трубачку гарэлку. Яна адразу пачала плакаць. І пакуль я дарэмна чакаў сваёй порцыі пяшчоты і ласкі, жалілася, што неўзаемна кахае іншага хлопца, і ўвесь час дасылала яму смс.

А потым мне абрыдла ўсё гэта, і я прыладзіў трубачку самому сабе. Я заліваў туды піва і чырвонае віно, хадзіў шчаслівы, і навакольны свет быў пяшчотны і ласкавы.

# Трусы

Наши воспоминания о любимых, с которыми мы когда-то расстались, порой бывают крайне мучительны. И любая, даже самая незначительная вещица может вызвать такой бурный шквал образов и мыслей о прошлом, что мало не покажется. Старая фотография, плюшевая игрушка, донесшийся обрывок мелодии — что угодно может внезапно заставить нас

вспоминать былое, окунаться в него с головой и, конечно же, *неимоверно страдать*.

Для Паши такой вещью были трусы на дереве. Но не спеши смеяться, мой дорогой циничный читатель. Потому что жизнь — она многогранна, и порой в ней случается такое, что только диву даешься.

У каждого из нас бывает время, когда для счастья в жизни есть все. Любимый человек, денежная работа, отменное здоровье. И само счастье тоже есть, а как же ему не быть-то со всем этим. Вот и у Паши когда-то были деньки, которые он по праву мог называть не иначе как раем на земле. И заслуга в первую очередь в этом была его любимой девушки Оли. В настоящее время, конечно же, бывшей девушки Оли.

Как вообще водится, среди счастливых деньков обязательно всегда найдется один самый счастливый. Тот, который мучает потом ностальгией всю оставшуюся жизнь. И у Паши такой денек тоже был.

Если так задуматься — начинался он как самый обычный день, разве что солнце как будто светило ярче, жизненный тонус был немногим повыше и все, казалось, в этом мире делалось к лучшему.

И вот в пятницу вечером, на исходе того самого счастливого дня, наши герои собрались у Паши дома на романтический ужин с вином. Сперва они пили вино Старого света, потом вино света Нового, а когда закончилось и оно, Паша сбегал в магазин за вином третьего мира.

Сейчас уже и не скажешь, почему, когда опьяненные любовью Паша и Оля закончили с ужином и приступили к романтике, раздеваясь, Оля решила выкинуть свои трусы с балкона. Наверняка она действовала по какому-то ведомому только ей наитию. Наша история об этом умалчивает. Главное то, что когда наши герои вышли на балкон, чтобы выкурить по обязательной сигарете, они увидали, что Олины трусы повисли на раскинувшемся под балконом дереве. «Будешь меня вспоминать часто», — засмеялась тогда Оля, и Паша засмеялся вместе с ней.

Но «хорошо смеется тот, кто смеется последним», гласит известная поговорка. Любовь наших героев закончилась тем, что Оля изменила Паше с его лучшим другом Петей. Бывает, конечно. Не со всеми, но бывает. И раз уж такое случилось, следует поскорее забывать неверную девушку, вычеркивать ее

из своего сердца. А попробуй забудь, когда выходишь на балкон покурить и видишь ее колышущиеся на ветру трусы. Первые месяцы у Паши была еще надежда, что трусы все-таки упадут, не могут же они держаться на дереве вечно, интересно, за что они там крепятся, но когда трусы пережили первую зиму, Паша понял, что Олю он не забудет еще долго.

Хорошо еще фотографий совместных не осталось.

## Двойная порция

В дверь позвонили. Вначале один раз, а потом еще несколько. Я чертыхнулся нежданным гостям и пошел открывать. На пороге стояли парень и девушка. Они широко и дружелюбно улыбались. В руках у парня была толстая книга в черной обложке.

— Здравствуйте, — сказала девушка, — мы хотим рассказать вам о Боге.

Я мысленно досчитал до десяти и ответил:

— Если вы баптисты, адвентисты, кришнаиты или дети Иеговы, то знайте, ваши братья меня уже навещали.

— Ну что вы, — сказал парень. — Мы дети Кука. Что-нибудь слышали?

— Не доводилось.

— Дети Кука — представители религии порриджанства. Мы хотим, чтобы вы немного узнали о ней. Это может изменить вашу жизнь.

Я оперся локтем о дверной косяк и сделал заинтересованное лицо.

— Великий Кук, — завела девушка тоненьким голосом, — создал наш мир, заварил всю эту кашу, понимаете? И наш долг, наша земная миссия состоит в том, чтобы эту кашу расхлебать — порцию, которая отмеряна каждому. Вы еще не родились, а Кук уже знал, сколько каши вам приготовить. Только порриджанство может научить вас правильно ее расхлебывать.

— Да, приходите в нашу церковь, — подключился парень. — У нас хорошие люди, мы поем, читаем Большую Книгу Рецептов, а в конце каждого собрания едим кашу. Приходите, не стесняйтесь.

— А что за каша вообще? — спросил я.

— Если вас интересует конкретно, то в нашей церкви принято считать божественную кашу гречневой. Где-то ее считают овсяной, где-то рисовой — это все конфессии одной нашей общей веры — порриджанства. Кук все равно один, какие бы каши кто ни расхлебывал.

— И даже манную?

Парень скривился.

— Церкви, в которых на служениях едят манную кашу, официально признаны сектами. Наше гречневое течение наиболее консервативно, потому что держится на вековых традициях.

— Большое спасибо, очень познавательно, — сказал я. Девушка протянула мне визитную карточку.

— Мы будем вам очень рады, — сказала она. — И еще…

Она понизила голос.

— У подъезда мы видели представителей мердизма. Они считают, что всю жизнь мы расхлебываем не кашу, а дерьмо. Но вы им не верьте, это не дерьмо, а каша, помните это всегда, именно каша!

## Герои

…Она появилась незаметно. Подошла ко мне со спины, мягко тронула за плечо.

— Привет.

— Здравствуй, Вероника, — обернулся я. — Чем могу быть полезен?

— Ты сам знаешь…

Она опустила глаза. В их уголках собирались первые слезинки.

— Даже не догадываюсь. Ну давай, выкладывай, что там у тебя.

Вероника стиснула переплетенные пальцы. Накрашенные ногти впились в кожу.

— Ты хочешь, чтобы мы с Ваней расстались!

— Бог мой, Вероника! Я вовсе не хочу этого.

— Но ведь мы должны расстаться, так?

— Только потому, что ты изменяешь ему.

Вероника покраснела. Я продолжил:

— И пора уже Ивану догадаться об этом. Разве ты не знаешь, что все тайное становится явным?

— Но ведь ты можешь сделать так, чтобы он не узнал…

— Конечно, могу, — согласился я. — Но это будет выглядеть фальшиво, и мне никто не поверит. Ты моя любимая героиня именно потому, что ты такая настоящая.

— И почему мне только реалист достался, — вздохнула Вероника. — Ведь ты бы запросто мог оказаться романтиком. Вот у Светки писатель — романтик. И у нее такая любовь…

— А еще я мог оказаться постмодернистом. Я бы тебе такую любовь показал…. Полгода ты жила счастливо с Ваней, зачем тебе был нужен этот Алексей?

— Мне? — удивилась Вероника. — А зачем он появился в третьей главе?

— Это второстепенный персонаж, ты не должна была обращать на него внимания.

— А может, ты сам это все подстроил для развития сюжета? Вам, писателям, вообще наплевать на жизнь ваших героев, исковеркаете как захотите, лишь бы читалось интересно. Когда кто-то счастлив, вас это не устраивает, потому что скучно. А нам что делать?

Я задумался.

— Мне кажется, Вероника, следует хорошенько разобраться, кто тебе нужен. Если ты будешь бросаться на каждого выдуманного мной парня, то счастлива не будешь. Моя вина, я создал тебя слишком страстной, но если у тебя получится держать себя в руках, то Ваня ни о чем не узнает.

— Хорошо, — сказала Вероника. — Я попробую.

— Вот и договорились, можешь быть спокойна.

Вероника исчезла так же незаметно, как и появилась. А я сел за стол и включил компьютер. Под ритмичный стук клавиш Алексей переехал в другой город, где вскоре женился на созданной для него девушке. Для Вероники и Вани я написал романтический вечер, такой, что не хуже, чем у Светки.

Я хочу, чтобы все были счастливы.

# Алесь Емяльянаў

## Мара

*Максу*

Памерці ў Празе — якое шчасце!
Гледзячы на вежу сабора Святога Віта.
Сонца ў вачах патроху гасне,
займае дух ад прыгажосці.
Бесклапотна, нязмушана, тугой не спавітым
скончыць жыццё апантаным госцем
з эгаістычным жаданнем, што калісьці твой прах
пахаваюць на бацькаўшчыне па канонах хрысціянства.
Ды толькі, відаць, гэта марная мара — мара,
дружа, хіба не чуў ты пра
тое, што ў роднай краіне
нат пасля смерці
не даюць грамадзянства!

*1 верасня 2010*

* * *

скроні
кранае
дождж
што з цёплага
неба лье

цьмяна-
жахлівая
ноч
воч маіх
вільгаць
п’е
час
выкрасае
жыццё
ў белы
нязграбны
верш
мокне
на дрэвах
лісцё
а значыць
яшчэ
жывеш
і плачаш як гэты дождж
і стогнеш як слёз няма
золку прамень як нож
дзень як без крат турма

коціцца
хутка
ноч
поўня
хавае
твар
зоры як слёзы з воч
падаюць у гушчар

## Вераснёвага золку дачка

Ты знікаеш у змрочным тумане,
Там, дзе месяц калыша рака.
Я чакаю з табою спаткання,
Вераснёвага золку дачка.

У чырвона-зжаўцелым адзенні
І з галінкай рабіны ў руках
Крочыш, ранішняй мроі стварэнне,
Вераснёвага золку дачка.

На дрыготкім і волкім світанні
Я цябе не стамлюся чакаць,
Каб растаць з табою ў тумане,
Вераснёвага золку дачка.

* * *

Здымі пальчаткі з думак — снег
Кладзецца на далоні,
Але ж не робіцца вадою тлумнай,
А полымем жывым гарыць
На вуснах, на павеках і на скронях
Апёкі пакідае —
Мае непрыхаваныя пачуцці.
Даруй, што балючыя —
Пачуццё раставання снегу
Вымагае шчырасці.

* * *

Содні дзяжурства прайшлі амаль незаўважна:
У аддзяленні для хворых з парушэннем
мазгавога кровазвароту ніхто не памёр.
Кагосьці кармілі праз зонд, і сястру з гэтага ледзь не зблажыла,
Кагось ратавалі, а хтосьці ў хваравітым трызненні ляцеў да зор.

Пацыенту з чацвёртай здымалі кардыяграму,
А ў суседа ягонага бралі тым часам кроў;
Хадзячыя бегалі па «пладова-выгоднае» ў краму,
А ўвечары пад звон кілішкаў чулася: «Будзь здароў!»

Нямоглых лекавалі кропельніцамі, пігулкамі і суцяшэннем,
На што тыя злаваліся й лаяліся: «Маць тваю так!»
…Содні дзяжурства прабеглі амаль без здарэнняў,
Ну, дзякуй Богу, вось каб заўсёды так.

## Арменія

*Орущих камней государство —*
*Армения, Армения.*
В.Мандэльштам

1.
Сачыла Свабода калядныя зоры
Вачыма галодных каменных адтулін.
Нібыта цыклопы ў пярэстай прасторы
З дазволу суворага часу паснулі.

Бадзяцца па зорным чужым лабірынце
Я ў мроях сваіх нечакана паехаў
Туды, дзе мацней арыяднінай ніці
Камення спрадвечнага зычнае рэха,

Дзе вецер салоны бядзе спачувае,
Зямля пад нагамі паэта спявае:
«Каб музыка шчырага сэрца не ўмёрла,
Крычы, не шкадуючы хворае горла…»

І — крыкнуў,
Шалёная воўчая зграя
Жахлівыя іклы свае агаляе…

2.
Крышыцца грыфель, трывае папера,
Крычма крычыць у паэта душа.
Муза-пакутніца моўчкі сышла
Каб нарадзіцца ў наступную эру;
Чуеш, як гучна вібруе струна —
Гэта ад сну ачуняла яна.

3.
І зноў у срэбры год знікае,
Нібы ў трызненні прамаўляе:
«Краіна, дзе крычыць каменне —
Арменія, Арменія…»

# Сяргей Календа

## Пражскі дзённік

*Гэты тэкст прыгатаваны без заправы,*
*каб пазбавіцца алергічнай рэакцыі.*
Аўтар

Маленькі ўступны сказ:

Адносіны з Прагай склаліся досыць дзіўна і складана, кшталту кароткатэрміновага вар’яцкага кахання, якое пакінула шнар у выглядзе нарцыса, амаль пад ніжнімі рэбрамі.

1.

Дарога заставалася і застаецца сімвалам жыцця, нейкага сакральнага дзеяння, калі па ёй крочыш. Дарога, у канцы якой чакае сфінкс, і калі ты дасі адпаведныя адказы на ягоныя пытанні, і калі ты здагадаешся пра ўсе ягоныя загадкі, ён давядзе табе сэнс пройдзенага шляху. Але мая дарога яшчэ ў пачатку здрадзіла мне, ператварыўшыся ў прахалодную раку, у якой пот, сцякаючы струменямі па целе, распускаўся ў вільгаці, ператвараючыся ў $H_2O$.

Я рыба, я нават не паўчалавека, ужо не кажучы аб тым, што не пісьменнік, я — рыба, аб чым сведчыць мой марфалагічны выгляд.

Праплываючы побач з жоўтай субмарынай, адпраўленай у Прагу праз беларускія і польскія рэкі, я павольна сабе плыў, згадваючы прыемнасці самотнага існавання, разбаўленага думкамі асэнсавання сваёй новай постаці.

Дзякуй Богу, што рыбіны час ад часу могуць маўчаць і размаўляюць толькі па сваім уласным жаданні. Дзякуй Богу, рыбіны могуць не чуць, калі ім гэтага хочацца. Таму мой слых на працягу ўсяго воднага падарожжа быў прызначаны збольшага адной функцыі, унутранай — сачыць за рэхам сэрцабіцця.

Наперадзе варшаўскія воды, гарэлкавая вільгаць трымціць па-над вадою, жоўтая субмарына набірае хуткасць, у вокны выглядаюць рыбакі, рыбіна дзівіцца ім, але яна яшчэ не ведае, што рыбакі будуць паляваць на такіх, як яна.

Засынаючы на беразе чэшскай Влтавы, памятай пра абяцанне вярнуцца дамоў…

2.

Кафка знаходзіўся акурат пад старым ліхтаром на бруку. Было цёмна і цёпла, і дождж нечакана ласкава казытаў карпавыя плаўнікі, вада з кожнай хвілінай падымалася вышэй, і калі яна амаль па шыю схавала ўсе помнікі на Карлавым мосце, Кафка споўз са спіны мужчыны, які яго насіў, плюхнуўся ў ваду і разам з рыбінамі ператварыўся ў Ісусаў з папяровымі крыжамі за плячамі. Усе пакрочылі да Пражскага Града, зацятага дажджавой смугой. Пад нагамі мякка давіліся слімакі. Адвечныя градавыя лабірынты прачынялі свае ўваходы, кафкіянства вабіла туды.

Жыццё няўмольна цягнула ўгору, а потым, калі Град быў дасягнуты, наляцелі моцныя хвалі і, падхапіўшы хрыстовыя целы, панеслі вадаспадам праз пралёты лесвіцаў уніз, праз вінаграднікі, дамы шаснаццатага стагоддзя, з аблупленай тынкоўкай, наслоенай сантыметрамі адна на адну, і праз сярэднявечныя кавярні. Гэтым істотам нічога не заставалася, як, скінуўшы абліччы Ісусаў, ператварыцца зноў у рыбінаў і несціся вадаспадам да прыступак граду.

Кафка па дарозе прамовіў рыбіне:

Ведаеш, рыбіна, у гэтым горадзе з’явілася такая традыцыя, тут сорамна пісаць усялякую хуйню. Тых, хто спрабуе псаваць паперу,

начамі наведвае голем і адрывае ім рукі, і кідае іх у раку, а сам знікае ў адвечных калідорах чэшскіх будынкаў. — Кафка працаваў плаўнікамі, і ягоны карпавы рот працягваў. — так здарылася, што адзін паэт-недарэка яшчэ ў х VII стагоддзі замяніў голему паперку на металічную манету з выбітымі словамі. І цяпер кожны вечар голем здзяйсняе тое, што яму прадпісана (выбіта), і кожным вечарам у розных кутках Прагі чуюцца пакутлівыя крыкі людзей, якія згубіліся ў літарных прасторах, заблыталіся ў дзеясловах ды проста спарахнелі ўнутры, што калі нават муза будзе рэзаць вены замест іх, каб натхніць на шэдэўр, гэта ніякім чынам не адлюструецца на іх непатрэбных паперах… Бойся, рыбіна, гэтага, табе яшчэ плыць дамоў праз вільгаць слівовіцы, праз піўную раку.

Карпавая луска Кафкі бляснула пад струменем маладзіка, рыбіна ўгледзелася ў небасхіл, але нічога не ўбачыла, пачулася, як вінт жоўтай субмарыны неўзабаве праплыў недзе побач.

Намагаючыся быць больш-менш падобнай да гомасапіенса, рыбіна, апынуўшыся на беразе, пры дапамозе дажджу папаўзла ў невядомым кірунку. Вада з неба ліла без перапынкаў, нагадваючы пра парасоны, папяровыя крыжы і самаахвярнасць х рыста. Час падштурхоўваў да прыгод, вада ватаю сцялілася пад нагамі, калі б не вільгаць, можна было б пачувацца прыстойней, але на дадзены момант было толькі цьмянае адчуванне сваёй сутнасці: нешта накшталт вычварэнскай ахвяры.

Новы шлях, новы лёс, новы свет.

3.

Месца дзеяння: Olesznica.

*Wyborowa* гарэлка разлітая па стале, струменямі сцякае на падлогу, яе немагчыма спыніць, пакой напаўняецца вясёлкаваю вільгаццю, рыбнае цела ўжо ў вадзе, алкаголь праз жабры трапляе ў страўнік.

З-пад дзвярной шчыліны гарэлка прасочваецца ў калідор і па лесвіцы сцякае на першы паверх, рыбіна чакае пэўнай хвалі і,

калі дзверы ўжо не вытрымліваюць ціску, спускаецца па воднай лесвіцы ў возера на першым паверсе, дзе на рэцэпцыі сядзіць колькі рыбінаў.

Побач з рэцэпцыяй жоўтая субмарына выплёўвае ў прастору рыбакоў, якія павольна займаюць свае месцы на канапах, крэслах, зэдліках, размотваюць вуды, сеткі, донкі і па чарзе пачынаюць лавіць спачатку адзін аднаго, а потым рыбу.

Хрыстос сказаў: ідзіце за мною, і я навучу вас лавіць «чалавекаў». Але рыбакі лавілі літаратараў, падагравалася вада, будзе юшка.

Рыбіна, мінаючы пэўныя кручкі і блёсны, усё-ткі трапілася на вуду, і калі яна была падхоплена і даволі прафесійна выкінута на бераг, яна пачула:

Эх, нейкая малая рыбіна мне трапілася, да ўсяго яшчэ мо слабенькая, з яе нават немагчыма высмактаць ніякай патрэбнай і якаснай літары, не тое што сказа, пэўна, нават у яе целе замест крыві цячэ гарэлка, а гэта кепска для маёй кніжнай бессмяротнай спадчыны. Бо я ўжываю толькі празрыстае, чыстае і непаўторнае, — прамовіў рыбак і скрывіў сваю дзюбу.

Рыбіна моўчкі паглядзела на рыбака, але, ведаючы, што няма ніякага сэнсу нешта адказваць альбо спрачацца, што яе словы нічога не зменяць, моўчкі ляснула хвастом па стале, на які трапіла, і плюхнулася ў ваду.

З субмарыны выйшла піянерважатая, пільна прасачыла за падзеямі вакол, праверыла вуды, асадкі, дала паперы ды падкарміла маленькіх рыбінак, а рыбакам дазволіла зварыць з адной з іх юшку. Піянерважатая час ад часу падкормлівала ўсіх, але яе адной не хапала, каб трымаць ідэальную атмасферу ў субмарыне, таму юшка з адной рыбіны ў дзень была неблагім выйсцем, кшталту ахвяры дзеля добрай справы. Матыль скончыўся, рыбалка таксама, рыбакі пакрочылі напрасткі праз раку ў субмарыну, рыбіны павольна сачылі за іх рухамі.

Жыццё разам з водным паветрам працягвала паглынацца жабрамі…

4.

Дзе і якім чынам чалавек можа празрыста асэнсаваць самога сябе, зазірнуць у сваю існасць? Нехта падумае, што ў дадзеным выпадку найлепшае выйсце — гэта самота альбо часовае знаходжанне далёка ад дому, пажадана за мяжой. Але хутчэй за ўсё ўсе гэтыя рамантычныя выпадкі не спрацоўваюць, і сэнс нашага існавання апантана прыходзіць да нас далёка не ў самых прыстойных месцах і момантах, кшталту прыбіральняў, альбо калі мы, напрыклад, калупаемся ў пазногцях на нагах падчас прагляду порнафільма, альбо падчас таго, калі звар’яцелая і састарэлая прастытутка, адсмоктваючы, раптам пачынае ванітаваць і прабачацца, так бы мовіць, гераін хуёвы трапіўся. І ты, ледзь не плачучы, раптам разумееш, наколькі ты мізэрны вычварэнец у гэтым мізантрапічным свеце…

Сэнс, экзістэнцыя, спасціжэнне сваёй сутнасці — гэта часта падобна на мастурбацыю сваіх уласных мазгоў, але на мастурбацыю без шчаслівай кульмінацыі. На жаль, без дадзенага мастурбацыйнага рытуалу чалавеку будзе самотна на гэтай Планеце, бо ён мае быць разумным, разважлівым, нястомным у пошуку.

Нехта можа запытацца аб тым, што тыя істоты, якія не сутыкаюцца ў жыцці з падобнымі сітуацыямі, не маюць шанцаў адкрыць для сябе сэнс жыцця? Але ў дадзеным выпадку я дадам, што такія істоты ў прынцыпе бываюць трох відаў: дзеці, манашкі (пра манашак нават можна было б паспрачацца) ды псіхічна хворыя.

Людзі, якія насамрэч не сутыкаюцца па жыцці ні з якімі памежнымі сітуацыямі, заўжды маюць сваё плацэба, кшталту соскі, якую ўсё жыццё трымаюць у роце, ды свята вераюць у сапраўдную сэнсавую «амегу» жыцця, і не дай ім Божа пачаць займацца перакладамі, гісторыяй альбо літаратурай, такія людзі дзіка, нахрапам, але выдзяўбуць сваю сраную думку і выдадуць яе за апошнюю ісціну, якая можа выйсці ў адкрыты космас і даляцець да сусветнай гісторыі…

Рыбіна заўважыла, што пачала надта часта мастурбаваць свае мазгі.

5.

Бахарэвіч быў падобны да сома, але ў адрозненне ад рыбіны, быў няголены і з люлькай, разам з ім плыла ягоная сям'я. Спатканне яго з рыбінаю адбылося па дарозе ў Вімпэрк, куды таксама накіроўвалася жоўтая субмарына, што заглынула рыбакоў.

Даплыўшы скрозь пірацкую настойку да замка Вімпэрк, у якім старажытнымі часамі затрымліваліся featнымі вычварэнцамі краснапёркі Геніюшы, рыбіна спынілася перавесці дух.

Бахарэвіч-сом адзначыў, што рыбіна стала крыху падобнай да вугра, і гэта яго крыху здзівіла. Але рыбіна патлумачыла, што яшчэ не ведае дакладна, хто яна і які сэнс у яе жыцці, таму яе форма цела і душы час ад часу мяняецца. Люлька кіўнула ў знак разумення і згоды і невялікімі струменьчыкамі выпусціла мяккі тытунёвы дымок, ахутаўшы прастору чароўным пахам.

Невялікія струменьчыкі пірацкай настойкі, што крыніцамі білі ў розных месцах зямлі, раптам зліліся ў адну вялікую раку і, падхапіўшы персанажаў, вадаспадам панесліся з гор уніз, да падножжа, дзе статычнае возера ператваралася ў мора, якое патапляе наваколле. Мора прыняла рыбінаў з урачыстасцю і цеплынёю… Сом развітаўся і адплыў да сям'і, заўтра іх з рыбінай чакала новая сустрэча.

Рыбіна засталася, і плынь вынесла яе ў адкрыты акіян, дзе яна захрасла ва ўласных успамінах, якія перарываліся натужлівым галасам краснапёркі Геніюш, якая не была прызвычаенаю да такой канцэнтрацыі «Пірацкай» настойкі ў вадзе, таму хутка змоўкла і пайшла на дно — і яе дух вярнуўся ў сцены Вімпэрка.

Маленькія рыбіны не жывуць у вялікіх водах.

6.

Рыбіна ўжо звыкла да прысутнасці субмарыны, яна зразумела, што ў дадзеным выпадку гэтае суседскае існаванне ёсць сакральным сэнсам жыцця, гэта біялагічны ланцуг, у якім субмарына пажырае рыбакоў, а рыбакі рыбінаў, а рыбіны жывуць ва ўласным пошуку тых, каго магчыма паглынаць, але часцей за ўсё натыкаюцца на такіх жа, як і яны, рыбінаў і спрабуюць займацца канібалізмам, але літаратура трывае нават гэта, таму водна-літарная прастора ў сваіх закутках хавае косткі ўсіх істот, нават тых рыбакоў, што перайшлі на донкі і сеткі, іх таксама час ад часу пад'ядаюць якія рыбёхі.

Аднойчы чэрава субмарыны нарадзіла Адамовіча-ката, які, павольна выйшаўшы, трымаў у адной руцэ цвік, а ў другой — сусветны розум, які кожны мог удыхнуць праз дзірку ў бутэльцы. Поўсць Адамовіча-ката хавала ў сабе пах гэтага самага сусветнага розуму, і ягоная ўсмешка падазрона шырока расцягвалася, як у Буды, бляскам сваім палохаючы начную цемру. Кот час ад часу паляваў на розных падазроных мышанят, якія жылі ў субмарыне і спрабавалі выдаваць сябе за рыбінаў. Яшчэ кот праглынаў па рыбіне, а ягоны чырвоны бляск вачэй прадказваў будучыню.

Рыбіна Д, што плавала паблізу ад рыбіны, цягнула свае плаўнікі ўгору ды рабіла занатоўкі аб жоўтай субмарыне, бо загад піянерважатай быў такі — прасачыць падзеі калясубмарынных падарожжаў, хто каго спрабуе з'есці альбо падмануць. З цягам часу, улічваючы, што распаўсюджанай ежай рабіліся толькі рыбіны, якія нават самі сябе спрабавалі на смак, падарожжа мусіла выйсці з-пад кантролю, таму па гадзіне ў дзень уводзіўся аўтарытарны рэжым, якім запраўляла важатая, і ўсім рабілася крыху лягчэй жыць, але, канечне, не ўсім, а хутчэй большасці рыбакоў і рыбінаў.

Час быў вечаровы, рака Влтава падымалася вышэй, выходзіла са сваіх берагоў, Кафка чакаў рыбіну на адным з дахаў, але рыбіна, падкраўшыся ззаду, ператварылася ў крум-

кача і пачала дзяўбці мазгі карпа-Кафкі, але ён быў не супраць падзяліцца розумам.

На даху Бахарэвіч-сом павольна дыміў люлькай, дажджавыя кроплі з бляскам сцякалі па ягоным целе, кот, цвіком прыгваздаўшы мышанё, разважліва глядзеў у неба, зацягнутае аблокамі, наступіла ноч, прывіды Карлавага моста, трымаючы ў руках крыжы і шаблі, назіралі дзіўныя падзеі, якія адбываліся на іх вачах, колеры дамоў сцякалі струменьчыкамі ў калектар. Дамы рабіліся шэрымі… Голем, седзячы на даху старой Старанавай сінагогі, недалёка ад даху, на якім сядзелі рыбіны і кот, грыз пазногаць яшчэ цёплай адарванай рукі аднаго з чэшскіх пісьменнікаў, які жыў у Празе 6.

Да раніцы было яшчэ далёка, і паветра зацягнула смугою — сусветны розум пачаў пахнуць паленаю травою.

Бахарэвіч-сом развітаўся і па вадасцёку сплыў да сям'і.

Мухі, як заўжды, танчылі мадэрновы палёт разам з матылямі каля жоўтых ліхтароў, ноч ім не перашкаджала займацца мастацтвам.

Кот замяўкаў: «О мае featureзнакаляровыя воды ад Граду да Ростылаў, о мае воды зямныя…»

І была цемра, і мазгі Кафкі барвовым колерам свяціліся на вуснах рыбіны.

7.

Святы Віт, сумна ўтаропіўшыся ў брукаванку Карлавага моста, спрабаваў не прыкмячаць таго, што на ім адбывалася. Была раніца, жоўтая субмарына, вільнуўшы хвастом, знікла ў кірунку Прагі 8, пакінуўшы рыбіну ў адзіноце, дзень набіраў тэмп, мост запаўняўся featureзнымі целамі, якія мэтаскіравана спрабавалі знішчыць горад і не пакінуць на ім нават камянёў і падмуркаў.

Горад задыхаўся ад урбанізацыі і перанаселенасці. Восы — сімвал Прагі, высоўвалі свае джалы і ўтыркалі іх у целы вычварэнцаў і прывідаў Карлавага моста, і прыпухласці ад

джалаў рабіліся пухлінамі, а джалы — дзідамі. Але гэта нікога не стрымлівала ад руйнавання горада, не спыняла працэсу міжнацыянальнай капуляцыі, працэсу перараджэння.

Акрамя Святога Віта на мосце было яшчэ шмат розных счарнелых істот, якія на сваіх узнёслых прыступках былі сведкамі таго, як паступова гвалціўся іх горад, істоты, маючы адна адну ў розныя дзіркі, нараджалі шматнацыянальнасць, якая паступова, па каменьчыку, руйнавала горад. Восы пакутавалі, іх мёртвыя целы ўсейвалі мост, нічога не дапамагала. Семя сцякала ручаямі ў раку і змешвалася са слівовіцай. Святы Віт пакутаваў, каля яго збіраліся розныя блазны і пачыналі танчыць, каб атрымаць блаславёнае здароўе…

Усё, што належала краіне і гісторыі, адначасова ёй не належала… Кафка-карп нервова курыў у куце.

Святы Віт выцягваў сваю каменна-чорную манументальную постаць да неба, і, быццам расліна, прарастаў каранямі з брукаванкі, якая падсілкоўвалася семенем.

Расійскія вычварэнцы ваявалі на кірмашы, чорныя афрыканцы гандлявалі наркотыкамі, в’етнамцы распрадавалі культурную спадчыну ў выглядзе пошлых магніцікаў…

Бахарэвіч кажа, што вельмі любіць гэты горад, але ён надта пералюднены, рыбіна пагаджаецца з ім. Кафка кажа, што гэты горад навявае на яго смутак і дэпрэсію, але раней такога не было, раней ён вельмі добра адчуваў пульсацыю думкі.

Ад раніцы да вечара ідзе працэс адваёўвання тэрыторыі, ідзе працэс вычварэнізацыі, капуляцыі, блядскасці, фатаграфавання адных і тых жа месцаў… чэшскі народ невядома дзе жыве, але не ў Празе.

У Влтаву ўпадаюць тры ракі: ромавая, піўная і слівовая, рыбіна баіцца патануць, сом-Бахарэвіч дадае мужнасці, так проста рыбіна не патоне, хутчэй з яе зварыць суп які рыбак з субмарыны. Рыбіна абірае ромавую раку, каб даплыць да сусветнага Глобуса.

Святы Віт з кожным днём робіцца ўсё вышэйшы і вышэйшы, ягоныя карані ўжо спусціліся ў раку, прывіды і вычварэнцы не даюць яму спыняцца ў росце.

8.

Бар, у якім льецца віно, разбаўленае мінералкай. Порнапісьменніца кажа:

уздоўж беларускіх дарог і рэк пустэчы, няма ні людзей, ні дамоў…

Яна не разумее, што рэклама і гіпермаркеты, крамы і дамы ўздоўж дарог, як, напрыклад, у Польшчы, горшыя за палі і лясы ў Беларусі. У беларусаў няма традыцыі брудзіць дарогі, яны жывуць далей ад іх.

Рыбіна глядзіць на пісьменніцу праз мінералкавае віно і спрабуе забіць зрокам. Літаратурная зорка Чэхіі раптам знікае з небасхілу бара і рыбінай свядомасці і знічкаю трапляе ў кілішак слівовіцы, і толькі струменьчык дыму нагадвае пра яе былое існаванне.

Бахарэвіч выпівае слівовіцу…

9.

Прага — горад будынкаў і татальнасьці архітэктуры, горад самоты, якая хаваецца ў кутах, самоты, якая здзекліва паказвае на цябе пальцам і смяецца, смяецца, смяецца. І асабліва самотнасць адчуваецца, калі ты выяўляеш сябе рыбінаю сярод рыбакоў…

Сярод усяго гэтага архітэктурнага і гістарычнага багацця рыбіна губляецца. Яна ад гэтай разгубленасці пачувае сябе нікому не патрэбнаю, і ў дадзеным выпадку, калі яна не трымаецца асяроддзя, калі яна не далучаецца да грамадскасці альбо да суполак рыбакоў ці рыбінаў, альбо да суполак вычварэнцаў, да суполак помнікаў і прывідаў, яна механічна, непрыкметна ад усіх, накіроўваецца да моста самагубцаў, папулярнага месца — чарговай гістарычнай каштоўнасці, але якой (!) самагубскай.

«З усяго на свеце магчыма рабіць каштоўнасці», — разважала рыбіна, адчай варушыўся недзе пад ніжнімі рэбрамі, вымалёўваючы на скуры абрыс нарцыса.

10.

Рыбіна сплыла, вярнулася туды, адкуль пачынала падарожжа, і недзе ў рацэ Свіслач бляскам лускі нагадала аб сваім існаванні. Вяртанне было балючым і самотным, з пэўным пачуццём свайго лёсу, з пэўным адчуваннем сталасці, з пэўным асэнсаваннем жыцця.

Рыбіну сустрэла цішыня.

*08.08. — 15.08.20010*
*Прага — Мінск*

# Павел Капанскі

## Жыццё з вялікай літары Ж

Я вяртаўся па алкараёне дадому з баскетбольнай пляцоўкі. Алка? Я сказаў алка? Не, канечне, не, па спальным раёне. Гэта быў летні вечар, было вельмі цёпла. Я ўжо думаў, як бы гэта прыняць душ, паглядзець якога-небудзь серыяла і заснуць, каб такім чынам лагічна завяршыць яшчэ адзін дзень свайго бязглуздага жыцця. Але на падыходзе да свайго двара я ўбачыў мужчыну, які ляжаў на зямлі. Падышоўшы бліжэй, я адзначыў яго прыспушчаныя штаны і жудасны пах спаражненняў. Не, думаю, трэ ісці дамоў. Абысці бокам гэтага алкаша і валіць адсюль. Зрабіў некалькі крокаў. Спыніўся. Са мной пачало гаварыць сумленне. Па ціпу, што ты гэта робіш, гаўнюк гэткі. Ідзі і дапамажы чалавеку. А калі б ты таксама так ляжаў… Ээ, стаяць. Вось тут, калі ласка, без усялякіх… Што за, маць тваю, шантаж? Па-першае, я не збіраюся так бухаць. Ну, да такой ступені. Па-другое, на вуліцы лета, цёпла, што з ім можа здарыцца? Праспіцца, прачнецца, пойдзе да жонкі, ну дасць яна яму патэльняй па пыску некалькі разоў, можа, чаго і зразумее. Ты свіння, кажа сумленне. А ты — дура, адказваю, а сам чую сіплы голас за спінаю.

— Хлопец… Хлопец…

Павяртаюся да яго. У галаве толькі адна думка: «Валіць». Мужык спрабуе падняцца, але яго нібы магнітам цягне да зямлі. Стаў на адзін локаць, падняў палову цела. Пакуль падымаў другую палову, першая зноў апынулася на зямлі.

— Дай… руку мне.

Так ці інакш збіраўся ў душ, так што адзін хер. На. Маеш. Дапамог яму сесці. Аказалася, ляжаў ён на самым краі адчыненага люка. Грудзямі на доты ці што?

— Мне нельга дадому…

Канечне, толькі ў каталажку. Ёпцель, а ты думаў, так набраўшыся, цябе прымуць дома з распасцертымі? Яму трэба дапамагчы дамоў дабрацца, кажа сумленне. Ідзі да дупы, кажу. Заткніся. Ты ўжо сваю чорную справу зрабіла. Замест таго каб чысценькі і шчаслівенькі ляжаць у ложку, стаю тут каля алкаша, ад якога нясе за кіламетр і каб жа толькі гарэлкай…

— Мне нельга дадому… Дома ж…

— Жонка і дзеці, разумею, — такім тонам, нібы я яго сапраўды разумею.

— Не, не… там Жопа.

Пасміхаюся. Гляджу на сотавым баланс. Мінус трынаццаць рублёў. Ну халера, адкуль яны бяруць гэтыя лічбы? Такім чынам, і міліцыю па ім не выклікаць. Але ж і не на гарбе яго несці дахаты ці куды там… На гарбе. На гарбе нясі! Бляха, калі б ты ўвасобілася, няхай сабе нават у дзяўчо, я б усё роўна табе такіх навешаў. Сумленне сціхла.

— Там поўная Жопа. Мне трэба падняцца.

Мужык уздымаецца пераможна над зямлёй. Штаны з яго спадаюць. Ён спрабуе іх нацягнуь і тут шчасліва апынаецца зноўку на зямлі. Не, думаю, больш я табе дапамагаць не буду. Падымешся — дык падымешся. А не — дык не. Мне што з таго. Ах ты, гаўнюк, цябе хто выхоўваў, езуіты? Дзед Мароз. Задрала гэтае сумленне. Вось заўсёды так, толькі нешта разумнае ў галаву прыходзіць, дык не, трэба ўсё спаскудзіць. Але ўсё роўна стаю побач. Мне проста ўжо цікава, што ён скажа далей.

Ён раскінуўся зорачкай на зямлі. Без штаноў. У лужыне. Затое сваёй лужыне. Падалося, што ён забыўся на мяне. З кім ён гаварыў? З небам? З Богам? Са сваім сумленнем? Не суць… Ён нібы нават працверазеў на гэты адзіны момант, каб потым зноў адысці ў царства зялёнага змія, што пануе і цяпер у шматлікіх алка… прабачце, спальных раёнах.

— Я не прыношу зарплату ўжо трэці месяц запар, бо прапіваю, як толькі яе атрымліваю, запіваю на некалькі дзён з беспрацоўным суседам. За святло і ваду няма грошай заплаціць. Жонка раве, што я ёлупень і сам сябе загнаў у такую жопу. Я ёй за гэта разок кулаком трэснуў. Каб ведала, хто ў доме хазяін. Я

грошы зарабляю, я іх і прапіваю. Чаго, на халеру, прычапілася? Яна ж ціхонечка так захныкала, а сама, курва, мянтоў на мяне выклікала. Маўляў, я яе б'ю. А дзе ж я б'ю, калі я выхоўваю? Мянты тут паўсюль рыскалі, а я схаваўся ў кустах, перачакаў. Толькі потым выпаўз, думаў пайсці дахаты, каб дабіць гэтую курву неразумную. Але не дайшоў. Вось. А праз некалькі дзён нас выселяць з кватэры. А мне да жопы. Буду ў суседа жыць. Будзем квасіць з ім, мляць… пакуль не здохнем… о, пайду да яго… толькі як гэта… ыыы…

І пачаў равець, нібы мядзведзь у надзвычайных патугах. Яго не ратаваць трэба, яго забіць мала. Вазьмі палку і вальні разок яму ў башку. Сумленне, гэта ты? Бяры палку! — крычыць. Дай яму так, каб чэрап пераламіць, ну чаго стаіш?! Слінцяй… Я не магу… За што? Бо ён, бо такія, як ён… І што, трэба дапамагаць людзям, не акунаючыся ў іх праблемы? Чым ён быў лепшы, пакуль я яго не паслухаў? Як гэта здзейсніць? А цяпер і сапраўды такое жаданне…

…Цела плюхнулася, як мяшок з гаўном. Закрыў люк. Трэба было адразу ісці сабе дадому. А не выслухваць спачатку дзеўбанутае на ўсю маю башку сумленне, а потым алкаша гэтага.

— Пецця! Пецця, дзе ты! Пецця, я ўсё прашчу!

І што цяпер? Ну і куды ты падзелася, сумленне, тваю маць? Ага, маўчыш. Канечне. Злучыць каханкаў у адным месцы? За што яе? За тое, што гатовая ўсё дараваць.

— Тут ён! — крычу.

А сам думаю, ну, здалося мне гэтае правасуддзе. Вось сапраўды, усё пачынаецца з сумлення…

# Лёры

*Амад 0.1.*

Пайду — і ўсё раскажу. Пераступлю праз парог, а там лампадкі, абразы, рызы, бабкі на каленях. Праз натоўп вернікаў спыню Хамана, каб яму ўсё расказаць. Хаман вельмі добра ўмее слухаць, гэта ў яго яшчэ з дзяцінства. Ён можа нават нічога не раіць. Так было і раней: я што-небудзь натварыў і бег да яго. І калі ён маўчаў у адказ, выхад з цяжкай сітуацыі знаходзіўся сам сабой. Чаму так было, я не ведаю, але толькі Хаман можа мне зараз дапамагчы.

Я выходжу з дому, і вецер б’е снегам мне ў твар. Абкруціўшы шалік вакол шыі, ушчыльніўшыся ў куртцы, пакрочыў наперад.

На пэўны час я забыў пра тое, што ў чалавека ёсць патрэба ў паразуменні. Трэба заўсёды мець чалавека, якому можна ўсё расказаць, да апошняга граху. Тут справа даверу. А калі такога чалавека няма, што тады? Як, напрыклад, трымаецца Хаман? Няўжо гэтыя абразы, выявы святых, гэтыя вітражы, яны дапамагаюць ачышчэнню? Колькі людзей ён выслухоўвае з іх праблемамі, з іх нервамі і дэманамі, а сам не можа больш нікому гэта перадаць. Ён — апошняя інстанцыя. Але гэты феномен такой сабе ўніверсальнай «губкі» — не самае незразумелае. Самае незразумелае тое, што чалавек хутчэй пакаецца незнаёмаму, чым блізкаму. Чаму? Раней я думаў, што такім чынам мы аберагаем нашых блізкіх. Мы ведаем, як шмат у іх праблем, і не хочам памнажаць іхнія турботы. Але тут іншыя, эгаістычныя прычыны. Такім чынам мы ўнікаем пакарання, бо незнаёмы чалавек не мае права нас абвінаваціць. Няхай нас ніколі не зразумеюць, але і не пакараюць.

Я іду па тратуары. У маім горадзе зіма ніколі не скончыцца. Але гэта не толькі з прычыны клімату, але і звязана са светаўспрыманнем. Тут усё шэрае: дамы, неба, дрэвы, птушкі, машыны, нават людзі. А сонца, калі і выходзіць, дык толькі на

некалькі хвілін, нібы дражніцца. І так цяжка дасягнуць святла, калі навокал усё шэрае.

Мяце снег. І раптам я спыніўся, гледзячы на вітрыну нейкай крамы. А што гэта зменіць? Што змяняла раней? Я ж сам да ўсяго даходзіў. Па сутнасці, тое, што мы каемся ў грахах, — гэта звычайны самааналіз. Нам патрэбна на нечым засяродзіцца, лагічна выбудаваць ланцужок падзей і агучыць свае думкі. Пасля гэтага прасцей адказаць на ўсе свае пытанні. Вось яна, функцыя Хамана: ён дазваляе нам самім разабрацца са сваімі праблемамі. Такая самая функцыя ў абразоў, у фотаздымкаў, у памятак. Дык навошта я туды іду, калі магу ўсё сам вырашыць?

*Ева L' 0.1.*

Чаму так увесь час здараецца? Мы кожны дзень кажам сабе, што з намі гэтага не адбудзецца, што мы іншыя, і таму ў нас будзе ўсё па-іншаму. А калі падходзіць наша чарга, мы робім тое ж самае, што і мільёны людзей да нас. Часта мы чамусьці ігнаруем усе знаёмыя сімптомы і толькі пасля таго, як усё ўжо адбылося, аналізуем і пачынаем разумець, б'ючы сябе па ілбе: «Як жа я магла гэтага не прадбачыць?!»

У мяне няма сумневаў наконт таго, што Амад здрадзіў мне. З кім і калі — няважна. Важна — чаму і што рабіць далей. Я бачу, як ён пакутуе і не знаходзіць сабе месца. Ён перастаў глядзець мне ў вочы. Нешта ў ім памерла.

Я сяджу на лаўцы побач з домам маёй старэйшай сястры. Я ніколі не звярталася да яе па парады. Вось і ў гэты момант я думаю, ці павінна я ісці да яе. Чаму я проста не паразмаўляю з Амадам? Не магу. Нешта мяне стрымлівае, нейкі незразумелы жах. Калі я толькі ўяўляю магчымасць такой размовы, у мяне адразу пачынае часціць пульс і да галавы прылівае кроў. Гэта немагчыма.

Мне холадна. Падае снег. Ён не халодны. І няма ветру. Бо самае цяжкае не надвор'е, не тое, што вакол нас. Самае цяжкае — гэта тое паветра, якое ўнутры нас. Паветра пранікае

ў лёгкія і, як атрута, пачынае забіваць. Але калі адсутнасць атруты не забівае, то адсутнасць паветра — так. Менавіта так я сябе і адчуваю: мяне нібы закрылі ў пакоі, і паветра ў ім усё менш і менш.

Ці я што-небудзь не так рабіла? Ці я не кахала? Ці кахала не так? А як трэба кахаць і што рабіць, каб падтрымліваць каханне? На гэтую тэму зашмат кніжак напісана, зашмат слоў сказана і пераказана. Я ненавіджу кніжкі. Лёгка пісаць, а цяжка жыць. Лёгка глядзець і рабіць парады, цяжэй жа за ўсё самому перажываць, нешта адчуваць, але нічога, нічога не бачыць! Здаецца, так проста… Немагчыма нічога прадугледзець. Ці ж я не бачыла, што ён пачаў прападаць, нібы з сябрамі? Чаму я верыла яму? Як дрэнна нічога не бачыць або бачыць і не разумець. Колькі ж разоў так ужо было, а колькі яшчэ будзе!

Кажуць, мужчына — палігамнае стварэнне. Заваёўнік, яму мала адной жанчыны. Мужчына хоча выдаць сваю слабасць за сваю сілу, і чаму мы даем яму на гэта дазвол? Ён знайшоў нейкае адно разуменне кахання, на жаль, далей за фізіялогію яно не пайшло, і карыстаецца гэтым. Карыстаецца як спажывец, як гандляр. Глядзіце ўсе — я валадар кахання! Якое глупства…

А мы ў яго верым. Верым, што ён мужны, што ён адзіны і не можа быць на яго месцы нікога іншага. Мы верым, і ў некаторых выпадках нам нават не патрэбныя доказы. Мы мацнейшыя за іх. Мы не імкнемся разумець сутнасць з'яваў. Мы такія, якія ёсць. Мы проста верым, і як дрэнна на душы, калі твая вера цябе падманвае.

А што далей? Скандал, развод? Я сама з гэтым не спраўлюся. Трэба звярнуцца да Нікі. Мы з ёй даўно не бачыліся, але я маю надзею, што яна мне дапаможа.

Я падыходжу да дамафона і званю ў кватэру. Праз хвіліну пачуўся яе голас.

— Хто там?

— Ніка, гэта Ева.

Дзверы адчыніліся.

*Амад 0.2.*

Некалькі прыпынкаў на трамваі. Транспарт, калі не вельмі цесна, — гэта мой час на роздумы. Інтэнсіўнасць шуму дасягае той кропкі, калі лёгка ад яго абстрагавацца і падумаць над сваімі праблемамі. І мая праблема ў тым, што я баюся. Баюся, што нешта раскрыецца, добрае гэта нешта ці дрэннае. Баюся браць нахрапам і рабіць імпульсіўныя ўчынкі. Некаторыя комплексы з цягам часу прайшлі, некаторыя сталі яшчэ больш відавочнымі. Вось і цяпер я ўнікаю шчырай размовы з Евай. Яна зразумее… толькі я не змагу з гэтым жыць. Нават калі яна прабачыць мне, я ўсё роўна застануся са сваім грахом, і рана ці позна ён праточыць сваю дзірку ў маім жыцці зноў. Гэты працэс нельга затрымаць. І ці зможа Хаман ачысціць мяне, адпусціць маю здраду, тым болей што я сам слаба ў гэта веру?

***

Яна дакранулася да майго калена і паглядзела мне ў вочы. Я ўбачыў жывёльную прагнасць. Першабытнай, магічнай, невытлумачальнай сілай поўніліся яе зялёныя вочы. Яна аблізала губы, пасля чаго я ператварыўся ў відэакамеру, якая штохвіліны закрывала аб’ектыў.

Яна знізу… Яна зверху… Яна ўпіваецца пазногцямі мне ў спіну… Яна кусае мяне за плячо… Яна хутка прыцішана ўздыхае… Яна крычыць… Яе вогненна-рыжыя валасы дакранаюцца да майго твару… Мы мокрыя. Мы не спыняемся…

***

— Ваш квіток, — у трамвай зайшлі кантралёры.

Выйшаў каля царквы. Вялікая брама, маленькая брама. Калі б можна было не вяртацца, тады лепей зайсці ў святое месца праз вялікую браму. Але вяртанне — гэта нязменны закон прыроды, таму я ўваходжу праз маленькую і выходжу праз вялікую. На святым месцы мы ніхто, а тут, на зямлі, лепей быць значным чалавекам, інакш — навошта мы жывем? Мала працягнуць род, мала быць добрым чалавекам, трэба яшчэ зрабіць што-небудзь значнае для сваёй краіны, свайго народа…

— Падайце, калі ласка, на ежу…

Інстынктыўна здаровы цураецца хворага, багаты — беднага. Таму, хто перасіліць гэтыя інстынкты, лягчэй жыць. Ёсць такія людзі, а ёсць іншыя, гэта заканамернасць, якой не пазбегнеш. Увесь свет не апранеш у аднолькавую адзежу. Паклаў некалькі купюр у працягнутую далонь і прайшоў праз маленькую браму ў дворык царквы. Хаман чакаў мяне на лаўцы пад дрэвам. Мяне?

— Прывітанне, Амад. Я чакаю цябе тут з самай раніцы.

— Чаму менавіта мяне?

— Сядай. Я адчуваю, што ты прыйшоў з нечым вельмі важным.

Я сеў на лаўку. Канечне, я ўжо сустракаўся з такімі супадзеннямі. Але чаму цяпер? Незразумела. Можа, прамаўчаць, сказаць, што прыйшоў проста так, праведаць, даўно не бачыліся… Не. Я ж прыходжу толькі з праблемамі. Яшчэ ані разу не завітаў да яго, калі мне было добра.

— Калі цябе штосьці стрымлівае, можаш мне не расказваць. Толькі калі ты ўжо тут, то навошта марнаваць час? Я гатовы цябе выслухаць і я ўпэўнены, што мы знойдзем адказ на тваё пытанне.

А якое маё пытанне? Усю дарогу я думаў пра што заўгодна, толькі не пра тое, пра што патрэбна было думаць. Чаму так усё здарылася? Што рабіць далей? Я гляджу на Хамана. Мы сядзім на лаўцы. Думкі мае блытаюцца.

***

Яна цягне мяне на ложак і пачынае палка цалаваць. Я зрываю з яе кофтачку і лапаю (менавіта «лапаю») рукамі яе грудзі. Яе залацістая скура іскрыцца. Яе гнуткае цела, стрункое, гарачае, запальвае мяне. Мяккія губы цалуюць мяне ў шыю…

***

— Амад?

*Ева L’ 0.2.*

Пасля смерці маці Ніка пачала мяне недалюбліваць. Яна як старэйшая сястра павінна была знайсці сабе прытулак, таму што наша сямейная кватэра дасталася нам з Амадам.

Спачатку яна трымалася, але нешта цёмнае падточвала яе знутры. Было вельмі цяжка змірыцца з тым, што твая родная сястра робіцца маргіналам. Яна выйшла замуж за алкаголіка і сама пачала співацца. Мы з Амадам намагаліся дапамагчы: давалі ёй грошы, плацілі за лекі, але гісторыя з п’янымі бойкамі і сардэчнымі прыступамі працягвалася. Ніка не магла супакоіцца, а я адчувала, што мы робім ёй толькі горш. Чаму ёй так не пашчасціла ў жыцці? Хто ў гэтым вінаваты? Вінаватай заўсёды выходзіла я, і калі б мяне не было, то ўсё склалася б добра.

Я сядзела за сталом насупраць яе. І з гэтым чалавекам я хацела паразмаўляць?! Ніка сядзела ў халаце, і па яе амаль што сінім твары было відаць, што яна п’е гарэлку некалькі дзён запар. Са спальні даносіўся храп мужа. Відаць, мы так даўно не бачыліся, што я проста не магла сабе ўявіць, якой яна стала. Брыдкай. Страшнай. Разам з тым, я ўбачыла, што мае праблемы ў параўнанні з праблемамі сястры — нішто. Так, мы заблыталіся на гэтым этапе жыцця, але мы абавязкова так ці інакш знойдзем выйсце. У нас з Амадам няма фаталізму, жыццё не заканчваецца. А Ніка сама сябе забівае. Яна не хоча жыць далей і не бачыць іншай дарогі. І я не магу ёй дапамагчы…

— Чаго хацела? — жудасны голас, пракураны, сіплы.

І што мне зараз гаварыць? Думкі толькі аб тым, каб не справакаваць агрэсію. Але што рабіць? Няўжо так памутнела ў маёй галаве, што я прыйшла сюды?! Можа, даць ёй грошай, паспрабаваць памірыцца…

— Як справы?

— А ты, *, не бачыш?

— Я… проста…

— Таракана бачыш? Вось там, пад халадзільнікам. Вось ён — «проста», а ты чаго прыйшла? Хочаш паглядзець, як я жыву? Глядзі!

Ніка прыўзнялася на стуле і нахілілася да мяне. Ад яе несла спіртам.

— Што, кінулі мяне… кінулі… Можа, ты мне грошы прынесла? Дык засунь іх сабе ў задніцу, мая Беласнежка!

«Беласнежка» — так называла мяне маці. Даўно.

— Мяне ўчора звольнілі з працы, толькі я не здохну. Чуеш? Я пераражыву цябе абавязкова, — сястра перайшла на шэпт. — Табе проста пашанцавала. А я вось гляджу ў твае дурныя вочы, Беласнежка, і бачу, што і ў цябе нешта здарылася, так?

Я ківаю. Праўда.

— А ты думала, што ўвесь час будзе добра? Так не бывае, мілачка. Шчасце — гэта імгненне. Маленечкае такое, і самае салодкае ад яго — гэта ўспамін. Ты памятаеш, як мы жылі разам, як былі малымі дзецьмі? Як нам было добра разам? Ты нічога не памятаеш, бо табе ўвесь час шчасціла, а мне наадварот. І я ненавіджу цябе за гэта. Не-на-ві-джу… — праскрыгатала яна зубамі і заплакала, закрыўшы рукамі твар.

Раптам я адчула жах. Дрыжыкі прабеглі па целе. Нечага не хапала. Нейкага гуку. Дарэмна я зайшла сюды. Трэба як мага хутчэй ісці адсюль, на свежае паветра. Ніка ніколі не зразумее, што гэта ўсё не мая віна. Так склалася. Проста склалася!

Ніка плакала. Яе худое цела трэслася пад халатам. І тут я адчула, што за маёй спінай нехта стаіць.

— Ты што маю жонку да слёз даводзіш, ***!

Гэта быў яе муж. Таксама п'яны. Я закрылася рукой, але няўдала. Апошняе, што ўбачыла

*Амад 0.3.*

Мы прайшлі ў царкву, каб не змерзнуць. Селі насупраць абраза з вярхоўнымі апосталамі Пятром і Паўлам. Я не ведаў, з чаго пачаць. Зразумела: тое, што адбылося ў бары, — вынік, а не прычына. Але і прычына для далейшага. Першапачатковая ж прычына схаваная недзе ўва мне. Я вырашыў пачаць з фактаў недвухзначных.

— Я здрадзіў жонцы.

Хаман прыняў навіну спакойна. Напэўна ж, ён не першы раз сустракаецца з такім выпадкам, чаму тут дзівіцца? Няма чаму. Я пачаў расказваць.

— Я не магу зразумець, чаму так здарылася. Немажліва спісваць такі ўчынак толькі на інстынктыўны, жывёльны характар чалавека. Ёсць нешта надістотнае, ментальнае.

— Як ты думаеш, што гэта?

— Не ведаю. Няма ідэальнага слова, каб апісаць гэта. Насычанасць?.. Хутчэй за ўсё. Усё адбываецца прыкладна так: мы сустракаем чалавека, які нам вельмі падабаецца. І мы пачынаем яго пазнаваць, з прагнасцю ўпіваючы факты — яго біяграфію, яго жыццёвыя прынцыпы і звычкі. Мы як бы паглынаем яго цалкам. Да самага канца, канечне, пазнаць і зразумець чалавека немагчыма, затое той, хто пазнае, можа вельмі хутка насыціцца. Так адбылося і са мной. Мне абрыдла маё жыццё. І вось я трапіў у бар, каб выпіць трохі піва і зняць напружанне працоўнага дня. Насамрэч я не думаў у той момант, што нешта ў маім жыцці дрэнна. Проста было абыякава. Я замовіў яшчэ бутэльку Fostersa. Час цягнуўся марудна, і гэта было добра. Бо ўвогуле добра, калі на працы час бяжыць, а як адпачываеш, дык ён цягнецца. І тут да мяне падсела дзяўчына. Я акінуў яе позіркам і падумаў, што было б добра заняцца з ёй каханнем. Я не памятаю, каб мы ўвогуле размаўлялі, але імя яе я вельмі добра запомніў. Кнэйс. Яна дакранулася да майго калена і паглядзела мне ў вочы. Жывёльнай прагнасцю, першабытнай, магічнай сілай поўніліся яе зялёныя бліскучыя вочы. Яна аблізала губы, адчула, што я не супраць, і, узяўшы мяне за руку, вывела з бара і прывяла ў сваю кватэру. Хаман, я хацеў толькі надаць колераў свайму жыццю, разумееш? А выйшла так, што здрадзіў чалавеку, здрадзіў свайму каханню. І мяне цяпер гняце сумленне. Я перастаў спакойна спаць і не ведаю, што рабіць далей. Дапамажы мне, Хаман.

Некаторы час ён маўчаў. Немагчыма было зразумець, думае ён над маёй сітуацыяй ці проста слухае царкоўную цішу, якая так добра ачышчае галаву.

— Яна ўжо ведае?

— Ева? Здагадваецца.

— Табе трэба з ёй абавязкова пагаварыць. Гэта нялёгка, але без гэтага далей нічога добрага не выйдзе. Немагчыма будаваць адносіны на хлусні.

Я ківаю. Праўда.

— Але чаму так здарылася, Хаман? Я ж не хацеў здрадзіць. Няўжо сумеснае жыццё з цягам часу абавязкова робіцца шэрасцю і абыякавасцю? І чаму мяне нішто не стрымлівала, калі я кахаўся з Кнэйс? Чаму мне не было дрэнна тады і так дрэнна цяпер?

— У адным ты маеш рацыю, Амад. Жыццё павінна абнаўляцца. Новымі знаёмымі, дзецьмі ў сям'і, павышэннем на працы. Звычайны чалавек цяжка пераносіць застой. Гэта дрэнна адбіваецца на псіхіцы. Праблема ў тым, што чалавек выбірае з ўсёй разнаітасці жыцця не тое, што трэба, бо проста не бачыць іншых варыянтаў. У тваім выпадку, Амад, ты не шукаў абнаўлення, ты змірыўся са сваім становішчам. Усё падвярнулася само, лёгка, без праблем, без нейкіх абавязкаў. Я сам не ведаю чалавека, які б мог супрацьстаяць такім спрыяльным акалічнасцям. А тое, што павінна было стрымліваць цябе, яно ніколі не знікае. Проста ты забыўся пра ўсё, а цяпер расплачваешся. І ў мяне прадчуванне, што найгоршае яшчэ наперадзе, Амад. Сцеражыся.

Я выйшаў праз маленькую браму. Вялікая — не для мяне.

*Хаман*.

З самай раніцы нейкі цяжар лёг мне на душу. Прадчуванне нядобрага атрутнай змяёй абвілося вакол сэрца. Я не мог зразумець, чаму так. Можа, таму, што зіма зацягнулася, а хочацца сонца? Амаль кожную гадзіну я выходзіў з царквы на двор і садзіўся на лаўцы пад дрэвам, каб пазбавіцца гэтага пачуцця. Яно не праходзіла, і розныя згубныя думкі пачалі лезці мне ў галаву. Я зноў сумняваўся. Сумненне — галоўны вораг веры. Ці

маю я права браць на сябе грахі іншых? Чым я лепшы ад іншых, што мая малітва даходзіць нібыта да Бога, а іх — не? Нічым не лепшы. Мажа, нават горшы. Кожны можа прамаўляць да Бога і кожны будзе пачуты. У чым тады мая функцыя? Я тут не для іншых, а для сябе. У першую чаргу каб расплаціцца за свае грахі, дапамагаючы іншым. Няма чалавека без граху. Але калі кожны можа сам-насам маліцца, то і мне ніколі не даруюць. Я ўвесь час думаю аб іншых, а сам трымаю ў сваім сэрцы куфар Пандоры. І здаецца мне, ён вельмі хутка адчыніцца. Ці вытрымаю я гэта?

І прыйшоў Амад, мой сябра з дзяцінства. Даўно ён не прыходзіў да мяне. І расказаў Амад, што здрадзіў жонцы сваёй Еве, і сваёй гісторыяй павярнуў ключ у куфры. Ён задаў тыя пытанні, адказы на якія гнятуць цяпер маю душу. Пераступіўшы аднойчы праз мяжу, назад вярнуцца вельмі цяжка. І мне стала страшна за Амада, бо ўбачыў я, што чакае яго наперадзе. Але затрымаць гэта было ўжо немагчыма. Немагчыма ўтрымаць працэс справядлівага пакарання, і самае жудаснае ў гэтым, што караюцца не толькі вінаватыя, але бязвінныя. Гэта ланцуговая рэакцыя.

Амад пайшоў. Я ж пачаў маліць за яго душу і за сваю. Калі даруюць аднаму, даруюць і другому. Толькі не меў я надзеі на вызваленне. Я трымаў малітоўнік каля грудзей, мне бачыўся Усявышні суд, фаталізм ахапіў маю істоту. Я ўпадаў у ліхаманку. Куфар Пандоры пачаў выпускаць сваіх фурый. Узяўшы дзве бутэлькі манастырскага віна, я замкнуўся ў сваёй келлі і пачаў піць, каб заглушыць боль. Дапамагала слаба. Яшчэ некаторы час мяне трэсла. Напіўшыся, я супакоіўся і ад слабасці заснуў, сціснуўшы ў кулаку нацельны крыж, які падарыла мне маці.

*Ніка*.

Беласнежка знепрытомнела.

— Ты што зрабіў, скаціна?

— Я падумаў, што яна табе зрабіла нешта дрэннае. Ты ж плакала…

Ева з’ехала на падлогу, з галавы цякла густая барвовая кроў і расплывалася па лінолеуме. Некалькі імгненняў назад я была п’яная, а цяпер вельмі хутка апрытомнела. Ён, мой муж, забіў маю сястру. Так, я яе ненавідзела з дзяцінства. Так, я хацела ёй адпомсціць. Так, я хацела, каб ёй было горш, чым мне. Але ж я не хацела, каб гэта адбылося менавіта так. Я ніколі нават і не думала пра забойства.

— І што цяпер рабіць? — прахрыпеў працверазелы муж, трымаючы ў руцэ ружачку ад бутэлькі.

— Сядаць у турму, — я запаліла цыгарэту і стала каля акна.

Халоднае паветра ўрывалася праз адчыненую фортку. Я зноў паглядзела на Беласнежку. Я так і не зразумела, навошта яна прыйшла, але атрымала яна яўна не тое, што хацела. Яе цела нязграбна ляжала на падлозе ў вялікай лужыне крыві. Рукі і ногі яе яшчэ ледзь бачна трымцелі. Я глядзела, але ніякай агіды не адчувала. Вось ён, забіты чалавек. Факт. І яшчэ факт у тым, што забілі Беласнежку мы з мужам. Але чаму я нічога не адчуваю? Жаль, жах, боль — нічога гэтага няма. Такая бясконцая абыякавасць. Пляваць на ўсё. Нават рукі мае перасталі дрыжаць.

Паглядзела на мужа. Ён ахапіў рукамі галаву і глядзеў здзічэлымі вачыма ў стол. Хацеў нібы дапамагчы мне, а забіў чалавека. Разам з тым загубіў сваё жыццё. Сваё, маё і гэтага, як яго, Амада. Бляха, яшчэ ён… Трэба ж будзе і яму сказаць. А як? Ён жа ўвесь час мяне недалюбліваў, як і я яго. Чаму? Нешта на жывёльным узроўні. Узроўні пахаў і інстынктаў. А чаму я павінна яму казаць? Міліцыянеры яму абавязкова паведамяць.

— У нас ёсць гарэлка? — трэба напіцца, каб не думаць пра гэтую выпадковасць.

Беласнежка атрымала сваё. Рана ці позна гэта здарылася б.

Мы пакінулі яе ляжаць на кухні. Напіліся зноў, заснулі. І я дужа хацела не прачнуцца зранку.

*Кнэйс*.

Немажліва. Цяжка жыць, калі ты не такі, як усе. Цяжка жадаць і не мець на гэта права, увесь час стрымліваючы сябе. Трываць цяжка. Цяжка не злавацца, калі нехта пра тваю праблему даведаўся і так на цябе глядзіць, нібы разумее. Ніколі, чуеце, ніколі гэтага не зразумець таму, хто не зведаў. І спачуваць тут не трэба. Чуеце?

Я доўга трымалася. З таго дня, як дазналася, мне давялося многа з чым разлічыцца. Ад мяне адвярнулася сям'я і мой хлопец. Мяне звольнілі з працы. Мне давялося падпісаць дакумент, у якім гаварылася пра тое, што я магу рабіць і чаго не, каб нармальна функцыянаваць у грамадстве. Функцыянаваць — не жыць. Напаўчалавек. Напаўжанчына. Адны паставіліся да мяне са спачуваннем, ад чаго было яшчэ горш. Іншыя выдалілі мой тэлефонны нумар, нібы я памерла. І як жыць у свеце, дзе на цябе глядзяць як на хваробу? Як сябе паводзіць?

Я хадзіла некаторы час на сходы хворых — такіх самых, як я. Мы павінны былі расказваць свае гісторыі, дзяліцца досведам. Ад гэтага было млосна. Я не хачу пра гэта гаварыць і нават згадваць! Мне хопіць адказу на галоўнае пытанне. Так, я такая. Усё, хопіць, спыніцеся на гэтым. Так. Мне засталося нядоўга. Не трэба з гэтага рабіць кампанію па зборы грошай. Дапамажыце мне пражыць гэты час нармальна, звычайна — як усе людзі.

Кожнаму, хто глядзеў на мяне скоса, я гатовая была набіць морду. Мой гнеў накопліваўся некалькі месяцаў. І вось, седзячы ў бары, я адчула ўнутраны штуршок да дзеянняў. Вось мой адказ жорсткаму свету. Ён забіў мяне, а я заб'ю яго. І я магу гэта зрабіць.

Ён быў п'яны. Прывабіць яго — ніякіх праблем. Я даўно ўжо не кахалася, таму мая жаноцкая сіла была не да супрацьстаяння. Завяла яго да сябе. Мы не засцерагаліся. Мы дзіка кахаліся. Нястрымна. Мне хацелася яго разарваць на кавалкі. Ён быў добрым каханкам. Я сапраўды атрымала незямную асалоду, падвоеную смакам помсты гэтаму свету.

Мне было напляваць, што ён, напэўна ж, здраджвае сваёй жонцы. Напляваць было і на тое, як хутка ён здагадаецца пра хваробу. Я помсціла. У мяне СНІД.

Пасля той ночы я амаль цэлы дзень праседзела дома. На жаль, радасць ад помсты прайшла хутчэй, чым я спадзявалася. Наадварот, у галаву палезлі розныя думкі наконт таго, што я забіла нявіннага чалавека. Я нават напісала запіску з прызнаннем і аднесла яе ў бар. Пасля гэтага найлепш было б, каб зямля пада мной правалілася.

Ці я сама вінаватая, што мяне згвалцілі нейкія вырадкі? А ён… Яму проста не пашчасціла. І я з гэтым ужо нічога не зраблю. Нічога.

Я вярнулася дадому і адчула слабасць ва ўсім целе. Прыняла валідол і паспрабавала заснуць. Па дыягназе жыць мне заставалася не больш за месяц.

*Амад 0.4.*

Нягледзячы на тое, што мне абавязкова трэба было пагаварыць з Евай, я не пайшоў адразу дадому. Ногі завялі мяне зноў у бар. Халоднае надвор’е сагнала многа людзей, таму ў бары было шумна і душна. Я сеў за стойку, і да мяне звярнуўся бармэн.

— Слухай, Амад, табой цікавілася нейкая рыжавалосая дзяўчына. Мне здаецца, я бачыў вас учора разам.

— Што ты ёй сказаў?

— Нічога. Але яна прасіла перадаць табе вось гэтую запіску, — бармэн даў мне невялічкі канверт, які я схаваў у кішэню.

Мне не хацелася размаўляць і яшчэ больш не хацелася кудысьці ісці. Я выпіваў чарку за чаркай, у вачах пачынала мутнець. Як было б цудоўна павярнуць час, убачыць, як было добра, і не рабіць памылак. А было надзвычай добра.

Народ пачаў разыходзіцца. Мне рабілася дрэнна, і нарэшце галава пайшла кругам. Я не змог яе затрымаць, як і ўсё цела разам. Страціў каардынацыю і зваліўся з крэсла. Памятаю, як мяне паднялі, потым неслі і кінулі, пэўна, на ложак. І толькі адна п’яная ўшчэнт думка запаўняла маю галаву: вось я прачнуся — і ўсё будзе добра. Час павернецца назад, як пераматаны фільм, і ўсё будзе добра, будзе добра, будзе добра…

*Інтэрмедыя.*

*Хаман — забойца*
*Кнэйс — спакушальніца*
*Ніка — зайздросніца*
*Амад — здраднік, спіць*
*Лёры — нематэрыяльныя істоты без пачуццяў, без мімікі.*

*Пражэктар свеціць у цэнтр пляцоўкі. У гэтым свеце спіць Амад. У святло знянацку з розных бакоў урываюцца Хаман, Кнэйс і Ніка. Яны напужаныя і запыханыя. Кнэйс і Ніка падаюць у знямозе, Хаман трымаецца за бакі. Усе цяжка дыхаюць.*

**Хаман**: За мной гналіся…

**Ніка і Кнэйс** (разам): І за мной…(пераглянуліся)

*Тут усе глядзяць на Амада. Хаман спрабуе яго разбудзіць, але той толькі бурчыць у адказ.*

**Кнэйс**: Амад…

*Хаман і Ніка глядзяць на яе. Зверху спускаюць маску з абліччам Кнэйс. Кнэйс падымаецца і надзявае яе.*

**Кнэйс**: Жудасная пачвара… Я такіх ніколі не сустракала. Я сядзела ў бары, калі да мяне падышоў прыгожы хлопец. Ён ясна даў мне зразумець, чаго хоча, і я пагадзілася. У яго былі такія вочы, такога глыбокага колеру. Яны паглыналі мяне. Мы схаваліся недзе ў калідоры і пачалі палка цалавацца. Але як толькі я пацалавала яго ў губы, яго твар ператварыўся ў свіны. Вось з такімі велізарнымі ікламі. Я адштурхнула яго і пабегла прэч. Я крычала не сваім голасам, да хрыпаты. Бегла што ёсць сілы, але пачвара не адставала. Маё цела ўсё білася ў канвульсіях ад жаху. І вось я спатыкнулася. Упала і разбіла калена. Пачвара стаяла нада мной. З яе пашчы на мяне падала сліна. У пачвары быў такі мёртвы погляд. Нібыта нежывая галава глядзела на мяне. А за ім, за гэтым свінам, стаяў нейкі цень. У той самы момант, калі пыса свіна наблізілася да майго твару, я заплюшчыла вочы і… апынулася тут.

*Кнэйс здымае маску. Маска падымаецца ўгару.*

**Ніка**: Амад…

*Кнэйс і Хаман глядзяць на яе. Зноў з'яўляецца маска, але з абліччам Нікі.*

**Ніка**: Я ведаю, ад чаго мае праблемы. Чаму мне так дрэнна, чаму я стала алкагалічкай. Бо нарадзілася Беласнежка. Ёй пашчасціла ва ўсім, і, як вынік, мне стала дрэнна. Гэта такі несправядлівы закон, калі добра аднаму, дык некаму іншаму абавязкова павінна быць нядобра. Але вось я зрабіла так, што майго антыпода, Беласнежкі, не стала. Мой стан павінен быў палепшыцца, а стала толькі горш. І ўначы прыйшла Беласнежка. Я крычала ёй: «Ты нежывая, ідзі адсюль! Ты забітая, цябе няма!», але яна падыходзіла да мяне ўсё бліжэй і бліжэй. Яна трымала ў руцэ кухонны нож і хацела перарэзаць мне горла. І я пабегла. Я бягу, але ніяк не магу адарвацца. «Што ты хочаш ад мяне?! Я невінаватая! Гэта жыццё!», — крычу. Шукаю выйсце з лабірынту, які невядома адкуль узяўся. Перада мной шмат дзвярэй, але ніводныя з іх не адчыняюцца. Я прыціснулася спінай да сцяны. Маё сэрца калацілася так моцна, што кожны ўдар балюча адбіваўся ў галаве. Беласнежка паднесла нож да майго горла. Халоднае лязо пусціла кроў. Мой застылы позірк упаў на цень за Беласнежкай. Нібы гэта ён кантраляваў усё. У той момант, калі лязо ўпілася глыбей, я заплюшчыла вочы… і апынулася тут.

*Маска знікае. З'яўляецца маска Хамана.*

**Хаман**: Мне ўвесь час сніцца адзін і той жа сон. Да мяне ў келлю прыходзіць хлопец і пачынае спавядацца. А расказвае ён маю гісторыю. Мой учынак. Мой… Суд мяне апраўдаў, але нехта там, на нябёсах, — не. І вось я зноў у дзяцінстве. Бацька прыходзіць п'яны і пачынае біць маці. А я стаю і не магу нічога зрабіць, бо гэта ўжо было, і я не хачу паўтараць. Толькі я змушаны ўсё паўтарыць. Я штурхаю бацьку, ён падае і разбівае галаву аб вугал стала. Пасля гэтага суд. Мяне апраўдваюць. А мне ад гэтага лягчэй не робіцца ані кроплі. Я іду па вуліцы і раптам пачынаю бегчы. Я адчуваю на спіне чыйсьці погляд. Як быццам мяне трымае за сэрца рука — і пачынае яго сціскаць. Цісне і

цісне, кроў пачынае ліць у мяне з носа. І раптоўна зямля пада мной раскрылася. Я падаў у бездань і крычаў. А калі маё сэрца трэснула ад болю, мае вочы заплюшчыліся і… я апынуўся тут.

*Маска Хамана знікае.*

**Хаман**: Глядзіце, тут нейкая кніга *(бярэ кнігу і пачынае чытаць).* «Аднойчы маці сказала свайму сыну…»

**Ніка**: «Не хадзі ў сад па яблыкі, бо сад сцерагуць Лёры. Гэта стварэнні, якія не маюць пачуццяў, і яны абавязкова цябе пакараюць».

**Хаман**: «Хлопец пагадзіўся з маці. Хадзіў-хадзіў вакол саду і не ўбачыў ніякіх істот. Тады ён падумаў…»

**Кнэйс**: «Чаму я павінен стрымліваць сябе? Я ж хачу проста пакаштаваць яблык і не бачу, каб мяне штосьці стрымлівала».

**Хаман:** «І сарваў. Пакаштаваў смачных яблыкаў. Знянацку з'явіліся Лёры. Стварэнні са сляпымі вачыма, без якіх-небудзь эмоцый…»

**Ніка:** «… і яны нічога не рабілі, толькі глядзелі на хлопчыка. На хлопчыка, які не паслухаў маму».

**Кнэйс:** «Хлопчык перапужаўся. Пачаў смыкаць вокам. Ён падумаў, што насамрэч яму не так ужо і патрэбен быў гэты яблык, што неабавязкова было яго зрываць…»

**Хаман:** «Але было ўжо позна. Пад поглядам Лёраў хлопчык не змог прызнацца маці і ўтапіўся ў рацэ. Сад звяў. Маці ад тугі па сыну памерла праз некалькі дзён. Бойцеся погляду Лёраў».

**Ніка**: Бойцеся погляду Лёраў…

**Кнэйс:** Бойцеся погляду Лёраў…

Прачынаецца Амад. Ніка, Кнэйс, Хаман — разыходзяцца.

*Амад 0.0.*

Сонечны ранак. Мы з Евай ляжым на ложку і не хочам падымацца. А што яшчэ патрэбна, калі ты ляжыш разам з каханым чалавекам: дакранаешся пальцамі да яго скуры, глядзіш яму ў вочы і адчуваеш, як б'ецца яго сэрца пад тваёй далонню.

— Амад, скажы, што ты ніколі мне не здрадзіш.

— Ніколі, Ева. Я клянуся табе, ніколі.

І цалую яе. І так добра будзе заўсёды. Я не зраблю аніякіх памылак. Я не зруйную сваё жыццё. Я буду жыць вечна.

*Дадатак*

*Амад 0.5.*

Прачнуўся па абедзе. Надзіва, я адчуў лёгкасць на душы, нібыта за гэтую ноч усё палепшылася. Нібыта ўсё стала на свае месцы. Я быў у пакоі над барам. Праз акно прабіваліся сонечныя прамяні. Трошкі балела галава. Я падышоў да акна і адчыніў яго. Увабраў поўныя грудзі марознага паветра. Набраўся такой сабе ўпэўненасці дурня: усё будзе добра. Усё павінна быць добра.

Падумаў, што вось зараз я пайду дадому, сустрэну Еву, мы разам вырашым нашу праблему.

Сеў на ложак і выпадкова ўбачыў канверт ад той дзяўчыны. Што яна хацела мне сказаць? І так праз яе я апынуўся ў цяжкім становішчы. Пачаў адкрываць, але ў гэты момант зайшоў бармэн.

— Як ты?

— Нармальна. Дзякуй, што дапамог.

— Ну, гэта не праблема. Слухай, Амад, вось твой тэлефон. Ён выпаў, пакуль цябе неслі сюды, і я вырашыў не вяртаць яго, пакуль ты не праспішся. Табе жонка некалькі разоў тэлефанавала.

— Дзякуй.

Вось! І Ева таксама хоча са мной гаварыць, хоча ўсё вырашыць! Мы дарэмна баяліся адкрыта паразмаўляць.

Я адклаў убок канверт. Набраў нумар Евы.

— Алё, Ева, я хацеў…

— Не, гэта не Ева. Гэта Ніка. Амад, я павінна табе сказаць…

# Юлія Качан

## Пераход на зімовы час

**(урывак з аповесці)**

Яны так імкнуцца выглядаць добрымі людзьмі, што нагадваюць паедзеныя моллю часу звярыныя чучалы. Іх жарты хочацца сядзець і вычышчаць з памяці, нібы з-пад пазногцяў бруд. Пасля размовы з імі поўная ўпэўненасць, быццам усё робяць толькі для цябе, хоць заўжды разумееш — адны яны заўсёды ў выйгрышы. Ды што там, жыццё і так ужо разляцелася на дробныя аскепачкі…

— Кірыл Валер’евіч, чаго гэта ты расселся?

Кірыл падняў вочы на свайго калегу, якога так і распірала. Што, цікава?

— Я працую, працую.

— А ў мяне табе першая важная прапанова! Сапраўды, павер, важная! Не хачу, каб ты гніў у нашай духаце. Ты ж яшчэ такі малады хадзіць сюды штодзень нічога не рабіць. Ведаеш, я ў тваім узросце… О! Так прыемна пападарожнічаць, пажыць у пошуках прыгод…

— Ну, кажыце ўжо.

— Ёсць адно месца, куды цікава з’ездзіць, але шанец выпаў рэдкім адзінкам. І ўяві! Яны — ты!

«Якое яшчэ месца? Страшна падумаць, чаго ім ад мяне трэба».

— Што за яно? — спытаў Кірыл без энтузіязму.

— Мы неяк натрапілі інстытутам на раёнчык, пра які анічога невядома. Не тое каб так важна, але ні па этнаграфіі, ні па біялогіі, ні па гідралогіі — зусім. Правільна, канечне. Жывуць

людзі недзе на перыферыі, нас сабой не турбуюць, і не трэба. Але ў рамках усеагульнага маніторынгу… Адтуль проста дзяўчынка прыехала вучыцца, да нас захаджвала. Хачу, кажа, ці рыб, ці энтамалогію вывучаць. І рыбы, і праклятая энтамалогія для яе хутка закончыліся — памерла, з кім не бывае. Але тут аказалася, што яе гарадок, і раён, і мясцовасць у нас нідзе не фігуруюць. Ніводнай калекцыі, ні слова ў літаратуры, уяўляеш? Грошай крыху маем, рашылі хоць аднаго адправіць паглядзець. Можа, там нешта такое развялося! Збірайся.

Кірыл у душы проста разрагатаўся. Вось яна, навука! Ведаюць, каго трэба паслаць! А сапраўды, яго цяпер нічым не праймеш, нічым не зачэпіш. Эх, няхай бы і на край свету, дзе аблокі звіваюцца чарвякамі. Ніхто іншы, безумоўна, не паедзе, бо каму стануць гатаваць мучністыя жонкі, ад каго будуць хавацца распушчаныя дзеці?

— А дзяўчынка? Яна расказвала?—спытаў вучоны пры канцы.

— Не, нічога. Успомніць не магла, што там нават людзі робяць. Смешная такая, з раздзьмутым чэрапам.

«Вось спецыяльна паздзекавацца б… Якая наогул ім справа да раздзьмутых чарапоў?»

— Ехаць сёння трэба?

— Ну што ты. Заўтра.

— Можна, я зараз пайду?

— Не хвалюйся. Усё адно пасля ўбачымся.

«Канечне-канечне. Вы апошнімі даведаецеся, што мяне хвалюе».

Бабулька сядзела маналітам на важнай лавачцы, быццам свой будучы надмагільны помнік. Кірылу так востра захацелася сагнаць яе, што ён пачаў выбіваць пад нагамі камяні. Калі адзін з іх адскочыў ад згорбленай спіны, старая паднялася і знікла ў пад'ездзе, праклінаючы жоўтых катоў.

Не палегчала. Вясёлкавыя кругі перад вачыма зусім не памыляюцца. Ніколі не памыляюцца: Алена больш не бавіць час, самотна седзячы ў двары. Яе нідзе цяпер не зловіш…

Такая стала, начытаўшыся адсырэлых незразумелых кніжак на гарышчы нежылога дома. «А вінаваты хто?» — бліснуў Кірылу з пяску зялёны кавалачак шкла.

Ён не вытрымаў і ўсёй душой закрычаў сваім малавядомым багам: «Што вы патрабуеце ад мяне? Вазьміце і самі зрабіце як лепш!» Цэлы месяц не бачыць Алену… Раней побач з ёй Кірыл рабіўся вясёлым алігафрэнам, цяпер можна разлічваць толькі на маркотнага параноіка. «І тут былі твае вочы, і тут…» — мармыча сабе ды згадвае Аленіны рэзкія рухі. Як магла адбыцца іх сустрэча? Што цяпер? Чым цяпер пачынаць новае жыццё, лягчэй наноў нарадзіцца. «А з Аленай ужо ўсё?» — без даверу пытаецца ён у сваёй галавы. Хай толькі паспрабуе пікнуць — ён зробіць з галавой тое, што і з грэцкім арэхам. Нейкім забытым канкрэтным грэцкім арэхам.

На вакзале шумна, і нядзіўна. Толькі ён асцярожна выпіў кавы, як адразу пачаліся людзі: падыходзяць ды заглядаюць у вочы — нават у чаргу сталі — і не відаць гэтаму канца.

«Не забудзься кіслародную пробу ўзяць з кожнага вадаёма, буду рада, калі прывязеш дыятамей», — праводзіла яго адна супрацоўніца. Сама маленькая, высахлая да хрусту, з плеўкай катаракты на вечных акулярах. «Не забудзься мяне!» — патрабаваў аблезлы дзядок, папрасіўшы сторублёўку.

Ну і дзе тыя пасажыры? Дзе яны, хто ледзь не праз акно лез у цягнік, каб выехаць адсюль? Дзе тыя, што разваліліся было на цвёрдых паліцах, курылі, пілі атрутныя моцныя вадкасці і стваралі нязменныя чэргі ў прыбіральню. Уладкаваўшыся, яны паводзілі сябе так, быццам едуць да канца, і апошні прыпынак для іх сапраўды апошні — смерць. Ды з кожным дзясяткам кіламетраў іх шэрагі радзелі, а перад дальняй нейкай станцыяй яны зніклі зусім, забраўшы ўсё сваё прагорклае паветра, усе свае бязладныя размовы, усіх сваіх неверагодна стомленых дзяцей. Многіх насцярожвае ехаць далей, калі іншыя даўно выйшлі. «Я не баюся! Не баюся!!!» — шаптаў сабе Кірыл, каб не дрыжэлі рукі. Ён і так пераважна трымаўся акна. Што там было відаць,

сказаць цяжка: можа, чырвоныя вочы ашчэранага зайца ці шызыя агеньчыкі вёсак на даляглядзе. Ды гэта ніякім чынам не засмучала: цэлую дарогу можна было разважаць пра тых, хто мільгаў недзе за вокнамі, чыё жыццё назаўжды таямніца, і не думаць — не думаць! — пра сябе.

Цягнік, удосталь насмяяўшыся з непапраўнага лузера, выкінуў яго на лясной станцыі, якая незваротна страціла нават сваю назву. «Калі гэта і ёсць іхні горад, то лагічна, што я якраз тут і апынуўся, — не здзівіўся Кірыл. — Фіктыўны зарослы горад для фіктыўнага зарослага чалавека».

«Дурань!» — выпаўзла з травы няезджаная дарога, што імкнулася схаваць зморшчыны пад густымі слаямі лужын ды беднай неарыгінальнай расліннасці. Вучоны па ёй і паплёўся, не ведаючы, куды сябе падзець яшчэ.

Хмары апалонікаў шугаліся ад наскрозь мокрых ботаў. «Я ніколі не траплю ў іх аблупленую сталіцу раёна», — стомлена ўпаў няўдалы падарожнік на парослую чаборам узбочыну. І, вядома, не трапіў бы, калі б не праходзілі коні. Спакойна і ўпэўнена ішлі яны ўласна абранай дарогай. Скурчаны чалавечак са знакам нечага важнага на твары, што сядзеў ззаду, і сам быў бы рады выбіраць сабе дарогу, але яго штохвілінна, відаць, асаджалі філасофскія думкі, а коні не давяралі філосафам. «Куды ехаў, я вам не скажу, — адказаў ён на адпаведнае пытанне. — Ці у адзін нам бок? Цяпер усё можа быць».

«Тут адны мурашкі! Забярыце мяне адсюль!» — жаласна папрасіўся Кірыл. Мужычок хітра прымружыў вока: «Няўжо вы сур'ёзна на цягніку даехалі? Гы, гы… Вар'яцтва якое! Да нас з гэтага вашага горада аўтобус кожны дзень ходзіць. Цягнікі далёка, пры гэтым мы іх не прызнаем». Ды размовы далей не атрымалася. Кіроўца яшчэ хіба паказаў, дзе размясціцца, куды пакласці рэчы і ў які бок лепш глядзець. Толькі, калі яны ехалі, мінаючы дрэва за дрэвам, хвіліну за хвілінай, Кірыл зусім не вывучаў наваколле, ён утаропіўся ў гузік курткі і сур'ёзна задумаўся: «Нават розныя калгаснікі не паважаюць. Што мне самому застаецца?»

Лета тым часам даўно скончылася. Наскрозь усё прапахла густой і неверагодна казытлівай павуцінай. Дрэвы чакаюць снегу, каб закінуцца і дасягнуць жаданага эфекту непрысутнасці. Многія жывёліны таксама пачынаюць адчуваць, што сваё аджылі. Асабліва мітусіцца вусень. Ды ўсё адно яшчэ неверагодна цёпла і мёд у паветры.

А вы што думалі? Дзіўна ўсё гэта. Заціснуць цыгарэту зубамі і курыць, курыць, курыць… Дамы тут упоперак неба. Плоскія бездахоўкі-мікрацэфалы. Задуменна між імі снуюць людзі па вузкіх палосках чорнага асфальту. Нехта з некім вітаецца, каб пакрычаць страшным голасам. Атрымліваецца проста і шчыра. Такі светлы дзень. Але Кірыл не такі, ён удзячны і адсыпаў кіроўцу жоўтага парашку з запасаў невядомых рэагентаў (хоць бы раз далі вядомых!) ды пачаў чапляцца да мінакоў з пытаннямі. У стомленага пыльнай старасцю пенсіянера ён спытаў пра найбліжэйшую краму, з кругоў складзеная дзяўчына падрабязна расказала яму пра аптэкі, пра цырульню. Усё гэта захапляла. Вучоны пачаў лавіць аднаго за адным і дабівацца адказаў:

«Ваш горад напоўніцца некалі звярамі?»

«А праўда вы думаеце зусім не тое, на што выглядаеце?»

«І вы адчуваеце, як пустатой пахне?»

Яму адказвалі не менш, чым мелі ў галаве. Стараліся. Змейка тым часам грэла заскарузлыя бакі, залезшы ў ліхтар, і аказалася вышэй за ўсіх. Яе ўшчуваў дворнік з тварам вытанчанага марскога коціка: «Падумай! Так ты не зможаш… Лепш вярніся з цягам часу, я ліхтары потым і запалю!» Вужачка была ў адчаі. Не, труцень, ліхтары ты не запаліш: яны рашаюць самі, калі гарэць.

Далей выраслі грыбы: грыбы-хаты, грыбы-людзі. Нават у сабак поўсць была мох-мохам, калі яны выглядалі з-за зубастай шырмы сівых платоў.

— Дзе тут гасцініца? — нарэшце стаў выпытваць Кірыл.

— О! Гэта не важна. Вунь там пасяліся. Там надзіва любяць староніх людзей, — казалі ўсе ў адзін голас і паказвалі пальцам на шыферны дах застаялага дома.

Кірыл хацеў, канечне, сказаць, што гэтая чарапахападобная пабудова не для яго. І кветкі яму ні да чога, і галінастая антэна. І ўвесь набор фарбаў, што звялі на гэты самы дом. Жыццярадаснасць ніадкуль тут не выглядала. Кранала хіба бязногая котка, але і пры гэтым нязменна згадваліся валасатыя вусені.

На ганку, дзе ляжала котка, ён першы раз убачыў Марціна. Падлетак сядзеў у атачэнні трох кніг, раскіданых дыскаў, недарагіх цыгарэт ды яшчэ нечага, зусім ужо незразумелага. Выглядаў ён для такіх даволі тыпова: шэрыя джынсы, груваскі абутак, даўгія цёмныя валасы спераду падалі на твар, закрываючы яго зверху зусім, і сведчылі, пэўна, пра нейкую моладзевую субкультуру. Кірыл зайшоў у расчыненыя дзверы сам, а той нават вачэй не падняў. Але вучоны прызнаў, што гэта добра, бо ніякай справы да хлопца не меў.

А за дзвярыма, адразу ў пярэднім пакоі, прыгажуня з растрапанымі валасамі стаяла і піла малако. Вось яна сустрэла госця ветліва — ветліва, праўдзіва, надзіва ўпісваючыся ў інтэр’ер свайго пакоя. Блікі вачэй яе гарманіравалі з адбіткамі вокнаў на эмаляваным посудзе, зубы, якімі яна ўсміхалася, мелі колер столевай тынкоўкі, а сам твар свяціўся такім прыемным круглым святлом, як, напэўна, свеціцца вечарамі бледны шар плафона.

«Што яшчэ за радыяльная сіметрыя?» — здзівіўся госць, калі паспеў агледзецца і заўважыў некалькі дзвярэй, урэзаных у кожную сцяну дома.

— Мне сказалі, нібы тут можна жыць, — звярнуўся нарэшце ён да дзяўчыны.

— Ого! Ого! Хоць нешта зменіцца! — адрэагавала тая надта эмацыйна ды ледзь не кінулася на шыю. Вось і яна адзінокая, такая адзінокая. Але Кірыл палічыў за лепшае спачатку павырашаць свае праблемы:

— У доме акрамя вас яшчэ хто пражывае? — ён быў перакананы, што і прыгажуня, і хлопчык на ганку — дзеці маркотных гаспадароў такога жытла.

— Я не пражываю тут, у мяне ўласная кватэрка, а ў гэтых людзей бываць люблю. А, і вось: мяне Лізай завуць. Так мяне і называй, — першай пачала яна знаёміцца.

— Мяне Кірылам, калі хочаш.

Ліза пасля пацягнула яго выбіраць пакой з аднолькава пустых і вузкіх.

— Навошта вам іх столькі? — не ўтрымаўся ён.

— Паўтараю, дом не мой, спытаеш у гаспадароў, — сказала дзяўчына з крышталікамі раздражнення ў голасе. Але адразу ж прапанавала гарачай гарбаты і палезла па печыва. Наогул Ліза адразу здалася яму вельмі ват нічога. Недзе там, у галаве яе, без сумненняў, перагукваліся летнія лясныя птушкі, позвнія жукі пракладалі дарогі, хоць сама яна гэтага, можа, і не ведала. Каб працягнуць размову, Кірыл не прыдумаў спытаць нічога лепшага:

— Што за змрочны хлопчык сядзіць ля дзвярэй? Ён што, гот?

— Які яшчэ год? — нервова перапытала яна. — Марцін крыху не такі, як мы, але час тут ні пры чым. Проста так абставіны склаліся: з'явіўся аднойчы тут і пакуль нікуды не сыходзіць. Адны кажуць, што з лесу выйшаў, іншыя — што прыехаў са сталіцы. Па мне, дык, можа, і з космасу прыляцеў. Ён негаваркі, сам яго распытай. Я зараз вас пазнаёмлю. Дарэчы, нават гаспадары не памятаюць, калі ён з'явіўся, і даўно лічаць яго сваім сынам. Давай, пайшлі, — і пацягнула Кірыла зноў да дзвярэй.

— Братка, міленькі, паглядзі, хто да нас прыйшоў! Будзе жыць з намі. Памятаеш, як і ты некалі, — спрабавала Ліза хоць неяк адцягнуць Марціна ад недачытанай старонкі. І калі ў яе гэта атрымалася, Кірыл мог разглядаць ягоны твар ды секунд дзесяць спрабаваць зразумець, дзе ж у гэтым твары ўсё-ткі неадпаведнасць. Вось яно што… У чорных бязвокіх ямінах Марцінава аблічча — ніводнага водбліску. Кірылу прыгадалася адразу дзяцінства, як яны рабымі падлеткамі зазіралі ў выбітыя вокны нежылых дамоў, дзе стыла толькі чорная пустата.

— Ты не думай, — перахапіла Ліза позірк Кірыла. — Ён, наш маленькі, усё і так бачыць. Гэта, як я разумею, наступная прыступка эва… эвала… Развіцця людзей! Вось… А то нам ледзь што з… хрусталікам — адразу акуляры на нос.

Ну што тут скажаш?

Пакуль некаторыя напружана спрабавалі даўмецца, аб чым жа паміж сабой пагаварыць, падпаўзла тонкая, як яшчарка, котка

і пачала лашчыцца да ботаў. Ліза схапіла яе адразу за мяккі карак з расцягнутай шкурай і закінула ў корч бэзу. Апынуўшыся ў безвыходным становішчы, котка так і заснула, чакаючы добрых людзей. Эх, такая рашучая гэтая Ліза!

# Кацярына Макарэвіч

## *

не трэба глядзець у твае вочы каб здагадацца
што заўтра і такой магчымасці можа не быць
прасцей уяўляць твае рукі
чым быць захопленай імі ў палон
шум сонечных промняў перашкаджае засяродзіцца
і палічыць колькасць сівых валасоў
якія срэбранай квеценню апанавалі каштан
падзяляю толькі на простае і складанае
не зважаючы што ты разумееш усе варыянты
мне б хацелася сядзець на якім-небудзь радку
рэалістычнага рамана
а ў выніку
я толькі алюзія на саму сябе

## картаграфія

высмактаць з завулкаў кожны твой след
кожную секунду тваёй прысутнасці
сабраць з вуліц адлюстраванні
позіркаў мінакоў
хаду
позех
усмешку
усе твае словы

іх танальнасць і гучнасць
дыханне
жэсты
а пасля згарнуцца абаранкам
і знікнуць паміж аблокаў

*

не паспяваю занатоўваць
і толькі зажмурыўшыся
дадаю маленькую дэтальку:
вейкі твае настолькі вострыя
што колюць мой позірк

*

*В.*

кожная цукрова-ватная аблачынка
мае свае ўспаміны якія дзеля зручнасці
захоўваюцца дзе-небудзь у пухнатай барадзе
вялікага але вытанчанага воблака
можна глядзець у неба і спадзявацца
што ты варты каб цябе ўспомнілі
а можна
трымаць на кончыках вуснаў матылька
і нічога не абяцаць

*

навошта спадзявацца на невядомасць
калі пальчаткі ўсё роўна пахнуць тытунём
навошта шкадаваць сваю ўпартасць
у пагоні за сусветам акуляраў і позіркаў
глядзець у вока калейдаскопа
і акрамя стракатых шкельцаў
ані нічога не бачыць
выпускаць з запясцяў гнілыя вершы
самаробныя пачуцці ды бязважкія пытанні
нашто ўсё гэта калі вядома
што Тая Самая Кніга Адказаў
яшчэ не напісана
а таму і вучыцца чытаць пакуль што рана

*

у кабіне ліфта цыркулюю паміж паверхамі
чакаю калі ён адкрые сваю металічную пашчу
і выплюне мяне акурат
у папяровую цішыню калідора
дзе мой погляд будзе блізарука гойсаць
па чарнільных ценях
і накрухмаленымі пальчыкамі
абмацваць тоненькія грані гарачыні
навобмацак шукаючы полымя тваёй постаці

сярод шэрага мармеладу лесвічных пралётаў
спяшаюся на тэрыторыю тваіх уладанняў

*

валодаеш стосамі крохкіх слоў
кішэні набітыя бліскучымі гукамі
часам ты корпаешся ў іх
і літасціва частуеш мой слых
якой-небудзь смачнай цікавосткай
працінае ад халадэчы шкадавання:
кожны дзень трапляючы ў завею
даносіш да мяне ўсяго некалькі
сняжынак на каўняры

*

горшай за малако з мёдам можа быць толькі
двайная порцыя гэтай атруты
горшай за тваю адсутнасць у маіх думках
толькі трайная
каму дзякаваць невядома
але я не п’ю малака ўвогуле
не стаўлю кропак і асцярожна выбіраю
іншыя знакі прыпынку
на пунктуацыю ў гэтае лета
зыбкае вострае і невыносна лёгкае
я забылася
у млыне памяці пастулова становіцца пылам
зерне халодных павек і заблытаных літар

*

на варце нечаканасцяў
канцэнтраваны жнівень
паміж Купалаўскай і Кастрычніцкай

карамель сустрэчы
твая рука лёгкая як крыло
на размах не хапіла часу

*

выдатна ведаю каму
Венера падаравала
свае рукі

# Андрэй Пакроўскі

## Калякаляднае

Аднойчы дзед Мікалай вырашыў адпусціць бараду. Усё, барада, ты ўжо зусім дарослая, цяпер ты вольная, можаш рабіць што хочаш, ідзі куды хочаш, я больш табе не гаспадар. Барада паглядзела на дзеда, сумна ўсміхнулася, надзела капялюш, паправіла акуляры, узяла парасон, хацела была абняць свайго былога ўладара на развітанне, але той спыніў яе. Барада паціснула плячыма й выйшла на вуліцу. Ля пад'езда яна сустрэла чорныя вусы, што вышлі на вечаровы праменад. Гэ-гэй, каналля, радасна ўсклікнулі яны. Можа, у кабак? — прапанавала барада. Вусы толькі моўчкі кіўнулі.

У бары не было дзе прадыхнуць, здавалася, што сёння туды прыйшлі ўсе — бакенбарды, косы, пэйсы, шчацінне, пазногці, а пасярод памяшкання пад святочнай ёлкай на самым высокім крэсле сядзела вялікае і мажнае піўное пуза і радасна ўсім пасміхалася. Прысутныя па чарзе падыходзілі да яго, станавіліся на табурэтку і чыталі вершы альбо спявалі песні. Пуза задаволена пляскала ў ладкі, даставала з меха падарункі і ўзнагароджвала імі маладыя таленты. Камусьці дасталіся нажніцы, камусьці пенка для галення, камусьці адэкалон, камусьці грабянец, а нехта атрымаў нават электрабрытву «Бердск-9».

Дзед Мікалай тым часам сядзеў на кухні, еў кетчуп і штучны цукар. Свежае зімовае паветра залятала ў пакой і абдзімала голыя шчокі прыемнай прахалодай. Нарэшце я вольны, нарэшце адведаю ўнукаў, пап'ю шампанскага ў вузкім сямейным коле, паем мандарынаў. Можа, нават атрымаю нейкі падарунак. Спадзяюся, гэта будзе не электрабрытва.

## пра андрэя

жыў-быў хлопчык, яго звалі антонам, але насамрэч ён быў андрэем. што за хуйня, запытаеце вы, спакойна, не хвалюйцеся, зараз усё патлумачу. проста ягоныя бацькі вельмі хацелі антона, але ў іх нарадзіуся андрэй. нічога, сказаў тата. нармальна, перажывем, пагадзілася мама, ну і што, што андрэй, ніхто ж пра гэта не ведае, мы проста будзем выхоўваць яго як антона. і яны пачалі выхоўваць андрэя як антона, накуплялі яму розных энцыклапедыяў па гісторыі, геаграфіі і рэлігіязнаўстве з вялікай колькасцю ілюстрацый, пачалі вадзіць яго ў тэатры, оперы і балеты. бацькі вазілі сына ў еўропу, у парыж, паказвалі луўр, кармілі багетам і круасанамі і ўсё такое. карацей, займаліся як маглі ягонай эстэтычнай адукацыяй. але антон быў усё ж такі андрэем. гэтая ўся хуята, музеі, выставы і тэатры, вечарыны паэзіі й іншы кал яго зусім не цікавілі, яму было больш даспадобы катацца на ровары, ганяць у футбол, біць суседскія вокны, піздзіцца з аднакласнікамі, нюхаць клей па будоўлях, піць піва з кулькоў па лесапаркавых комплексах і начных вакзалах, курыць «саюз» і іншую срань на лесвічнай пляцоўцы разам з дзядзем андрэем, суседам з 65-й. урэшце бацькі здаліся. ладна, сказаў тата, ладна, сказала мама, з нашага сына не выйшау антон, бо ён самы сапраўдны андрэй, але ўсё ж такі ён наш сын, мы яго любім, тут ужо нічога не зробіш, добра яшчэ, што андрэй, а не нейкі там сяргей, сяргей гэта ўвогуле гаўно рэдкае, вядома, калі гэта не сяргей жадан, але жадан, мне так здаецца, таксама насамрэч андрэй, проста ягоныя бацькі чамусьці хацелі сяргея.

## Тэма кахання ў творчасці пісьменнікаў-абсурдыстаў

Ганна-Марыя і Жан-Поль пазнаёміліся ў клубе ананімных алкаголікаў для тых, каму за 30. Яны адразу зразумелі, што створаныя адно для аднаго. У іх было шмат агульнага. Жан-Полю падабалася тое, што падабаецца Ганне-Марыі. Адноль-

кавыя любімыя рэжысёры, пісьменнікі, паэты і музыкі. Агульныя любімыя расліны, жывёліны і птушкі. Адныя і тыя ж любімыя гарады. Абодва былі лінгвістамі-перакладчыкамі і абодва не працавалі па спецыяльнасці. Абодва пісалі вершы і добра малявалі. Нават любімы колер быў у іх аднолькавы — жоўта-зялёны. Здаецца, не было на свеце людзей больш падобных, чым гэтая пара. У хуткім часе яны вырашылі пажаніцца.

— Толькі я хачу захаваць сваё дзявочае прозвішча, я вельмі пяшчотна стаўлюся да яго, яно мне вельмі падабаецца, да таго ж я надзвычай люблю сваіх бацькоў і вельмі іх паважаю, хоць яны і мудакі. Я не магу проста так адмовіцца ад іх прозвішча, — папярэдзіла Ганна-Марыя свайго каханага, калі яны пайшлі рэгістравацца ў ЗАГС. — Ты ж не пакрыўдзішся, Жан-Польчык?

— Я — не, — мовіў Жан-Поль, — але вось мае бацькі, яны, пэўна, не зразумеюць гэтага, бо яны таксама вельмі ганарацца сваім прозвішчам, і калі ты ад яго проста так адмовішся, яны, магчыма, возьмуць і не прыйдуць на вяселле, дый увогуле парвуць з намі ўсе стасункі, бо яны тыя яшчэ мудакі, але я іх вельмі люблю, я хачу, каб у нашых будучых дзяцей было шчаслівае дзяцінства, з бабулямі й дзядулямі, разумееш...

— А ведаеш што, давай тады я вазьму тваё прозвішча і ў той жа час захаваю сваё, падвойныя прозвішчы, кажуць, сёння ў модзе.

— Так, падвойныя прозвішчы — гэта файна. У мяне самога падвойнае, Брайт-Гагарын.

— Чаму ты раней ніколі не згадваў аб гэтым? — запытала Ганна-Марыя.

— Ды ты не пытала ніколі...

— Ведаеш, каханы, мне патрэбна табе штосьці сказаць... Я падманула цябе, калі сказала, што мае прозвішча Рубінштэйн... Насамрэч я — Павіч-Чырвоная.

— Значыць, ты хочаш стаць Павіч-Чырвонай-Брайт-Гагарынай Ганнай-Марыяй Абдул-Саідаўнай... Па-мойму, гэта нейкі абсурд...

— Абсурд. Але ж мы персанажы пісьменніка-абсурдыста, нам, можна сказаць, яшчэ пашанцавала, добра яшчэ, што ён

пісаў гэтае апавяданне цалкам цвярозым і не для конкурсу абсурдных апавяданняў «Чацвераногая варона», добра яшчэ, што ён не ўкладваў табе ў вусны свае думкі. Скажы дзякуй, што ён не надзяліў цябе сваім выглядам і светаадчуваннем, тады б мы ніколі не сустрэліся, табы б мы ніколі не пакахалі адно аднаго, а так бы і засталіся проста наведнікамі клуба ананімных алкаголікаў для тых, каму за 30, дзе ён нас упершыню і сустрэў...

— Ты вельмі мудрая жанчына, Ганна-Марыя, ты маеш рацыю і прыгожыя сіські, — сказаў Жан-Поль сваёй нарачонай і пацалаваў яе ў вусны ля дзвярэй ЗАГСа.

Яны жылі доўга і шчасліва і памерлі ў адзін дзень. У дзень свайго вяселля. Ад палёнай гарэлкі.

*

Аднойчы я пайшоў у школу без галавы. Кажучы шчыра, гэтае аднойчы, апасля таго аднойчы, здаралася ўжо не аднойчы й не двойчы, і нават больш за тройчы. Гэта ператварылася спачатку ў добрую традыцыю, а потым ужо і ў звычку, якой немагчыма пазбавіцца нават пры дапамозе спецыяльных пластыраў. Апасля мяне ўсё болей і болей навучэнцаў нашай школы пакідалі свае галовы ў хаце, гэта з цягам часу ператварылася ў нешта кшталту моды. Дырэкцыя спрабавала змагацца з гэтаю з'яваю, але, як і ў выпадку з джынсамі, барацьба скончылася безвынікова. Адзінае, што яны здолелі зрабіць, дык гэта прымусіць усіх насіць на грудзях бэджык з імем, прозвішчам і групай крыві.

Ведаеце, часам бывае, прачнешся а сёмай і думаеш, можа, лепей яшчэ паўгадзіны паваляцца, сэканоміўшы час на сняданку, галенні й водных працэдурах... Менавіта ў адну з такіх раніцаў я і пакінуў галаву дома. Я ўстаў з ложка, а тая засталася ляжаць на падушцы. Яна так салодка спала, што я не адважыўся будзіць яе. Я накрыў яе коўдраю, каб яна не замерзла, і пагладзіў па

шчацэ. Няхай яшчэ паспіць, падумаў я. Апасля накіраваўся на кухню, наліў у шыю два кубкі гарачай кавы і пайшоў апранацца. Усё было як звычайна, апроч таго, што капялюш я не адзяваў, бо нашто капялюш, калі ты пакінуў галаву дома.

Сёння на вуліцы часцяком можна сустрэць чалавека без галавы. Гэта нават не ўспрымаюць як фізічны недахоп. Людзям без галавы ўжо не саступаюць месца ў трамваі, без галавы вы ніколі не праедзеце па ільготным талоне за палову цаны. Тады ўсё было інакш, на мяне азіраліся, паказвалі пальцам, нават адзін раз праверылі дакументы.

Праз усю гэтую ўвагу на першы ўрок, матэматыку, якую я вельмі не любіў, а тая адказвала мне ўзаемнасцю, я, вядома, спазніўся. Калі я зайшоў у клас, усе сядзелі і ў нечалавечых пакутах вылічвалі значэнне дыскрымінанту.

— Ты спазніўся на дзесяць хвілінаў. Дзённік на стол, — сказала настаўніца, нават не паглядзеўшы на мяне.

— На жаль, я забыў яго, — адказаў я.

А на галаву ты не..., — яна не здолела дакончыць фразы, бо мой выгляд яе, напэўна, вельмі здзівіў. Так, вучань без галавы — гэта зусім не тое, што вучань з галавою. Яна моўчкі загадала мне сесці, махнуўшы рукою ў бок маёй парты, дзе я ўжо трэці год сядзеў з завуканкай і шасцёркай Наталкай Прайгерман, якую з невядомай прычыны надзвычай кахаў, а тая, у адрозненне ад матэматыкі, аніяк не жадала адказваць мне ўзаемнасцю.

Мой першы дзень без галавы праляцеў як адно імгненне. І вось я ўжо зноў ля свайго ложка, а галава так і ляжыць на падушцы. Я пагладзіў яе па шчацэ, лёг побач і ў хуткім часе заснуў.

*

— Дык вось, пытанне на мільён рублёў: «Колькі ўзмахаў робіць еўрапейская ластаўка за секунду? Варыянт A: 23, B: 33, C: 43, D: 53».

Я не ведаю адказу на гэтае пытанне, таму я скарыстаю падказку «званок сябру».

— Каму мы будзем тэлефанаваць?

— Майму сябру.

— Гэта Максім Галкін, гульня «Хто хоча стаць мільянерам?». Ваш сябра...

— ЦЭ, — не даў яму скончыць голас сябра са слухаўкі, і праз секунду ўжо былі чутныя кароткія гудкі.

— ЦЭ, — адказаў і я імгненна, не даўшы Галкіну прыйсці ў сябе.

— Але ж... ён нават не чуў пытання, — здзівіўся Максім Галкін.

— Я веру свайму сябру як роднаму брату.

— Ну ЦЭ дык ЦЭ, — быў вымушаны пагадзіцца вядоўца.

Напружаная цішыня — і раптам заміргалі лямпачкі, заспявалі фанфары, зала з усяе моцы запляскала ў ладкі.

— Віншую вас. Вы выйгралі адзін мільён рублёў. Як збіраецеся патраціць грошы?

— Палову я, вядома, ахвярую на дабрачыннасць, а другую… прап'ю.

На наступным тыдні я сядзеў у кавярні разам з сябрам і прапіваў другую палову.

— Але ж... скуль ты ведаў адказ на пытанне, якога нават не чуў.

— Усё вельмі проста, — адказваў сябар, — гэта быў паўтор ад 2.03.07, але ў той раз ты памыліўся...

# Аліна Радачынская

## Афіша

Памаранчавы пачак у нафталіне.
Толькі сёння!
Дэбютная пляска камароўскай бабкі!
Бонус — семкі ўсім прысутным!

Распродаж шкарпэтак!
333 разы бегалі ў краму па марозіва.
Грэйпфрут, шакалад і мята
Для Афеліі. На шчасце.

Struggle! Бойка!
Прысутнасць з адсутнасцю.
Перамагае коўдра і гарачы душ пад раніцу.

Шэптам:
Раз, два, тры. Раз, два, тры…
Трымаю спіну…
А хтосьці, дакладна рыжы,
Усё гуляецца электродзікамі:
Сыходзяцца, разыходзяцца.
Сыходзяцца, разыходзяцца.

* * *

гэта як у Гомелі
плыць па Севастопальскай вуліцы
ў дзіравай галёшы
мелісавым водарам.
кроплі. кроплі. у золаце.
трапяткое існаванне.
і сябра анёлкам побач.
радасць мне!

* * *

Хутка буду пісаць утульныя зімовыя вершы,
Апекавацца ільдзінкамі,
А чалавецтва зажыве шчыльней.
Прырода зноў перамагае.
Бо холад — прадвеснік смерці,
І душа міжволі рыхтуецца.
Адно кантралёры па-будзённаму —
Злыя.
Не кожная праца патрабуе чалавечнасці.

## Яна! Яно?

шаснула! цела восені працяла
скрыгоча, гарбатая,
касцямі па аблоках.
дзіравіць, кульгавая,
локцямі неба.
глядзі! хутка скоціцца! скоціцца!
і ляснецца на зямлю мокрым!

## Пра ўзаемаадносіны полаў

Ты жывеш і не маеш спакою.
Праз трымценне, праз здраду, праз мрою,
Праз упартасць уласную, смутак…
Замінае пачысціць абутак.
І ад гэтага так ты злуешся,
Што ўвесь свет памылковым здаецца.
І прыводзіць цябе ў абурэнне,
Аж губляюць грунтоўнасць каменні.
Невыносная лёгкасць быцця,
Як прыкмета чужога жыцця,
Не дае табе думаць і есці,
Прымушае на сцены лезці.
І сядзіш там, нібыта пацук,
Крытыкуючы ўладу і друк,
І не ведаеш ты аднаго:
Як я прагну кахання твайго.

# Антон Рудак

## Наша будучыня

Дзяды жылі на беразе ракі,
А потым адышлі на іншы бераг.
Нас раздзялілі доўгія вякі
Чужое мовы, звычаяў і веры,
Але мы чуем продкаў галасы
І адчуваем іхнюю прысутнасць,
Прыходзячы ў сасновыя лясы,
Якія ад адчаю берагуць нас.
Мы вернемся, як абяцалі ім,
Мы выжывем — хай гэта немагчыма,
І праз тысячагоддзі паглядзім
У будучыню іхнімі вачыма,
Бо мы сабе не крэслілі мяжы
І будзем жыць і множыцца бясконца,
У краі, дзе каменныя крыжы
Растуць, сагрэтыя праменнем сонца.

## Рабінавая ноч

Зорка падае долу, бы пераспелы яблык —
Бойка на зорным полі — Бог змагаецца з д’яблам.
Крочаць па небе грозна богавы й чортавы войскі,
З неба страсаючы зоры проста на нашую вёску.

Неба рыкае громам, лье на зямлю няспынна,
І наліваюцца кроўю цяжкія гронкі рабінаў.
Коцяцца валам грымоты, крэсляць абсяг маланкі,
І не сціхае бойка аж да самога ранку.

Валяцца на абшары пераспелыя зоры,
Падаюць у гушчары ды ў лясныя азёры.
Бойка ўжо адгрымела, сцішыліся нябёсы,
І перуновыя стрэлы стынуць у ранішніх росах.

## Пурпуровае неба над горадам М.

Я люблю пурпуровае неба над домам маім,
Калі дзень адгарэў, калі ў вокнах пагасла святло,
І смарагдавых зорак нябачныя кроплі на ім,
І каб цэлую ноч да світанку няспынна ліло.

Я люблю, калі пахне язмінам і летнім дажджом,
Калі лісце кранае бязважкага ветру павеў,
Калі фары машыны, што едзе аціхлым дваром
Мне на сталі малююць карункі галінкамі дрэў.

Я люблю папаліць ля акна месяцовай парой,
Калі ў шыбы дрыготкімі крылцамі б’юць матылькі,
Калі едзе апошні тралейбус па вулцы маёй
І калі па чыгунцы на захад ідуць цягнікі.

Дапалю, цыгарэтны за спінай развеецца дым,
А калі я засну, мне прысніцца мой горад і двор,
А яшчэ — пурпуровае неба над домам маім
І нябачныя воку суквецці смарагдавых зор.

## Валодзя Караткевіч на беразе Дняпра

Вецер хмары па небе ў сумёты збіраў,
І яны застывалі ў маўклівым спакоі.
Сумны хлопчык сядзеў на адхоне Дняпра,
А краіна драмала ў снягах за ракою.

«Бог пакінуў яе. Пэўна, з дзесяць вякоў
Як забыўся аб нашай няшчаснай радзіме,
Дзе не тое што цмокаў — няма й ветракоў,
Ані Донаў Кіхотаў, каб біліся з імі.

Ён пайшоў і пакінуў нас з ёю саміх —
Дык на чорта малітвы да гэткага Бога?»
Раптам снег прыпыніўся і вецер заціх —
Бог схіліўся і сумна глядзеў на малога.

І пакуль феерверкі ляцелі ўгару
І клалося ў снапы пад сярпамі калоссе,
Ён пайшоў — і адзін нарадзіў Беларусь,
І для першага разу някепска ўдалося.

## Чароўная песня Нямігі

Аб’явы прыпынкаў ужо не ідуць з галавы,
У горадзе шумна і тлумна, няўтульна і пыльна.
Замкнутыя дзверы сабору і жоўтай царквы,
На Ракаўскай вуліцы спіць некранутая Вільня.

Ты крочыш па горадзе, дзе ні хвіліны не жыў,
Ён іншы, чужы і ніколі табе не належаў.
З-за новай Нямігі прыцішана, бы з-за мяжы,
Азваўся апоўдні гадзіннік на ратушнай вежы.

Разбітыя мары, і часу няўмольнага такт
Удар за ударам табе адмярае. Дванаццаць.
Ты хочаш навечна застацца ў аціхлых дварах,
Пайсці, заблукаць і ніколі назад не вяртацца.

Чароўная песня ліецца, нібы з-пад зямлі
Няміга спявае і плача, няўцешна і глуха,
А ў небе кружляюць анёлы, нібы матылі,
І горад стары засыпаюць таполевым пухам.

## Трамвай

Уяўляеш, я спазніўся на трамвай —
Год на семдзесят, а можа, і паболей.
І раптоўна агарнуў мяне адчай,
Што ніколі, разумееш, аніколі

Мой трамвай не прагрукоча, як раней,
Па старой сталічнай вуліцы цэнтральнай,
І званок ягоны ўжо не скалане
Цішыню глухую гарадскога рання,

Што ніколі не сустрэне ён мяне,
І дарэмна я чакаю на прыпынку
Можа, «двойку», што блукае, нібы ў сне,
Можа, хуткую імклівую «адзінку».

Той трамвай ужо адбегаў, адзвінеў,
Не прыедзе, не адчыніць свае дзверы —
Ён загінуў на няскончанай вайне
Разам з горадам, што жыў, кахаў і верыў.

## Могілкі Менска

Могілкі Менска даўно абярнуліся скверамі,
Зніклі крыжы, надмагіллі зраўнялі бульдозеры.
Толькі злавесна-трывожнымі плямамі шэрымі
Даўняе места хаваецца ў спляжаным горадзе

Там, дзе сабакі й каты беспрытульна бадзяюцца,
Дзеці дурэюць пад сонцам на скошанай траўцы,
Дзе патрулююць мянты і збіраюцца п’яніцы,
Дзе кожны вечар Дзяды і штораніцы Радаўніца.

## На вакзале

Месца сустрэчы нязменна,
З сонцам вясновым ці снегам —
Пункт прыбыцця-адпраўлення,
Альфа твая і амега:
Звонка імкнуцца трамваі,
Дрэмлюць у скверы анёлы,
Нешта ізноў паўтарае
Дыктаркі стомлены голас,
Чэргі таўкуцца ля крамаў,
Гукі рынгтонаў і мату,
Варта праходзіць ля брамы
У камуфляжных бушлатах,
Дробненька сыплецца дожджык
Па навакольных кварталах...
З вежы на мокрую плошчу
Знічкаю ўпаў недапалак.

## Элвіс ідзе па праспекце

Ранак спявае над Менскам,
Танчыць на вуліцах квецень,
Горадам коціцца вестка —
Элвіс ідзе па праспекце.

Не па ТВ, не ў газеце —
Баба адна расказала:
Элвіс ідзе па праспекце —
Проста, куды ні папала.

Песня ліецца праз вокны,
Тэксты кладуцца на вецер,
Элвіс смяецца ў натоўпе,
Элвіс ідзе па праспекце.

Маці ўсміхаецца дзецям,
Муж усміхаецца жонцы,
Элвіс ідзе па праспекце
І усміхаецца сонцу.

Хто павядзе мільёны?
Хто вынаходзіў тэтрыс?
Хто ганаровы донар?
Хто разлівае «Бэйліз»?

Хто разгружаў вагоны?
Хто падымае ветразь?
Дзеці, скажыце, хто ён?

— Элвіс!

Вядома, Элвіс.

# Пінгвінам

Калі пінгвіны з выраю вяртаюцца,
Скідаючы з паддашкаў ледзяшы,
Па каляінах сноў на брукаванцы
Праводзяць пальцам першыя дажджы.

Каб пасля працы віцца дымам з комінаў,
Нараніцу вяртаючыся зноў,
І падглядаць у прыцемках, як стомлена
Міргаюць вочы сонныя дамоў.

# Яна Санько

* * *

Сена маё вымакла, дровы сплылі па рацэ
Я гляджу на пінокіё ў хвалях і не бачу ў ім ворага
Няёмкасць і несвабода — у маёй вільготнай руцэ
Калі я цягну з цябе кашамір
Гэта так дорага

* * *

кіпіць чарапахавы суп на дне
мяне, і прабіты панцыр.
я камень і іду тапіцца ў дзвіне,
а там чарговыя танцы.
я наведваю берту, сэрца-кулёк,
набіты салодкай чарэшняй,
ёй сплёўваюць косткі ў вуха: алё?
і ўсе прараслі, канечне.
ты, берта, скачы на адной назе,
абдымай сябе карагодам,
каб выжываць без агню ў тайзе
яго высакосных згодаў.
людзі, вядома, хацелі б не нас
а тое, што ў нас гарыць.
у берты заканамерны адказ:
слёзы, мікроб, гаймарыт
і поўныя парафіну лісты.
ён заўсёды адказвае: ясна.

дадае пасля: перастань, астынь,
я люблю ў табе ўсё, што згасне.
бо любоў калупае вялы гранат
рабром, і ад слова «выбар»
руіны страляюць, нібы цыферблат,
цалуючы кожны твой выбух.

* * *

сокал ля локця сядзець занудзіцца
нітка з балкона дастане воблака
спусціць люстэрка для страхалюдзіны
дасць ёй надзею, сляды пад вокнамі
пер'е на косах нібы з падушкі
зерне ў пантофлях, курлы ў горле
пашпарт падкажа, што ты за птушка —
рэдкі няўдачнік, канюк, падорлік
кніжка твая як цытатнік мао
атлас несумяшчальных з заўтра
але народжаных недарма, а
тутэйшых-цяперашніх
дыназаўраў

* * *

здам экзамен буду рыдаць
пайду па сваёй вадзе кругамі
дарагая ўранавая руда
адкажы, калі ты яшчэ з намі
калі нешта купіш за нашую медзь
і пранізлівых позаў начное срэбра,
калі можна ўвогуле зра зу мець
пакажы каго, я займуся ім
непасрэдна

* * *

ты на цэлае неба надзеў трыко
даў дажджу тупыя-тупыя нажы
і
на батуце стрункай тугім рыўком
адскокваеш — так мы чужыя
вяртаешся ў нейкія з гэтых дзён
ад сонца колеру алычы і
дакранаешся пцічы сваёй ладдзёй
але я тут ані пры чым
і
магу патрымаць твой ровар п'яны
за сталёвы завостраны локцік
не заўважыць няёмкасці, крывізны
і заснуць у пазычанай кофце.

* * *

света! з цябе высыпаюцца гузікі
ноч адгрызае ад кофты каўнер
мой недавер апраўданы музыкай
з горла якой ты гаворыш у сне
так на імгненне гірлянда зайчыкаў
кіпцем артэрыю будзіць, голас
робіцца госцем у лёгкім плашчыку
госцем начным і даволі голым.
жахі нас робяць вясёлымі, жахі
з лямантам інвертуюцца ў шчасце
не выкідвай тых, хто цябе пужае
а любі і думай, куды іх скласці.

* * *

ранам — быць,
ты лепей вастры лязо
не на ўсякі выпадак, а на любы
каб зваліцца тры, а не сто разоў
калі мора высунецца з трубы
і пачне ад людзей адмываць метро.
абяцай далёка не заплываць
у чужых вачах — абмінай нутро,
учапіўшыся за бервяно брыва.
рана быць, навучыся хаця б бываць,
затрымаўшы плач у іржавым кране,
ўсё адно не вернецца караван
да наступнага свята куста герані.
і пакуль гадзіннік зграбае ваду
ў берагі павек — не паставіць кропку,
толькі коску крыўдную: не пайду,
мы ўсе разам ляцім да зор
паасобку.

# Цімур Хоміч

* * *

калісьці я здымаў
на дваіх з прыяцелем
аднапакаёвую кватэру
па вуліцы Кузьмы Чорнага.

у кватэры былі
брудныя жоўтыя шпалеры.

я прачынаўся на світанку
ляжаў на сваім ложку
ў цесным няўтульным пакоі
і глядзеў на сцяну
аблепленую гэтымі старымі шпалерамі
з бруднымі ружовымі кветкамі
вельмі брыдкімі кветкамі.

я бачыў як з акна
на гэтыя кветкі
апускаюцца сціплыя
плітачкі святла
на кветках пачынала
блішчаць раса
і я разумеў: гэта слёзы
старога габрэя
які некалі жыў
у гэтай кватэры.

аднойчы
ён выйшаў
на спатканне
са смерцю
трымаючы ў руцэ
гэтыя брудныя
брыдкія
ружовыя
кветкі.

* * *

яе звалі, мажліва, Маша; у мяне
шмат знаёмых Машаў
таму я нават не памятаю дакладна
ці сапраўды яе звалі Машай.

у інтэрнаце літінстытута
на падваконніку
я казаў ёй шэптам, што я
выдатны каханак
а яна казала, што ад мяне
непрыемна пахне гарэлкай

(у той дзень сапраўды
мяне пачаставала
таннай расійскай гарэлкай
паэтка з Навасібірска)

праз чатыры дні
я купіў квіток на цягнік і
з’ехаў у Менск

седзячы ў плацкартным вагоне
я ўспамінаў, як гэтая самая Маша
плакала
і жалілася на тое
што маючы акторскую адукацыю
яна вымушаная працаваць
за 500 рублёў у масоўцы
што не мае жытла
што ніякая яна не літаратарка
а паступае ў літінстытут
дзеля інтэрната
няўжо ў гэтым жыцці
казала яна скрозь слёзы
чалавек не можа нават трахнуцца
як чалавек
а павінен вось тут
у прыбіральні
на ўнітазе
як сабака

мне хацелася забіць яе
бо я не ведаў
як яе суцешыць;
бо атрымлівалася
што схлусіў ёй
і каханак я ніякі.

## Мыйшчыца посуду

пажылая, вельмі хворая, збірае ад'едкі
ў цэлафанавы пакунак, лагодна
ўсміхаецца, просіць мяне,
каб я аддаваў ёй харчовыя рэшткі. Для парасятаў?
пытаю я. Для парасятаў, кажа яна і зноў усміхаецца.

Аднойчы ў вольны час я знайшоў яе ў шатні
за чытаннем Новага Запавету, яна
зірнула на мяне і сказала, што за кожным з нас
назіраюць анёлы. Яны глядзяць на нас
праз нябачныя
аптычныя прыстасаванні, адсочваюць
нашыя дзеянні, нашыя ўчынкі.

Калі я нёс ёй пакет з сапсаваным рысам, старэйшы кухар
спыніў мяне
і растлумачыў, што гэтак рабіць не варта,
калі заўважаць, будуць праблемы.
Я не зразумеў яго, гэты рыс
нікуды не прыдатны,
у любым выпадку
я выкіну яго
на памыйку.
Карацей, як заўгодна,
але
лепш выкінь.

Я так і зрабіў —
у рэстаране
вядзецца
відэаназіранне.

## Лекам

я хачу напісаць верш
і прысвяціць яго лекам
сіропам
мікстурам
мазям
прыпаркам
вадкім

у выглядзе таблетак
у капсулах
у ампулах
словам
якім заўгодна.
мне здаецца
гэтага ніхто не рабіў
але ж мне здаецца
трэба было б
таму што без «ЦЫТРАМОНУ»
які я амаль штодня прымаю
мне прыйшлося б даволі кепска
як, зрэшты, і без «ПІРАЦЭТАМУ»
у мяне звужэнне сасудаў
галаўнога мозгу.
«ГАСТАЛ»
таксама нядрэнная штука
параўнацца з ім зможа
хіба што «СМЕКТА»
ці «АЛЬМАГЕЛЬ»
але неяк ад «АЛЬМАГЕЛЮ»
мяне ледзь не званітавала.
«ВАЛІДОЛ»
няблага здымае сардэчныя болі.
«ФУРАЦЫЛІН»
я п'ю ад паносу.
у апошні час
зусім здалі нервы
таму калі вам я
падамся залішне спакойным
ці нават магчыма крыху блазнаватым
ведайце
так уздзейнічаюць на мяне браміды
а калі вы пагрукаеце мне ў дзверы
і я адчыню вам голы

не думайце што я займаўся сэксам
ці мастурбацыяй
не я
змазваў цела
«КЛАТРЫМАЗОЛАМ».
хто ведае, што гэта за мазь
ужо зразумеў, мусіць, на што я хварэю.
яшчэ ў мяне ёсць сяброўка
імя яе Маша
дык вось, яна абяцала
аддаць мне свае
антыдэпрэсанты
яны ёй, напэўна, не патрэбныя цяпер.
увогуле лекі
вартыя, на мой погляд
таго, каб ім прысвячалі
вершы
і больш за тое
паэмы.

дарэчы, нядаўна
мне мама даслала
нейкія пакістанскія «таблы»
для пячонкі
з дэбільным назовам
«БАНДЖЫГАР».
кажа
параілі ў аптэцы.
але прымаць іх
я не пачаў

ЯШЧЭ...

* * *

мне заўжды падабаўся адзін паэтычны вобраз —
вобраз дзіцяці.

бадай што найлепшым вершам найлепшым вядомым мне вершам
я назваў бы верш Ўолта Ўітмэна: уявіце сабе
кожнай раніцай
дзіця выходзіць на шпацыр
і ўсе што яму трапляецца па дарозе
трава, герань ці канюшына
жывёла, чалавек ці дрэва
усё робіцца яго часткай, усё
што яно бачыць і чуе
робіцца яго часткай
увесь свет
робіцца ім.

тры гады назад я напісаў рэмінісцэнцыю
на гэты твор, толькі ў адрозненне
ад славутага песняра дэмакратыі
маё дзіцятка мела нейкі
занядбаны
чэзлы
напаўзвар’яцелы выгляд

мажліва, ужо тады я здагадваўся
што некалі прыйду

(занядбаны
чэзлы
напаўзвар’яцелы)

НА ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ
МЁРТВАГА ВЕРША.

## Верш, напісаны за паўгадзіны да таго, як нічога не здарылася

вы ведаеце? не? а я ведаю
дакладней я здагадваюся пра гэта
я здагадваюся што хутка адбудзецца нешта
але пакуль не ведаю што
я ляжу на ложку няголены апрануты
я страшна стаміўся ад усяго гэтага
я думаю што ўсё яшчэ можа пайсці
па-іншаму
пры адной умове
трэба навучыцца не быць
мудаком
нармальны чалавек!
вось вяршыня да якой трэба цягнуцца
прыклаўшы ўсе сілы
волю і спрыт
о, як бы мне хацелася навучыцца быць ім
нармальным чалавекам
не баяцца натоўпаў стадыёнаў начных клубаў
чэргаў у гіпермаркеце
палюбіць аўтамабілі і захапляцца
выдатнымі літымі дыскамі
і выдатнаю падвескаю
перадужаць агіду
ад галівудскага кіно каб
мець магчымасць пабалбатаць
пра новы фільм у кампаніі
навучыцца ўрэшце
зарабляць грошы блядскія грошы грэбаныя паперкі
яны любяць гэтакіх
пранырлівых хлопцаў
з развітаю драпежнай сківіцай

і велізарнымі
як вёслы
кісцямі рук
вы напэўна
сустракалі гэтых хлопцаў
яны як правіла
зусім неадукаваныя
не ведаюць хто такі
Арыстоцель або Капернік
нічога не чулі пра
фенаменалогію і сінергетыку
не адрозняць эксгібіцыяністаў ад
экспрэсіяністаў
але
яны дакладна скажуць
колькі каштуе ваш мабільны
раз на яго зірнуўшы
яны ведаюць па імёнах
амаль усіх таксістаў у горадзе
усё што вы купляеце яны купяць
у тры разы танней
працуючы памагатым адміністратара рэстарана
або да прыкладу прадаўцом-кансультантам у краме
моднага адзення
такі хлопец
прымудраецца зарабляць да ста даляраў у дзень
левага прыбытку
невядома якім чынам
паспрабуйце абвесці яго вакол пальца
вы зразумееце што кружыце
вакол яго рукі
такі павук
гадоў у сорак мае ўласную
фірму альбо краму
альбо яшчэ што-небудзь
але абавязкова штосьці мае

а я не такі
таму
ляжу на ложку
як апошні зломак
як апошняе гаўно
і думаю
ці адбудзецца нарэшце
што-небудзь
ці я проста здурэю ад усяго гэтага

* * *

падымаючыся па прыступках на пяты паверх
дзе месціцца мая кватэра
я прачытаў на маркотнай завэдзганай сценцы:

Я КАХАЮ ЦЯБЕ, ВЕРАНІКА.

чамусьці стала самотна
і захацелася напісаць
гэты верш.

## Ганка Шэпт

* * *

…І несла промні на плечах,
І крокі купала ў расе…

Добрай раніцы, мой чалавеча,
Я прыйшла да цябе

Знаць рукі твае
Ведаць радзімкі твае
Чуць уздыхі твае
Бараніць вусны твае

Скажы, што ласку маеш.
Мне так яе не стае…

* * *

ні актор
ні паэт
ні мастак
не паверыць
што можа быць так
невыносна

* * *

ціха так...
падслухваю восень
за вокнамі
шэпча дажджом
і першай лістотаю
у кубку вада набрыняла
зялёным з карычневым колерам
вочы яго?
палітра лета і восені?
горка так…
праліла гарбату
на сшытак
з хайку недапісанымі
лета недапісанае
стыне ў даўкім напоі
мрою
і
не стрымаць ужо
думак няспраўджаных
шматгалоссе
мокра так…
на стале і за вокнамі
хайку
дапісвае восень

## нізка sms

1.
гарбата
коўдра
новы вечар

(мая
будзённая
галеча)
а дэжа вю
інакш не хоча

я абяцала:
добрай ночы

2.
соннае лісце
лужын кранаецца
(а што
каб вось так
цалаваць
твае пальцы?)
я за фіранкамі
восень схаваю
мілы, дабранач
спі
баю-баю

3.
...а пакуль
зашывацца ў коўдру
ад світанку
што на шпалерах
расквітае
у гуках hibryd
і каб цемень —
без канца-краю...

тваe сны
сваёй smsкай
падглядаю

4.
блукаюць
вусны
глытаюць
«любы»
шукаюць
рукі
дотык
гарачы
расплюшчу
вочы
самотны
ложак
прыснілася
ледзь не плачу

5.
з табою
ў гэны чацвер
няхай сабе зноў
размінуся...
я буду сніць
неўскі праспект
далёкі мой
сні беларусю

6.
мне б не спазніцца...

сутоння пялёсткі
майткі
панчошкі
парфумы пах дзёрзкі
на вусны — памаду
нахабнасць — на вочы
збіраюся сніцца вам
добрай ночы

## Габі габі

**(лірыка і драма ў адной асобе)**

габі габі габі
я хачу на ручкі
вазьмі мяне на ручкі
гэта ж твае ручкі?
а скуль ты з’явіўся?
з неба скаціўся?
котка злавіла?
ластаўка звіла?
а дзе твае словы?
    на вуснах сканалі
а дзе тыя вусны?
    дзеўкі пакралі
а дзе тыя дзеўкі?
    багна ўцягла
а дзе тая багна?
    кветкамі парасла
а дзе тыя кветкі?
    рукі парвалі

для ганкі? а рукі?
ганцы пісалі
а дзе лісты тыя?
я не чытала
я не чытала
я не чытала
па ветры адправіў
і ён дзьмуў з усходу?..
а чуеш ты чуеш
вецер на сходах
гойсае-вые
ён за табою?
схопіш падскокнеш
над зямлёй рабою
паляціш да «недзе»
неба ўгледзець
чыёсьці дзіце
«там хлопчык, глядзіце!»
возьмеш з сабою?
не пытай дарма
габі габі габі
а мяне няма

*(заплакала. заслона)*

# Змест

